Алесь Аркуш

# Захоп Беларусі марсіянамі

Раман

Выдавецкая ініцыятыва «Полацкае ляда»
2016

На вокладцы выкарыстаная графічная праца
*Юрыя Якавенкі.*

Падзеі ў рамане «Захоп Беларусі марсіянамі» адбываюцца ў сярэдзіне 20-х гадоў мінулага стагодзьдзя і на пачатку XXI стагодзьдзя пераважна ў Полацку. Сярод галоўных герояў твора вядомыя гістарычныя асобы: паэты Алесь Дудар і Міхась Чарот, палітычны дзеяч, гісторык і пісьменьнік Вацлаў Ластоўскі. У 1925 годзе ў Полацак прыехаў Алесь Дудар, адзін са стваральнікаў літаратурнага аб'яднаньня «Маладняк». У старажытным горадзе над Дзьвіной ён павінен заснаваць філію сваёй пісьменьніцкай арганізацыі...

**ISBN 978-??????????**

# Частка першая

Зіма не сьпяшалася прыходзіць. Стаяла цёплае восеньскае надвор'е. Увогуле нічога не папярэджвала гэтаму дзіўнаму сну. Мінуў звыклы дзень са звыклымі жыцьцёвымі клопатамі. Надышоў вечар. Полацкі пісьменьнік Васіль Кроква з паўгадзінкі пагартаў стужку сяброў у сваім «Фэйсбуку», наведаў некалькі інфармацыйных сайтаў. Ніякіх адметных падзеяў за мінулы дзень не адбылося — ані ў Беларусі, ані ў сьвеце.

Кроква прысьніў Власта, прычым той быў у нейкім напаўразбураным памяшканьні. Будынак нагадваў корпус закінутага цэху. У сярэдзіне будынка ўся падлога была засыпана друзам. Праз прабоіну ў сьцяне Васіль пабачыў абрысы полацкай каменнай пажарнай вежы — значыць, гэта недзе ў раёне помніка Сімяону Полацкаму, падумаў ён. Але там няма ніякіх прамысловых аб'ектаў. Хіба што толькі гаражы мясцовай пажарнай часткі.

Кроква адразу пазнаў Власта. Ластоўскі быў дакладна такі, як на клясычным фотаздымку, — у сьціплым шэрым гарнітуры, з вузкай стужачкай гальштука. Мужчыны павіталіся, але толькі на словах. Власт руку не падаў, а Кроква не насьмеліўся гэта зрабіць. Пры гэтым абодва размаўлялі неяк тэлепатычна, іх вусны

былі нерухомыя. Тады Крокве гэта не падалося незвычайным. Толькі нараніцу, асэнсоўваючы сон, ён згадаў гэтую дзіўную акалічнасць.

Власт паклікаў Крокву ісьці за ім. Яны мінулі цэнтар закінутага памяшканьня. Роўна ў сярэдзіне будынка ў столі была дзірка, праз якую на падлогу, амаль вертыкальна, падаў прамень. У зыркім сьвятле віравалі клубы пылу, як мільярды плянэтаў у невядомай галяктыцы. Кроква заўважыў, што побач з гэтым промнем абрысы постаці Власта захісталіся і згубілі выразнасьць. Але калі Власт пайшоў далей, гэтыя зрокавыя хістаньні зьніклі. Насупроць чарговай прабоіны ў сьцяне Ластоўскі спыніўся. У пэрспэктыве праспэкту Францыска Скарыны праглядаўся буданак полацкай мэрыі. Усё яго левае крыло пужала чорным колерам, відавочна гэта сталася ў выніку або пажару, або нейкага моцнага задымленьня. Над будынкам лунаў незразумелы сьцяг з вэртыкальнымі чорнымі палосамі.

— Полацак захапілі марсіяне, — сказаў Крокве Ластоўскі.

— Але ж я ўчора днём быў у гэтым будынку — ніякіх марсіянаў там ня бачыў, — зьдзіўлена прамовіў Васіль, хутчэй для самога сябе, бо зараз абгарэлую мэрыю ён мог назіраць на ўласныя вочы.

— Больш таго, яны ўжо захапілі ўсю Беларусь, — дадаў Власт.

— І што цяпер рабіць? — разгублена спытаў Кроква.

— Трэба ратаваць Бацькаўшчыну. — Вусны Ластоўскага заставаліся нерухомымі, але Кроква выразна пачуў гэтыя словы.

— Як ратаваць?

— Напрыклад, напісаць кнігу з назвай «Захоп Беларусі марсіянамі», — адказаў Ластоўскі.

— І гэта ўсё?! — Вочы полацкага пісьменьніка акругліліся ў трывожным зьдзіўленьні.

— Гэта толькі пачатак, але мусіш ужо заўтра пачаць працу. — Голас Ластоўскага гучаў без якіх-кольвечы пачуцьцяў, як у ваеначальніка, які павінен рабіць выгляд, што ўсё пад кантролем, няма чаго хвалявацца, і калі ня будзем губляць галавы, то пераможам.

Прачнуўшыся, Кроква сеў на ложак і хвілінаў дваццаць асэнсоўваў сон. У сьне ён не паабяцаў Власту, што напіша раман «Захоп Беларусі марсіянамі». Да таго ж назва гэтая яму абсалютна не падабалася. Якія яшчэ марсіяне?! Але нейкае трывожнае пачуцьцё вярэдзіла душу.

* * *

Дваццацігадовы Алесь Дудар прыехаў у Полацак цягніком з Віцебску. Лютаўскі дзень ужо хіліўся на вечар. На вакзале Алесь пачаў распытваць, як яму адшукаць рэдакцыю газэты «Полоцкий пахарь», але ягоную рафінаваную беларускую мову ня кожны мог тут зразумець. Можа з трэцяга запыту яму дапамагла чарнявая дзяўчына, якая патлумачыла, як прайсьці да будынка, у якім месьцілася рэдакцыя. Дудар меў накіраваньне на працу ў полацкую акруговую газэту.

Лютаўскі мароз хутка пачаў даймаць паэта. Ён пэрыядычна хаваў твар у каўнер свайго кажушка,

які шмат пабачыў на сваім вяку. Поўсьць авечкі захоўвала пахі роднага бацькоўскага дому, і гэты ўспамін таксама саграваў хлопца. Дудар сьпяшаўся трапіць у рэдакцыю — часу яму бракавала. Паэт мог застацца проста пасярод вуліцы, калі нікога не засьпее.

Па дарозе Алесь думаў пра беларускі горад. У цягніку ён увесь час чуў беларускую мову, большасьць людзей у вагоне былі вяскоўцамі або жыхарамі невялікіх мястэчак. Яны абмяркоўвалі віды на ўраджай, кошты на полацкім кірмашы, нейкія свае турботы і клопаты. Але як толькі Алесь ступіў на вакзальны пэрон у Полацку, як мова нібыта адразу зьнікла. Горад сустрэў яго расейскай гаворкай. Так было і ў Віцебску, дзе ён месяц адпрацаваў у тамтэйшай газэце. Вось і ягоныя звароты да полацкіх чыгуначнікаў не былі зразуметыя. У такіх выпадках Дудар часам пераходзіў на расейскую мову, але гэтым разам заўпарціўся і пачаў шукаць іншага суразмоўцу. Заўжды яму рабілася прыкра і балюча. Чаму так? Гэтае пытаньне ён задаваў сабе сотні разоў. Мелася некалькі адказаў, але ўсе яны не задавальнялі Алеся. Ён зноў і зноў вярэдзіў сваю душу тым балючым пытаньнем, спрабуючы знайсьці ня толькі адказ, але і спосаб, як гэтую праблему разьвязаць. Для Дудара не было ніякага іншага варыянту будучыні роднай Беларусі, як толькі ў разьвіцьці і пашырэньні роднай мовы. «Беларусі перадусім не хапае нацыянальнай культуры», — казаў сабе Дудар. Таму, па вялікім рахунку, і была заснаваная Дударом і яго па-

плечнікамі літаратурная арганізацыя «Маладняк». Каб несьці культуру ў беларускія масы. А пад словам «культура» маладнякоўцы мелі на ўвазе і беларускую мову. Бацькі-заснавальнікі «Маладняка» марылі пра стварэньне філій літаратурнай арганізацыі ў кожным беларускім горадзе і нават у невялікіх мястэчках. Таму Дудар і прыбыў у Полацак як місіянэр беларускай культуры, няхай сабе і пралетарскай, але перадусім беларускай.

Будынак, дзе месьцілася рэдакцыя, Дудар знайшоў хутка — ён знаходзіўся амаль на цэнтральным пляцы горада. На шчасьце, паэт засьпеў рэдактара газэты на працоўным месцы. Гэта быў мужчына сярэдняга веку, гадоў на дзесяць-пятнаццаць старэйшы за яго. На рэдактары красаваўся пакамечаны гарнітур мышынага колеру. Стомленыя вочы чыталі нейкія паперы, якія бязладна грувасьціліся на стале. Дзьверы ў кабінэт былі адчыненыя. Дудар лёгка грукнуў у іх і прывітаўся:

— Добры дзень!

— Здравствуйте, товарищ! Присаживайтесь. Через пять минут я освобожусь. Тут, знаете, срочно нужно вычитать материал — прислали из окружкома. И как всегда за несколько часов до сдачи номера.

Дудар сеў на адзін з венскіх крэслаў, якія стаялі ля сьцяны насупраць стала. Нейкай іншай мэблі ў пакоі не было. Складалася ўражаньне, што рэдактара сюды засялілі часова. Далі стол

і крэсла. Працуй, таварыш. Прыйдзе час, гэтак сама хутка высялім, як і засялілі. Памятай пра гэта і не будуй далёкасяжных плянаў.

«Я б цябе прыбраў ужо сёньня ж, русацяп», — незадаволена падумаў Дудар.

— Ну вот и всё, — выгукнуў рэдактар, расьпісаўся на паперах, якія чытаў, і некага гучна паклікаў: — Володя, зайди-ка быстренько.

У суседім па калідоры пакоі адчыніліся дзьверы і да рэдактара зайшоў хлопец прыкладна аднаго ўзросту з Дударом.

— Вот, готово, теперь можно нести в набор. Сгоняй, Володя, в типографию. Скажи, что я просил оперативно набрать, чтобы ещё сегодня вычитать.

Хлопец узяў паперы і выйшаў з рэдактарскага пакоя.

— Слушаю вас, товарищ. Вы что-то написали для нашей газеты? — нарэшце рэдактар зьвярнуў увагу на незнаёмца.

— Я да вас прысланы на працу, — адказаў Дудар, устаў з крэсла і падаў складзеную ў столку паперу, якую ўжо некалькі хвілін камечыў у руках.

Рэдактар узяў паперу, разгарнуў і пачаў яе вывучаць. Ён прачытаў усё да канца і нават надпіс на пячатцы агітацыйна-прапагандысцкага аддзелу Віцебскага акружкаму.

— Вот и отлично, — сказаў рэдактар, — нам как раз нужна помощь. Мы ждали вас. Нам звонили из Витебска. Сейчас я вам напишу бумагу, чтобы вас поселили в общежитие. Это тут рядом. Володя вас проведёт.

Рэдактар пачаў пісаць паперу з просьбай пасяліць новага працаўніка газэты.

Дудар устаў з крэсла і падышоў да вакна. На вуліцы ўжо шарэла. Сонца нясьпешна качілася за званіцы вялікага сабору, які стаяў на другім баку пляцу.

* * *

Васіль Кроква быў фрылансэрам — пісаў для некалькіх газэтаў. Гэта дапамагала яму ўтрымліваць сям'ю. Занятак літаратурай у Беларусі ў XXI стагодзьдзі амаль не прыносіў прыбытку. Гэта, хутчэй, было пакліканьне. Беларусь заўсёды трымалася на літаратуры і паўстала зь літаратуры. Прыкладна так лічыла большасьць беларускіх пісьменьнікаў. Васіль Кроква пісаў, бо ня мог не пісаць. У літаратуру ён прыйшоў як паэт у далёкія студэнцкія гады. Але калі ён сур'ёзна пасталеў, дык адчуў, што мусіць ствараць вялікія празаічныя творы, каб было прасторна ягоным думкам, якія шчодра раіліся ў ягонай галаве. Кроква ніколі не арыентаваўся на нейкія моды, запатрабаваньні выдаўцоў або на патрэбу замежнага чытача. Ягоныя раманы былі гермэтычныя і скіраваныя выключна на беларускую аўдыторыю. Замежнікам яны былі б зусім не зразумелыя. Таму Кроква цураўся модных літаратурных тусовак і хаваўся ад усяго сьвету ў ціхамірнай правінцыі. Пасьля сканчэньня ўнівэрсітэту ён адмыслова ўзяў разьмеркаваньне ў Полацак. Тут ён стварыў сям'ю, стаў журналістам і напісаў свае лепшыя літаратурныя творы.

Кроква верыў у свой лёс. Лёс трэба вычуваць і не імкнуцца рабіць тое, што табе не наканавана. Васілю здавалася, што калісьці, у іншым жыцьці, ён ужо жыў у Полацку. Кроква быў перакананы, што ў нейкіх таемных куточках яго мозгу захоўваюцца ўспаміны пра гэта. Часам яны фрагмэнтарна адкрываліся ў начных відзежах. Таму ён вельмі сур'ёзна ставіўся да сноў. Толькі ў адрозьненьне ад традыцыйнага іх успрыманьня, як нейкага зашыфраванага прадказаньня будучыні, Кроква бачыў у снах напамін пра мінулыя падзеі, якія нікуды не зьнікаюць, а дзесьці існуюць у іншай рэальнасьці.

Сон, у якім ён сустрэўся з Ластоўскім, выбіваўся са звыклага ўспрыняцьця сьненьня, да якога звыкся Васіль. Ластоўскі ня быў зь мінулага. Гэта абсалютна дакладна зразумела Кроква. І пры чым тут марсіяне? Ніякіх больш-менш сэнсоўных тлумачэньняў сну Кроква не знаходзіў.

Васіль дзеля цікавасьці схадзіў у мэрыю, наведаў аддзел капітальнага будаўніцтва, дзе ўзяў інфармацыю пра ўзьвядзеньне новага супэрмаркету ў мікрараёне Аэрадром, дзе ён жыў. Мэрыя была такая ж самая, як ўчора і пазаўчора. Ніякіх сьлядоў пажару на будынку не было. Кроква нават пашукаў месца, адкуль ён з Ластоўскім аглядаў будынак мэрыі. Але такога месца не існавала ў прыродзе. Бо калі глядзець на будынак з праспэкту Францыска Скарыны, то бачны толькі адзін бок мэрыі, а ня ўвесь будынак.

* * *

Уладзік Скуратовіч аказаўся добрым хлопцам. І пакуль яны разам ішлі ў інтэрнат, Дудар амаль пасябраваў зь ім.

— А ты всё время говоришь по-белорусски? — гэта было другое пытаньне, якое задаў Дудару яго новы знаёмец.

— Ну, а як я павінен гаварыць, калі я беларус і жыву ў Беларусі? — Такія пытаньні заўжды нэрвавалі юнака, але гэтым разам Алесь стрымаўся і не пачаў дыскутаваць.

— Так-то так. Только в белорусских городах практически все не говорят по-белорусски. Вот и наша газета выходит по-руски.

— Да пары да часу. Рэвалюцыя разьняволіла народы, і беларусы пачынаюць адраджаць сваю Бацькаўшчыну. А якая Бацькаўшчына бяз матчынай мовы? — скаламбурыў Дудар, засьмяяўся і прадэклямаваў: — Панясласе песьня волі між лясоў густых, балот...

— О, это строки Михася Чарота, он выступал в Полацке, читал свою поэму «Босыя на вогнішчы». А ты хоть видел живого Чарота?

— Ня толькі бачыў, але разам зь ім працаваў у газэце «Савецкая Беларусь». І разам ствараў «Маладняк». Можна сказаць, што гэта мой сябар.

— Да ну! — зьдзівіўся Ўладзік. — Так и ты, наверное, поэт?

Уладзік спыніўся і пачаў пільна аглядаць Дудара. Даць веры таму, што гэты хлопец у пацёртым кажушку таксама паэт, было цяжка.

— Не «наверное», а паэт Алесь Дудар, мае вершы ўжо друкаваліся ў «Савецкай Беларусі».

А хутка выйдзе мая першая кніга «Беларусь бунтарская».

— Ух ты! — яшчэ больш зьдзівіўся Ўладзік. — Почитаеш мне когда-нибудь? Признаюсь, я тоже пробовал писать стихи. И даже некоторые из них были напечаны в нашей газете. Но мне кажется, они не совсем удачные, чего-то в них не хватает.

— А гэта таму, што пішаш не на роднай мове. Ты думаеш па-беларуску, гэтаксама як твае бацькі і дзяды, а вершы пішаш па-расейску. Таму і не атрымліваецца. Вершы твае нараджаюцца калекамі, у іх няма моўнай мастацкай дакладнасьці і прыгажосьці. Разумееш?

— Возможно, оно и так, — пагадзіўся Ўладзік.

— Вось створым у Полацку філію «Маладняка» і пачнем адпаведную працу. Прыедуць нашыя хлопцы, пачытаюць лекцыі. Пара Полацку ставаць на нацыянальныя культурніцкія рэйкі. — Дудар меў даручэньне ад Цэнтральнага бюро «Маладняка» стварыць у Полацку філію, як гэта ён ужо зрабіў у Віцебску.

Навокал зусім стала цёмна. Бадзёра рыпеў сьнег пад нагамі. Уладзік прывёў свайго новага калегу ў адзін з будынкаў былога езуіцкага калегіюму, які быў пераабсталяваны пад інтэрнат. Тут жылі пераважна вайскоўцы і навучэнцы 43-х полацкіх камандных курсаў. Але спыняліся і розныя цывільныя камандзіраваныя. Пахадзіўшы па нейкіх закутках, Уладзік прывёў мажную кабету, якая загадвала гаспадарчай часткай. Дудар паказаў ёй паперу ад рэдактара, кабета прачытала і павяла паказваць Алесю ягоны ложак.

* * *

Кроква любіў Ластоўскага. А ягоную аповесьць «Лябірынты» лічыў сваёй настольнай кнігай. Прыканцы 80-х, калі Власта і ягоную літаратурную спадчыну нарэшце рэабілітавалі і надрукавалі ў часопісе «Маладосьць», Кроква збрашураваў часопісныя старонкі і зрабіў кнігу. Ня ўсё ў гэтай аповесьці было яму зразумела, але наяўнасьць нейкай таямніцы, якую трэба разгадваць, прымушала глядзець на «Лябірынты» ня толькі як на мастацкі твор. Гэта азначала, што да аповесьці трэба было вяртацца зноў і зноў. Кроква быў упэўнены, што Ластоўскі нешта зашыфраваў у «Лябірынтах». Нешта вельмі істотнае ды ізатэрычнае.

Тое, што ў Полацку былі, а можа і зараз ёсьць, падземныя хады, не было адкрыцьцём. У любым старым беларускім горадзе знойдуцца свае ўласныя легенды пра сутарэньні і лёхі. Звычайна іх будавалі ў крэпасьцях і кляштарах. Гэта дазваляла заможным асобам або мніхам пры небясьпецы пакінуць сваё жытло незаўважна. У гэтых сутарэньнях таксама хавалі ад хцівага вока скарбы і каштоўныя рэчы.

Полацак быў поўны легендаў пра падзямельлі. З краязнаўчых кніг нават былі вядомыя ўспаміны людзей, якія на пачатку XX стагоддзя ў тых лёхах пабывалі.

Васіль верыў у гэтыя легенды. Больш таго, ён лічыў, што ў тых лёхах да сёньня перахавана нешта вельмі істотнае для Полацка. Магчыма, нават Полацкі летапіс, пра які ўсе казалі, што ён страчаны назаўсёды. Але як тыя лёхі адшукаць?

Васіль некалькі разоў старанна абсьледаваў усе закуткі Замкавай гары. Са сталёвым прэнтам ён аблазіў нават зарослыя бальнягом і кустамі стромкія схілы ракі. Нічога, аднак, падазронага не знайшоў. Калі нейкі ўваход або выхад з падзямельля тут і існаваў, то, відавочна, быў засыпаны пластом зямлі.

Кроква вылічыў і месца, зь якога Ластоўскі з Падземным Чалавекам спускаўся ў полацкія лёхі. Недзе побач з тым лазам стаяў некалі будынак Базыльянскага кляштару. Цалкам магчыма, што Ластоўскі спускаўся ў падзямельле са склепу таго будынка. Бо ўсе манастырскія камяніцы ў Полацку мелі свае дрэнажныя лёхі для адтоку грунтовай вады. Некаторыя мелі такую вышыню, што па іх можна было, сагнуўшыся, вольна хадзіць.

* * *

Стварыць філію «Маладняка» ў Полацку аказалася яшчэ складаней, чым у Віцебску. Дудар абышоў усе ўстановы культуры і адукацыі ў горадзе ў пошуках патэнцыйных сяброў літаратурнай арганізацыі. Але знайсьці творчых людзей у правінцыйным зрусыфікаваным Полацку было ня так проста. Найбольшае расчараваньне Дудара чакала ў мясцовым пэдтэхнікуме. Тут ён меў гутарку з выкладчыкам Аляксандрам Пшчолкам, які наўпрост сказаў юнаку, каб той не баламуціў навучэнцаў і ўвогуле палачанаў, бо «белорусы не принимают в обиход этот язык».

З такім нахрапістым адмаўленьнем Дудар сустрэўся ўпершыню.

— Ведаем, адкуль вы набраліся гэтых думак. Але ранейшыя часы ня вернуцца, як бы вы ні хацелі і ні імкнуліся іх вярнуць, — са злосьцю прамовіў Дудар.

Словы гэтыя яму даліся ў знакі, бо Пшчолка напісаў скаргу ў акружны камітэт. Маўляў, грамадзянін Дайлідовіч яго абражаў і абвінавачваў невядома ў чым, ледзь не ў контррэвалюцыі. Насамрэч пільны выкладчык толькі зрабіў вымову юнаку за тое, што той без дазволу цягаўся па пэдтэхнікуму і бунтаваў навучэнцаў.

Дудара выклікалі ў агітацыйна-прапагандысцкі камітэт акружкама, дзе яму прыйшлося даваць тлумачэньні.

Па-іншаму сустрэлі Алеся ў Полацкім лясным тэхнікуме. Тут пераважна вучыліся вясковыя дзеці, таму скрозь гучала беларуская мова. У лястэхнікуме пэрыядычна адбываліся розныя імпрэзы, сустрэчы і вечарыны. Дудар з задавальненьнем іх наведваў. Аднойчы ён і сам быў запрошаны выступіць перад навучэнцамі. Алесь расказаў пра «Маладняк», пра тое, што зараз працуе над стварэньнем полацкай філіі літаратурнай арганізацыі, запрасіў тых, хто спрабуе свае сілы ў прыгожым пісьменстве, далучыцца да філіі. Пасьля сустрэчы да яго падышлі два навучэнцы. Першы зь іх, Уладзімір Паскробка, сказаў, што зьяўляецца карэспандэнтам некалькіх менскіх газэтаў і плянуе заняцца літаратурай. Другі — Міхась Гулякевіч — быў проста аматарам беларускай літаратуры, які перачытаў усё, што здолеў адшукаць, і чакаў ад Дудара дапамогі ў пошуку кніг беларускіх аўтараў.

Дудар быў рады і гэтай «знаходцы».

* * *

Сьвятло ліхтара ўпала на сьцены сутарэньня. Падземны ход быў выкладзены з цэглы, цяжка ўжо сказаць якога колеру, бо каменныя бакі лёхаў і столь шчодра пакрываў слой зялёнага налёту, нібыта яны мядзяныя і ад вільгаці пакрыліся пацінай. Але зялёнымі сьцены выглядалі толькі на пачатку шляху: там, куды яшчэ час ад часу трапляла сьвятло. Далей яны былі ўжо чорнымі, як быццам бы ў фоташопе прыбралі колер. Столь упрыгожвалі плямы ад сажы. Відаць, некалі тут хадзілі з паходнямі. У разрэзе падземны ход уяўляў сабой усечанае кола, бо падлога ўсё ж была роўнай, шырыня не сягала за мэтар.

Лёхі вялі ў бок Сафійскага сабору. Але ў падзямельлі цяжка арыентавацца, лёхі маглі кудысьці адхінуцца, а заўважыць гэта было амаль немагчыма.

Пасьля 40-50 мэтраў стала цяжка дыхаць. Ён не зьвярнуў на тое ўвагу і рушыў далей. Праўда, гэты асьцярожны рух наўрад ці можна было б назваць шпацырам. Ён сунуўся хутчэй як мінэр па замінаваным полі. Спачатку яму здавалася, што можа абрынуцца столь і яго засыпле. Ці яго самога, ці выхад з падзямельля. Затым яму пачало мроіцца, што нехта ў гэтых лёхах ужо ёсьць і сочыць за ім. Ён нібыта чуў гукі таропкіх крокаў, нейкія ўсхліпы і шоргаты. Пасьля таго спыняўся, прыслухоўваўся, і дзіўныя гукі адразу зьнікалі. Нібы той ці тыя, хто былі ў лёхах, умэнт заціхалі.

Ён ужо пачаў шкадаваць, што пацёгся ў падзямельле адзін. Навошта было так рызыкаваць?

Але не хацелася ні з кім дзяліцца гэтым адкрыцьцём. Апошнім часам ён нікому не давяраў. Нехта зусім падсеў на грошы. Нехта проста стаў падазроным. Нехта сьпіўся і дэградаваў. Не, давяраць не было каму. Ён ня мог так рызыкаваць: усё трэба рабіць самастойна. І ня толькі таму, каб сабраць усе ляўры. Не было ўпэўненасьці, што хтосьці не захоча пагрэць рукі на схаваным тут ад хцівых позіркаў.

Дыхаць стала зусім цяжка. Ён спыніўся і адчуў, як гулка тахкае сэрца ў грудзёх. Здаецца, яго стук разьлятаўся па ўсім падзямельлі. Затым яго хіснула і падалося, што сэрца спынілася. Як быццам бы ў тэлевізары раптам на экране зьявіліся перашкоды ў суправаджэньні гучнага сьвісту. Гэты сьвіст імкліва нарастаў, і ён адчуў, што траціць прытомнасьць.

* * *

Праца ў газэце не была цяжкай. Дудар галоўным чынам займаўся разглядам рэдакцыйнай пошты. А таксама рыхтаваў да друку карэспандэнцыі актыву газэты, перадусім моладзі з навакольных мястэчак і вёсак. Гэта было зручным, «стратэгічным» месцам для стварэньня філіі. Праўда, адна справа — напісаць нататачку ў газэту, з тузінам памылак, да таго ж на трасянцы, і зусім іншая — мастацкі твор. Але Дудар, прынамсі, ужо ведаў некалькі чалавек, якія маглі больш-менш зьмястоўна і гладка выкладаць на паперы свае думкі. Больш за ўсё яго раздражняў іншы бок працы — газэта была расейскамоўнай, і таму даводзілася з трасянкі перакладаць

на расейскую. А гэта азначала, што ён як бы сам русіфікаваў маладых людзей, паказваючы, дзе яны памыляюцца, пішучы па-расейску. Разуменьне гэтага свайго дэструктыўнага чыну, бывала, даводзіла яго да шалу. Ён некалькі разоў парываўся завесьці гутарку з рэдактарам пра пераклад газэты на беларускую мову, але рэдактар і слухаць не хацеў, тлумачачы, што такое пытаньне вырашаецца нават ня ў Полацкім акругкаме.

Існавала, аднак, добрая магчымасць працаваць і ў іншым кірунку. Гэта адбывалася пры непасрэдным кантакце з аўтарамі газэты. Па-першае, Дудар усіх запрашаў у філію «Маладняка», якую яму даручана стварыць Цэнтральным бюро літаратурнай арганізацыі. Па-другое, ён усіх намаўляў вучыць беларускую мову і спрабаваць пісаць на ёй, бо, як тлумачыў малады менскі паэт, усё адно з часам полацкая газэта пяройдзе на беларускую мову, то варта ўжо зараз пачаць гэты працэс зь нізоў — зь селькараў і рабкараў.

Выдатным падарункам Дудару стаў выхад у Менску яго першага зборніка вершаў «Беларусь бунтарская». Гэта значна павысіла ягоны аўтарытэт у вачах полацкага кіраўніцтва і сярод полацкай моладзі. Цяпер Дудару даручалі і ўкладаньне літаратурнай старонкі ў тутэйшай газэце, і, натуральна, у ёй стала зьяўляцца значна больш беларускамоўных твораў. Дудара таксама актыўна пачалі запрашаць на сустрэчы ў школкі, іншыя навучальныя ўстановы, у працоўныя калектывы. Ён ужо пасьпеў выступіць ня толькі ў самім Полацку, але і ў Ветрыне і Дрысе.

Паўсюль ён шукаў патэнцыйных сяброў стваранай філіі «Маладняка». Праўда, вынікі гэтых пошукаў былі сьціплымі. Як высьветлілася, паэты і празаікі не нараджаюцца самі па сабе, іх ствараюць і вырошчваюць. І для гэтага патрэбны адпаведныя ўмовы.

* * *

Выраз «узьняцца на гару» для Васіля Кроквы не з'яўляўся нейкім абстрактным і ўмоўным. А быў абсалютна канкрэтным і азначаў узьняцца на полацкую Замкавую гару, на якой, дамінуючы над усім навакольлем, стаяў Сафійскі сабор. Найбольш пісьменьніку падабалася ўздымацца на гару з боку Запалоцьця. У гэтым пад'ёме быў нейкі рытуал — прайсьці па мастку праз Палату, пабачыць, як меншая рака сустракаецца з большай, і несьпешна, прыступка за прыступкай, узысьці на гару. Пры гэтым добра ўсьведамляць, што ўскрай гары некалі ішла драўляная абарончая сьцяна. І каб трапіць у Верхні замак, трэба было прайсьці праз браму зь вежай, якая, як казачны волат, ахоўвала ўваход у сэрца горада.

Гэтым разам Васіль не шукаў уваход у падзямельле. Ён прыйшоў сюды, каб паразважаць і падсілкавацца ад гэтай тысячагадовай крыніцы энэргіі. Кроква сеў ля камля бярозы, якая расла амаль ля самага краю гары над вусьцем Палаты. Адсюль быў добра бачны новы мост празь Дзьвіну. Падчас яго будаўніцтва рабілі насыпную дарогу на мост, якая прайшла якраз па сярэдзіне былых Міхайлаўскіх могілак. Гэта было жахлівае відовішча — налева і направа ад

дарогі ляжалі драўляныя рэшткі трунаў (а часам і цэлыя труны), чалавечыя косткі і старыя надмагільныя помнікі. Васіль некалькі разоў пісаў у газэты, у тым ліку і сталічныя, пра будаўнічае барбарства, але дамогся адно таго, што ўсе гэтыя «спадарожныя знаходкі» будаўнікі хуценька прыбралі. Пакінуўшы, незразумела чаму, толькі два надмагільныя помнікі — адзін нейкаму стацкаму саветніку Пагодзіну, другі — маладой палачанцы, якая пайшла з жыцьця ў 18-гадовым узросьце. Гэтыя помнікі яшчэ некалькі гадоў ляжалі побач з новай дарогай. Затым і яны некуды зьніклі.

Праваслаўныя Міхайлаўскія могілкі зруйнавалі саветы ў 30-х гадах, калі пашыралі полацкі аэрадром. Зраўнялі зь зямлёй ня толькі магілы, але і саму Міхайлаўскую царкву, якая месьцілася пасярод старых кладоў. Самалёты з савецкімі зоркамі на крылах і фюзэляжах узьляталі тут проста над трунамі, косткамі і надмагільнымі помнікамі.

Кроква паспрабаваў гэта ўявіць — і па ўсім яго целе пабеглі нэрвовыя мурашы. Ад старых жыхароў Запалоцьця ён неаднойчы чуў страшныя гісторыі, зьвязаныя з гэтым трагічным месцам. Тут пачасту адбываліся розныя жахлівыя здарэньні — забойствы і згвалтаваньні, — і неаднойчы бачылі ўсялякія дзіўныя зьявы. Вось і цяпер найбольш дарожных аварыяў у Полацку здараецца менавіта на гэтым, здавалася б, абсалютна бясьпечным участку дарогі на новы мост.

«Нешта ёсьць у гэтым сьвеце, што нараджаецца і дзейнічае тысячагодзьдзі, нягледзячы

на ўсе грамадзка-палітычныя зьмены і закалоты, — разважаў Кроква, прытуліўшыся сьпінай да камля бярозы. — І, відаць, гэта значна больш істотнае, чым розныя партыі, грамадзкія рухі і аўтарытарныя рэжымы. Хаця, зь іншага боку, менавіта аўтарытарныя рэжымы і пакідаюць пасьля сябе такія жахлівыя анамальныя мясьціны, учыніўшы гвалт і злачынства, парушыўшы сьвятыя традыцыі і запаветы дзядоў».

Кроква ня быў зацятым антыкамуністам. Ён, хутчэй, прытрымліваўся сваёй тэорыі дабра і зла, сьвятла і цемры. Паводле яго, у кожным асяродзьдзі, сярод прыхільнікаў любых ідэяў і перакананьняў ёсьць сьветлыя і цёмныя людзі, калі не лічыць зусім ужо дэманічных і вар'яцкіх, а такіх Кроква ўважаў проста за небясьпечна хворых. Бо нават сярод нямецкіх акупантаў часоў Другой сусьветнай вайны былі сьветлыя людзі. Адзін з такіх немцаў папярэдзіў дзеда Крොквы, што яго на раніцу арыштуюць, і такім чынам уратаваў усю дзедаву сям'ю, якая ўночы выехала ў партызанскі лес. Уратаваў і яго бацьку, які быў тады малым хлопчыкам, і, атрымліваецца, уратаваў і яго, Крокву.

Аднак у сваёй тэорыі Васіль ніяк ня мог знайсьці прычыну падзелу людзей на сьветлых і цёмных. Калі казаць, што тут грае асноўную ролю выхаваньне з маленства, то якім чынам здараецца, што браты-блізьняты вырастаюць абсалютна рознымі людзьмі, часам — супрацьлеглымі? Як так атрымліваецца, што сьвятыя айцы і мніхі, якія палову жыцьця правялі ў сумоўі з Богам, раптам зьдзяйсьняюць жудасныя злачынствы?

Як патлумачыць дзеяньні зацятых вернікаў, калі яны з ахвотай дапамагалі нямецкім карнікам зьнішчаць габрэяў? Падобна, што прычына падзелу на сьветлых і цёмных палягае значна глыбей, а прыкметы прыналежнасьці захоўваюцца, магчыма, у генах. Або людзі не паміраюць, а толькі мяняюць цялесную абалонку. І ўсе свае назапашаныя якасьці штораз пераносяць з сабой у новую чалавечую істоту.

Кроква дастаў зь невялікай сумкі, якую насіў на раменьчыку праз плячо, нататнік і сваім мудрагелістым почыркам запісаў: «Людзі, магчыма, не паміраюць, а толькі мяняюць свае цялесныя абалонкі». Затым ён спусьціўся з гары, з таго самага боку, зь якога і падняўся, і пашыбаваў спорным крокам у бок свайго мікрараёна.

* * *

Чарговы выклік у Полацкі акруговы камітэт не абяцаў Дудару нічога добрага. Пачуцьцё трывогі нарастала з кожным няроўным крокам, якім ён набліжаўся да адпаведнага будынка. Мінулы раз ён меў сьведкаў, студэнтаў пэдтэхнікуму, якія яго вадзілі па навучальным корпусе. Таму данос Пшчолкі аказаўся марным. Студэнты пацьвердзілі, што ніякім чынам Алесь выкладчыка не абражаў, толькі сказаў, што царскія часы ніколі ўжо ня вернуцца, а Савецкая Беларусь будзе спрыяць нацыянальнай культуры, а значыць і мове. Пра гэта можна прачытаць у любой сталічнай газэце на першай паласе. Гэта была, можна сказаць, генэральная

лінія камуністычнай партыі ў нацыянальным пытаньні. Таму ў акруговым камітэце ніякім чынам не маглі аспрэчыць словы Дудара, тым больш палічыць іх за абразу. Нават калі і не былі прыхільнікамі беларускага адраджэньня.

Прадчуваньне Алеся не падманула. Гэтым разам сытуацыя была больш складанай. Дудару паказалі ананімку, у якой невядомы «добразычлівец» паведамляў у акругкам, што Аляксандр Дайлідовіч, супрацоўнік газэты «Полоцкий пахарь», ён жа паэт Алесь Дудар, падчас наведваньня Ветрына называў кіраўніцтва Полацкай акругі русацяпамі, якія сабатуюць палітыку беларусізацыі, ня хочуць пераводзіць сваю газэту на беларускую мову, нічога ня робяць у сфэры адукацыі. Казаў, што неўзабаве камсамол такіх савецкіх работнікаў пагоніць бруднай мятлой.

Гэта быў удар пад дых, бо цяпер абражанымі рабіліся работнікі Полацкага акругкаму. Разам ўявіць, якая адбылася размова і чым пагражалі Дудару. Алесь усё аспрэчваў і казаў, што гэта хлусьня і чыстай вады правакацыя, бо калі б чалавек меў сапраўдныя факты, то навошта яму пісаць ананімку. У камітэце паабяцалі сур'ёзна разабрацца і прыняць меры. Меры маглі быць надзвычай радыкальнымі.

Назаўтра ў Полацак прыехаў сам кіраўнік «Маладняка», да таго ж галоўны рэдактар газэты «Савецкая Беларусь» Міхась Чарот. Яго візыт абудзіў правінцыйны Полацак. Паэта сустрэлі як шаноўнага госьця, нават наладзілі яму вечарыну ў камсамольскім клюбе. Чарот

меў шчырую гутарку з кіраўніцтвам акруговага камітэту і паручыўся за свайго маладога калегу Алеся Дудара.

Калі Дудар на чыгуначным вакзале праводзіў Чарота на цягнік, той нахіліўся да ягонага вуха і ціха прамовіў: «Трымай свой язык за зубамі, бо з ГПУ я цябе ўжо ня выцягну».

Увечары Дудар, застаўшыся сам-насам, напісаў верш.

Цені блудзяць па твары,
Сэрца точыць нуда.
Сёньня лепшы таварыш
Можа цябе прадаць.

Сёньня ня верыць нікому,
Можа, я сам шпіён.
Сьціснуць рукамі скроні,
Няхай пагасьне агонь.

Многія маюць сховы
У шкліцах чырвоных маніст.
Скажы па-свойму слова,
Крыкнуць — ты шавініст.

Будзіць волатаў косьці,
Будзіць сафійскі звон.
Прыйшлі вы да нас у госьці
І нам надзелі ярмо.

* * *

З боку Запалоцьця, непадалёку ад вусьця Палаты, прычаленым да дзьвінскага берагу стаяў дракар. Тут досыць нізкі бераг, крыху топкі, бо шчодра б'юць крыніцы, таму дракар, які, відаць, на хуткасьці ўехаў у бераг, ці не напалову корпусу аказаўся сярод берагавога аеру. Гэта дазваляла амаль па сухому трапіць на карабель. Затое каб адчаліць, спатрэбіліся б цягліцы ці ня тузіна мужчын, бо саштурхнуць дракар на ваду цяпер было ня так проста.

Побач з дракарам нікога не было. У такую раніцу хіба што рыбака можна сустрэць у гэтай ціхамірнай мясьціне. Ці быў хто на самім дракары, Крокве не было відаць, бо, па-першае, ён бачыў дракар збоку, а чалавек мог проста сядзець на днішчы або ляжаць, а па-другое, ветразь карабля быў спушчаны не да канца, таму за ветразем мог таксама нехта знаходзіцца.

Спачатку Васіль падумаў, што гэта чарговая вандроўка скандынаваў, якія любілі займацца рэканструкцыяй часоў вікінгаў. Пра адну з такіх вандровак ён неяк рабіў рэпартаж. Але чым бліжэй падыходзіў да карабля, тым мацней у яго ўзьнікала пачуцьцё, што гэта сапраўдны дракар. Што значыць «сапраўдны», наўрад ці ён мог патлумачыць. Але што гэта не сучасная падробка, Кроква быў абсалютна ўпэўнены.

Драўляны Одзін на носе дракара быў такім архаічным і праўдзівым, што Кроква нават уляknуўся. Хвілінаў пяць ён прастаў насупраць Одзіна, баючыся яго абмінуць і ступіць на карабель. І тут пачуў голас:

— Ну, сьмялей, чакаю цябе ўжо колькі гадзін.

За ветразем устаў чалавек. І Васіль імгненна яго пазнаў. Гэта быў Ластоўскі.

Кроква асьцярожна ўскараскаўся на борт дракара. На дні́шчы ляжалі вёслы і скураныя торбы, наладавыя нейкім майном. Асьцярожна пераступаючы праз усё гэта, Кроква пасунуўся ў бок Ластоўскага. Той ужо сядзеў на лаве для весьляра і глядзеў у бок Замкавай гары. Васіль наблізіўся да яго і сеў побач. Нейкі час яны маўчалі. Як доўга, Кроква пазьней ня мог згадаць. Але ён выдатна памятаў, што першым парушыў маўчаньне Ластоўскі. І зноў, як і мінулым разам, ён не варушыў вуснамі.

— Як думаеш, ці наведваў гэты дракар Бізантыю?

Пытаньне Крокве падалося ня тое што дзіўным, але бессэнсоўным. Якая розьніца, наведваў ці не наведваў гэты дракар Бізантыю.

— Магчыма, і наведваў. Але якое гэта мае значэньне?

— Гэта можа быць доказам таго, што сапраўды існаваў шлях «з варагаў у грэкі».

Ага, падумаў Кроква, значыць, Ластоўскі тут як гісторык і дасьледчык, як аўтар «Кароткай гісторыі Беларусі». Гэтая думка неяк разьнявоіла Крокву, бо ён ужо пачаў гадаць, што за мэта гэтай чарговай сустрэчы.

Ластоўскі працягваў:

— Гэты дракар не пасьпеў на дапамогу Рагвалоду, і цяпер ён непрытульны, як Лятучы Галяндзец. Чуў легенду пра Лятучага Галяндца?

— Канешне, кожнае дзіця ведае гэтую легенду, — адказаў Кроква Ластоўскаму, як вучань настаўніку.

— Усё было б інакш, калі б гэты дракар пасьпеў у час. Уся беларуская гісторыя пайшла б іншым шляхам. Вельмі небясьпечна ў лёсаносны пэрыяд не пасьпець у час.

— А дзе каманда гэтага дракара? Бо, напэўна, не дракар вінаваты, а каманда, — нерашуча спытаў Кроква: наколькі ён ведаў, у Лятучага Галяндца былі і капітан, і каманда. Бо што такое карабель без каманды? Проста чарупіна сярод хваляў.

— Каманда зьяўляецца адразу, як толькі ўздымаецца ветразь, — Ластоўскі павярнуў галаву ў бок мачты карабля і дакрануўся рукой да ветразя. — Маеш рацыю, вінавата каманда, а не дракар. Але людзі могуць памыляцца і рабіць кепскія ўчынкі, а дракар ня мае права памыляцца. Дракар — гэта пасланьнік лёсу. Ёсьць у сьвеце больш сур'ёзныя і важныя рэчы, чым людзі і іх жаданьні, пляны і справы.

Кроква сіліўся зразумець, што гаворыць Ластоўскі, але ў яго гэта не атрымлівалася.

— Але людзі несьмяротныя, яны толькі мяняюць абалонку, — нечакана для самога сябе сказаў Кроква.

Ластоўскі ўважліва паглядзеў на Крокву. Затым павярнуў свой твар у бок Сафійскага сабору і спытаў:

— Бачыш, на крыжы Сафіі сядзіць крумкач. Гэта птушка або чалавек?

Кроква паглядзеў у бок Сафіі і ўбачыў на крыжы званіцы чорную кропку.

— Канешне, птушка, — упэўнена сказаў Кроква.

— Але гэта таксама абалонка. Разумееш? Усё, што ты бачыш навокал, — гэта абалонкі. Чалавек ня можа сам абраць сабе тое, што заманіцца. Гэта вырашае дракар. Дакладней, той дракар, да каманды якога ён прыпісаны. Калі твой дракар спазьняецца, ты апынесься на Лятучым Галяндцы. І тады, як бы ты ні хацеў, твой лёс губляе мэту, тады дракар проста перасоўваецца ў прасторы — бязмэтна і бяз порту прыпіскі.

Кроква адчуў, як пад ім заварушыўся карабель, як нешта жывое.

— Нам пара пакінуць гэты дракар-прывід. — Ластоўскі ўстаў і пачаў прабірацца на запалоцкі бераг. Кроква пасунуўся сьледам.

Калі яны абодва сышлі на зямлю, на дракары рэзкім рухам узьняўся ветразь і карабель рыўкамі пачаў ссоўвацца на ваду. На вадзе карабель ашчацініўся вёсламі і досыць імкліва пайшоў супраць плыні.

Крокве хацелася задаць Ластоўскаму апошняе пытаньне, каб неяк праясьніць для сябе пачутае. Ён ня вытрымаў і запытаўся:

— А мэта якая? Якая мэта?

— Не даць марсіянам захапіць Беларусь, — пачуў Кроква ў адказ, але самога Ластоўскага ўжо ня ўбачыў.

# Частка другая

Час ішоў, а справа стаяла на месцы. Ствараць філію «Маладняка» ў Полацаку не было з кім. На нейкі час Дудар нават зьмірыўся з гэтай безвыходнай сытуацыяй. Няма дык няма, навошта займацца прафанацыяй — імітаваць літаратурнае жыцьцё, дзе яно па-просту адсутнічае. З такімі думкамі Дудар напісаў ліст у Цэнтральнае Бюро «Маладняка». У Менску ягоны капітулянцкі настрой моцна скрытыкавалі. Неўзабаве Полацак наведалі Анатоль Вольны і Язэп Пушча — сябры Цэнтральнага Бюро — і растлумачылі юнаму культуртрэгеру, што на першы час можна стварыць суполку проста з моладзі, якая цікавіцца літаратурай і ў пэрспэктыве магла б стаць яе папулярызатарамі.

Дудар, схіліўшы галаву, выслухаў старэйшых калег і зноў узяўся за працу. У выніку нарадзілася Полацкая філія «Маладняка» ў складзе сямі сяброў: некалькі маладых настаўнікаў, якія скончылі Менскі педтэхнікум і якіх накіравалі працаваць у Полацак, ды жменя мясцовых студэнтаў і вучняў. З усёй гэтай сябрыны толькі адзін чалавек меў непасрэднае дачыненьне да літаратуры — сам Алесь Дудар.

Пазытыўнай зьменай сталася і перадыслякацыя маладога паэта. З інтэрнату ў езуіцкіх

мурах Дудар перабраўся ў дом па вуліцы Карла Маркса, у якім жылі настаўнікі, камсамольскія і акруткамаўскія работнікі. Прынамсі, тут у яго зьявіліся больш-менш зручныя ўмовы для жыцьця і творчай працы.

* * *

Літаратура для Кроквы была паралельным сьветам і чараўніцтвам. Але адзінкі — гэта добра ведаў Васіль — маглі рабіць сапраўдныя цуды. Гэта калі напісанае ажывала і рабілася рэальнасьцю. Дакладней, яно рэальна ўплывала на жыцьцё людзей.

Надараліся хвіліны, калі Кроква баяўся гэтага занятку. Як баяцца людзі далучыцца да вядзьмарства, нават калі гэта спадчынны дар.

Часам ён упадаў у нейкі ізатэрычны транс і бачыў розныя відзежы, дзіўных пэрсанажаў, якія плылі над ім, як аблокі. Крокву набольш заварожваў іх рух. Яны плылі адзін за адным, бязь сьпешкі і мітрэнгі, павольна — і зьнікалі. За даляглядам, дзе быў канец зямлі.

Яны толькі праміналі гэтую зямлю, праплывалі па шляху ў нейкую іншую прастору, іншае вымярэньне. Там яны жылі сваім жыцьцём, як мы жывем тут.

Можна было кагосьці зь іх забраць у наш сьвет. Паспрабаваць натуралізаваць — выпісаць пашпарт, знайсьці прыдатнае асяродзьдзе, напі-

саць сцэнар, не зусім мудрагелісты, каб было не складана вывучыць сваю ролю...

Але ці трэба? Ці не атрымаецца гэтак жа сама, як зь некаторымі расьлінамі і жывёламі, якім спачатку на чужыне спрабуюць знайсьці новую радзіму, а затым ня ведаюць, як пазбыцца, складаючы пералікі інвазіўных відаў.

Тое ж самае можна здарыцца і зь літаратурным героем. Пра што Кроква неаднойчы разважаў. І ў гэтым, як яму здавалася, існавала тая небясьпека, якую ён нібыта адчуваў у занятку літаратурай.

Чужаніца не адразу робіцца варожым і трапляе у інвазійны спіс. Пройдзе пяцьдзясят, і сто гадоў, перш чым пачнуць праяўляцца сымптомы.

Выдаліць літаратурную чужаніцу будзе значна цяжэй, чым прапалоць баршчавік або патрушчыць каларадзкага жука. Бо той вобраз, тыя героі, тая чужаніца растане ў чалавеку, і — самае небясьпечнае — пранікне ў душу.

Вобразы плылі і плылі высока-высока, недзе ў стратасфэры. І хтосьці нашэптаваў Крокве салодкія словы. І словы гэтыя былі зразумелыя, але з чужой мовы. Нібыта з выразаных з газэты літар, розных памераў і розных гарнітур, нехта выклаў гэтыя словы на тваім пісьмовым стане. І зараз чытае табе іх сыропным голасам рэклямнага роліка.

«Я за аблокамі сачыў і кожнаму даваў найменьне», — згадаў Кроква паэтычныя радкі аднаго знаёмага паэта. Пасьміхнуўся. Устаў ад пісьмовага стала і вымкнуў кампутар.

* * *

— А нацыянальная культура ня можа існаваць толькі ў фальклоры і літаратуры, яна павінна пранікнуць паўсюль — у сучасныя песьні, кіно, тэатар... — На дварэ ўжо была гадзіна ночы, а размова Дудара з Уладзікам, здавалася, ня мела канца. Абодва ляжалі ў сваіх ложках. У пакой трапляла сьвятло ад ліхтара, які месьціўся амаль насупроць іх вакна. Гэтае вакно крыху асьвятляла лапік тэрыторыі, у якім жылі хлопцы.

На Карла Маркса Дудар пасяліўся разам са сваім рэдакцыйным калегам. Раней Уладзік жыў з маладым настаўнікам, які толькі пазалетась скончыў Менскі пэдтэхнікум, але таго перанакіравалі ў школу ў Валынцах і месца вызвалілася.

Уладзік неяк даволі хутка перайшоў на беларускую мову, праўда, размаўляў на ёй толькі з Алесем і пераважна калі яны заставаліся сам-насам. Дудар гэта заўважаў, але палічыў, што сябра праходзіць пэрыяд адаптацыі і ня варта хлопца прысьпешваць.

— Таму нас чакае вялікая праца, — тлумачыў сябру паэт. — Ведаю, што ўжо ствараецца першы беларускі фільм. Дарэчы, яго будуць рабіць паводле аповесьці Міхася Чарота «Сьвінапас». Напэўна, чытаў? — Дудар узьняўся крыху з ложка і зірнуў на Ўладзю.

— Ну канешне, чытаў. — Уладзік сказаў гэта нават з ноткамі пакрыўджанасьці, маўляў, як мог сябар западозрыць, што ён не чытаў «Сьвінапаса»? Каб пераканаць Алеся, хлопец пачаў пераказваць падзеі аповесьці: — Мне асабліва падабаецца, як Грышка ўцёк, калі яго везьлі ў дэфэнзіву...

— А я, дарэчы, гэтую аповесьць чытаў яшчэ ў рукапісе, і нават тое-сёе там паправіў. — Дудар не даслухаў да канца пра Грышку: яму карцела пахваліцца перад сябрам. — А фільм будзе здымаць рэжысёр Юры Тарыч. Ён ужо прыяжджаў у Менск і сустракаўся з Чаротам.

— Ух ты! — выгукнуў Уладзік у захапленьні. — А ты ведаеш, што Юры Тарыч паходзіць з Полацку? Ён тут нарадзіўся. Пра гэта летась пісала наша газэта.

— Не, ня ведаў. Тарыча запрасілі працаваць у «Белдзяржкіно». Наша кінастудыя пакуль месьціцца ў Ленінградзе, але з часам абавязкова пераедзе ў Менск.

— Дарэчы, менавіта Тарыч напісаў сцэнар фільму «Банда бацькі Кныша», разам яшчэ з кімсьці. Пра гэта таксама пісала наша газэта. Летась у верасьні фільм паказвалі ў Полацку. У кінатэатры не было чым дыхаць — столькі набілася людзей.

— Я глядзеў гэты фільм у Менску... Але вось пра што падумаў... Тарыч нездарма нарадзіўся ў Полацку. Бо з Полацку паходзяць асноўныя беларускія асьветнікі — Францішак Скарына, Эўфрасіньня Полацкая, Сімяон Полацкі. Ты напэўна чуў пра Скарыну — менавіта ён

надрукаваў першую беларускую кнігу. Першадрукар. Нешта ў гэтым Полацку ёсьць такое... Бо інакш як гэта патлумачыш? — Дудару нават падумалася, што і ён сюды трапіў невыпадкова, але палічыў гэтую думку задужа піжонскай і не агучыў яе сябру.

— Толькі сёньня наўрад ці можна гэта заўважыць... — Уладзік іранічна хмыкнуў і дадаў: — Ды і з Тарычам ёсьць пытаньні. Мне давалі рэдакцыйнае заданьне адшукаць у Полацку якія-кольвечы сьляды земляка-кінарэжысэра. Ніякіх сьлядоў я не знайшоў. Ні сваякоў, ні аднаклясьнікаў, ні нават людзей, якія яго ведалі ці хаця б бачылі. А што тычыцца полацкага асьветніцтва і культуры, дык і гэта цяжка сёньня заўважыць.

— Згодны з табой. Заняпаў горад. Стаўся правінцыйным і шэрым. Але я ведаю чаму. Ён згубіў сваё нацыянальнае аблічча, свае спаконвечныя традыцыі, згубіў свой культурны код. Горад абмаскаліўся. Раней пра гэта чуў ад сваіх старэйшых калег. А зараз сам пераканаўся. Полацак можа выратаваць толькі беларуская пралетарская культура. Тут павінен зьявіцца свой нацыянальны тэатар, павінен выходзіць свой літаратурны часопіс ці хаця б штогадовік, тут трэба друкаваць кнігі. Павінна віраваць нацыянальнае культурнае жыцьцё. І мы ўсё гэтае мусім тут стварыць.

— Хто — мы?! — Уладзік нават сеў на ложак. Магчыма, яму падалося, што менавіта яны — Алесь і Уладзік — павінны ўсё гэта стварыць. Таму хлопец так падхапіўся.

— Мы, «маладнякоўцы». Дзеля гэтага я і ствараю ў Полацку філію «Мадняка», — Дудар прамовіў гэта амаль урачыста. — Спадзяюся і на тваю дапамогу, Уладзік. Працы, як бачыш, вельмі шмат. Усім хопіць. А зараз давай спаць. Ужо амаль другая гадзіна ночы.

Назаўтра раніцай, пакуль не прынесьлі сьвежую газэтную карэспандэнцыю, Дудар напісаў новы верш.

Не люблю, калі з роднай краіны
птушкі рвуцца ў далёкі вырай...
Я успомніў Францішка Скарыну,
што у Полацку княжацкім вырас.

Ўжо няма такіх настрояў,
як былі калісь даўно, —
бо сягоньня над новай Дзьвіною
перакінуўся новы мост.

Што Дзьвіна!.. Для яе ўсё роўна,
хто пяе над яе берагамі.
Не яна мужычую мову
аправіла ў гнуткі пэргамэнт.

О, Францішак... Францішак Скарына,
што над гранкай друкарскаю гнуўся!..
Ведай, праца твая пакарыла
новы сьвет для сівой Беларусі!

Бо сягоньня сьпяваюць баяны,
бо ужо разгарнуліся крыльлі...

Перамогі вясельлем п'яныя,
мы успомнім Францішка Скарыну,

што радзіўся калісь над Дзвіною,
вандраваў над яе берагамі;
што аправіў мужычую мову
ў неўміраючы гнуткі пэргамэнт.

* * *

Мясцовы тэлеканал прапанаваў Крокву зьняць фільм пра страчаныя бажніцы Полацка. Дакладней, напісаць сцэнар і тэкст для агучкі. Гэтая ідэя Крокву спадабалася. Сапраўды, ад полацкіх храмаў застолося вельмі няшмат. Дзякуй Богу, Сафія, Спаса-Эўфрасіньнеўскі манастыр і Богаяўленскі сабор захаваліся да нашых дзён. Але найбольш не пашанцавала каталіцкім бажніцам. Ужо ў сярэдзіне 70-х гадоў, пасьля таго як быў узарваны былы касьцёл Сьвятога Стэфана — архітэктурная дамінанта горада, — каталіцкіх храмаў у Полацку ня стала зусім. Хоць у XIX стагодзьдзі тут свае касьцёлы мелі некалькі манаскіх ордэнаў — езуіцкі, бэрнардынскі, францішканскі і дамініканскі. Багата было зруйнавана і іншых хрысьціянскіх бажніц — праваслаўных, стараверскіх. Пра ўсё гэта немагчыма распавесьці ў паўгадзінным фільме. Таму Кроква абраў толькі асноўныя, самыя вядомыя страчаныя храмы, і менавіта пра іх згадаў у сцэнары.

Праўда, прыканцы XX стагодзьдзя ў Полацку зноў адрадзілася мясцовае каталіцкае жыцьцё, і ў Задзьвіньні паўстаў касьцёл Сьвятога Андрэя Баболі. Гісторыя яго зьяўленьня вартая,

каб яе згадаць. Пасьля аднаўленьня полацкай каталіцкай парафіі вернікам-каталікам мясцовая ўлада прапанавала зьбірацца на набажэньні ў задзьвінскім кінатэатры «Юбілейны». Гэта быў звычаны савецкі кінатэатар, пабудаваны напачатку 60-х гадоў па стандартным праекце. Праз нейкі час кінатэатар стаў абсалютна нерэнтабэльным і амаль спыніў сваё існаваньне як культурная ўстанова, пасьля чаго яго перадалі ва ўласнасьць каталікам. Так бы мовіць, часткова кампэнсавалі страты ўсіх іншых полацкіх касьцёлаў. Беларусь ведае шмат прыкладаў, калі храмы перараблялі ў спартовыя залі, кінатэатры, адміністрацыйныя будынкі ці нават у сьвінушнікі. У Полацку адбылося зваротнае пераўтварэньне — савецкі кінатэатар быў перабудаваны ў касьцёл. Дапамогу палачанам у будаўніцтве храма аказалі немцы з гораду-пабраціма Фрыдрыхсхафэна. Усё гэта адбывалася на вачах у Кроквы. І ён яшчэ добра памятаў той кінатэатар «Юбілейны».

Падзея неяк натхніла палачанаў на мары і розныя патрыятычныя мроі. Зьявілася нават чутка, што неўзабаве зьнясуць дзевяціпавярховік з «вушамі» — так гэты гмах празвалі палачане, — а на яго месцы адбудуюць ранейшы сабор Сьвятога Стэфана. Чутка гэтая цыркулявала нядоўга. Спачатку ў краіне пачаліся эканамічныя праблемы, а затым і палітычныя. Таму неўпрыкмет мроць пра Стэфана перасталі.

Але сама ідэя пераўтварэньня чагосьці ў нешта Крокве спадабалася. Ён нават пачаў разважаць, што яшчэ можна пераўтварыць.

Перадусім, непатрэбнае ў патрэбнае. Непатрэбным хутка стаў былы Дом афіцэраў. Нейкі час гэтую гламаздаватую будыніну, якая б не згубілася на любой цэнтральнай плошчы ў Менску, а нават і ў Маскве, перадалі ў арэнду прыватнаму ўнівэрсытэту. Нейкі час былі ў Беларусі і такія. Арандантары, на колькі ў іх хапіла сродкаў, касмэтычна адрамантавалі фасад, але будынак усярэдзіне ўсё адно прыходзіў у заняпад. Ды і выкарыстоўвалі яго часткова — толькі асобныя пакоі, якія пераабсталявалі ў лекцыйныя аўдыторыі. А неўзабаве той прыватны ўнівэрсытэт зьнік, бо ў краіне проста забаранілі падобныя ВНУ. Нейкі час вялізны дом з рымскімі калёнамі стаяў без дагляду. Новым гаспадаром спадчыны савецкай арміі стала мясцовая музычная школа, якая месьцілася побач. Гэты гаспадар быў увогуле жабрачым, бо ўтрымліваўся на сьціплым гарадзкім бюджэце. Пасьля чаго пачаў разбурацца і фасад будынка-монстра.

Неўзабаве ўзьнікла пагалоска, што з Дома афіцэраў плануюць зрабіць археалягічны музэй. Гэта было б абсалютна слушным рашэньнем. Але, як і са Стэфанам, культурна-патрыятычнае мрояньне хутка перапынілася. Па-першае, пераладаваць такі вялізны будынак, зрабіўшы зь яго музэй, патрабавала вялізных грошай. А дзяржаўныя сродкі былі ўжо змарнаваныя ўрадам на ўзьвядзеньне па ўсёй краіне лядовых палацаў, якія зьявіліся нават у невялікіх райцэнтрах і цяпер жэрлі на сваё ўтрыманьне ці не палову раённых бюджэтаў. Хутка, відаць, раённыя ўлады пачнуць разважаць — у што б такое

пераўтварыць гэтыя «ненажэрныя» спаруды. Па-другое, якімі-такімі шматлікімі экспанатамі можна было б запоўніць залі такога вялізнага археалягічнага музэя, тут, бадай, хапіла б месца для невялікай эгіпецкай пірамідыі. Нават калі б усе фонды Полацкага музея-запаведніка, да апошніх чарапкоў і кавалкаў плінфы, выставіць у вітрынах такога музэя, то гэтых гістарычных артэфактаў папросту не хапіла б заставіць патэнцыйныя выставачныя плошчы. Такі праект патрабаваў бы вельмі сур'ёзнай і багатай калекцыі, якой ня меў абрабаваны Полацак. Сёньня нават за сто даляраў ён ня мог сабе дазволіць купіць што-кольвечы цікавае і патрэбнае ў свае зборы. Большасьць каштоўных археалягічных знаходак, якія былі адшуканыя падчас раскопак у Полацку маскоўскімі і ленінградскімі археолягамі, апынуліся ў фондах музэяў Масквы і Ленінграда. Вярнуць іх законным гаспадарам ужо было немагчыма.

«Мець такі музэй — гэта нязбытная мара, — разважаў Кроква. — А калі б яшчэ там быў Полацкі летапіс, кнігі, выдадзеныя Францішкам Скарынам, кнігі Сімяона Полацкага, артэфакты, знойдзеныя падчас раскопак Барысаглебскага манастыра ў Бельчыцах і з першых раскопак побач з Сафійскім саборам... Гэта быў бы археалягічны і гістарычны музэй Беларусі № 1».

«А вось калі б яшчэ трапіць у полацкія лябірынты, — працягваў свае разважаньні Васіль, — то музэй сапраўды б атрымаўся».

* * *

Рэдактар паклікаў Дудара да сябе. Алесь асабліва не быў заняты працай, адразу зайшоў у суседні кабінэт. Насупроць яго, на тым самым венскім крэсьле, на якім некалі сядзеў сам Алесь, круціўся сухенькі дзядок са ставерскай барадой. Ён увесь час памыкаўся нешта сказаць, але рэдактар яго перабіваў і паўтараў: «Подожите одну минутку...»

Затым рэдактар узьняў вочы ад нейкай паперчыны, якую ўважліва чытаў, і, ужо зьвяртаючыся да Дудара, сказаў:

— Алесь, дорогой, выслушай нашего читателя. Хочет нам что-то интересное рассказать. У меня нет времени.

І затым, зьвяртаючыся ўжо да наведніка, адрэкамедаваў свайго калегу:

— Это белорусский писатель Алесь Дударь. Думаю, вам как раз лучше свою историю рассказать ему. Он вас внимательно выслушает, а если будет такая необходимость, напишет про это материал.

Наведнік, кланяючыся, выйшаў з кабінэту рэдактара і пайшоў сьледам за Алесем. У пакоі, дзе працаваў Дудар, ён стаў насупроць стала і неяк няўцямна, нібыта гукі блыталіся ў ягонай барадзе, пачаў хутка гаварыць:

— Я тут хачу гісторыю вам паведаць... здарылася тут нядаўна... якраз напярэдадні каталіцкага Раства... я ў Полацку з маленства, татка з сям'ёй пераехаў у горад з Булавак яшчэ за царом-бацюхнам... — Тут ён спыніўся на некалькі сэкундаў, нібыта нешта згадваючы, і працягнуў: — Было гэта яшчэ ў 1872 годзе...

— А вы сядайце, — прапанаваў Дудар дзядку з барадой-лапатай крэсла. — Здаецца мне, што размова ў нас будзе доўгай.

Дзядок сеў неяк асьцярожна, на краёчак крэсла, але, упэўніўшыся, што крэсла трывала стаіць на чатырох нагах, уладкаваўся больш зручна.

— Дык а пра што вы хачаце расказаць? — Дудар таксама заняў сваё звыклае месца за сталом, узяўшы ў руку аловак, як ён рабіў заўсёды, калі выпадала прымаць наведнікаў рэдакцыі.

— Дык я і кажу, што я ў Полацку зь дзіцячых гадоў і ўсё тут добра ведаю. Жывем мы ў Запалоцьці на Міхайлаўскай...

— Гэта я зразумеў: вы жывяце ў Полацку. Але пра што хочаце распавесьці? — Дудара пачаў нэрваваць гэты запалоцкі тубылец.

— Я ведаю, дзе падземны ход... — нарэшце прамовіў дзед самае галоўнае.

* * *

«Чаму Рагвалод не ўратаваўся пры нападзе Ўладзімера на Полацак?» — гэтая думка не давала спакою Крокве. Словы Ластоўскага пра дракар, які не пасьпеў на дапамогу полацкаму князю, ускалыхнулі ягоную душу.

«Не маглі войскі Ўладзімера зьявіцца ля сьценаў крыўскай сталіцы раптоўна, як гром сярод яснага неба, — разважаў Васіль. — А калі б Рагвалод даведаўся, што ідзе Ўладзімер на Полацак, то мог бы хаця дзяцей сваіх прыхаваць у надзейным месцы. Балазе тадышнія полацкія

лясы — хоць і ня сэльва Амазонкі, але і ня стэпы вакол Кіева. Значыць, адбылося нейкае вераломства — здрада або падман».

Кроква некалькі разоў наведаў месца былога гарадзішча. Тут лягчэй думалася. Гэты куточак Полацка быў скрозь забудаваны прыватнымі дамкамі, і толькі абалонь Палаты шчодра «каласілася» лугавой і балотнай травой. Дзе-нідзе гэтая трава павырастала ў пояс чалавека, і адно сьцежкі-тунэлі спаміж яе казалі пра тое, што тут бываюць людзі. А некалі ж тут ступала нага самога Рагвалода і яго дачкі Рагнеды. Тут усё пачыналася. Тут адпраўная кропка Полацка. Гэта пазьней, відаць, у XI стагодзьдзі, цэнтар Полацка быў перанесены на Замкавую гару.

Рагвалод калі будаваў сваё княства, то, напэўна, меў нейкія пляны, стратэгію. Якую? Відавочна, гэтая стратэгія і мусіла быць запаветам Рагвалода. Ці прытрымліваліся яе спадчыньнікі Брачыслаў і Ўсяслаў?

Магчыма, пра ўсё гэта і было напісана ў Полацкім летапісе, які чытаў Тацішчаў і які так таямніча зьнік. Гэты запавет Рагвалода відавочна не падабаўся гаспадарам Масквы.

Кроква вырашыў напісаць пра тэстамэнт Рагвалода. Яму здавалася, што гэта абавязкова павінен быць дэтэктыў — у якім забойствы, здрады, падман і хцівасьць.

* * *

— Рэвалюцыя нам дала, можна сказаць, усё. Кім мы былі б, калі б не рэвалюцыя? Я на сваім прыкладзе скажу: ці стаў бы я паэтам? Ці атрымаў магчымасьць, можна сказаць, падлеткам працаваць у галоўнай газэце краіны? Кім бы я стаў, калі б не рэвалюцыя? Хутчэй, якім-небудзь рабочым, якога бязьлітасна эксплюатавалі багацеі. — У полацкім камсамольскім клюбе ішло паседжаньне мясцовай філіі «Маладняка». Выступаў Дудар. Нядаўна ў Полацку яго прынялі ў камсамол, і ён быў акрылены гэтым. Вось і філію ўдалося стварыць. Праўда, чарговае паседжаньне атрымалася склікаць толькі з другога разу. У мінулы аўторак прыйшло менш паловы сяброў суполкі, таму сход давялося перанесьці на чацьвер. Хто не прыйшоў мінулы раз — усім вынесьлі вымовы. Не гарэлі імпэтам да працы тутэйшыя чальцы кагадзе створанай літаратурнай сябрыны. І Дудар спрабаваў неяк раскатурхаць гэты — пусьці павалюся — настрой. — «Маладнякоўцы» — дзеці рэвалюцыі. І мы павінны ёй слугаваць і рабіць усё, каб ідэі рэвалюцыі хутчэй прыйшлі ў наша жыцьцё. І савецкая літаратура павінна спрыяць гэтаму. Выціскаць з мазгоў людзей старызну ўчорашняга дня. А ня так, як гэта робяць розныя Купалы, Коласы і Бядулі, якія ўсхваляюць тую старызну і не даюць хады ідэям рэвалюцыі.

— А я люблю Купалу і Коласа, — запярэчыў выступоўцу малады настаўнік, нядаўні выпускнік Белпэдтэхнікума Пётр Крывіцкі. — Па-першае, Купала і Колас, можна сказаць, бацькі

беларускага народу і беларускай літаратуры. Што да іх было? Ні-чо-га! Па-другое, іхнія творы па-мастацку больш апрацаваныя, чым у таго ж Чарота або Александровіча. І гэта факт!

Сярод полацкіх «маладнякоўцаў» усчаўся вэрхал: хтосьці пярэчыў Крывіцкаму, хтосьці яго падтрымліваў.

— Хопіць парушаць дысцыпліну! — загарлаў Дудар. — Супакойцеся!

Але ніхто не зьвяртаў на яго ўвагі. Кожны хацеў выказаць сваю думку, прычым не чакаючы сваёй чаргі і дазволу.

Дудар пачаў ляпаць па стале кнігай, якая ляжала побач зь ім. Гэта крыху суняло спрэчку. І Алесь перайшоў да галоўнай справы:

— А зараз мусім заняцца тым, дзеля чаго мы і сабраліся: трэба абраць трох сябра бюро, якое будзе кіраваць філіяй. Якія ёсьць прапановы?

«Маладнякоўцы» зноў бязладна загаманілі і пачалі вылучаць сваіх кандыдатаў. Урэшце, бюро было абранае ў складзе самога Дудара, Крывіцкага і Гулякевіча — студэнта ляснога тэхнікуму. Кандыдатура Крывіцкага ня вельмі спадабалася Дудару, але супраць калектыву ён не пайшоў. «Ну нічога, яшчэ знойдзем яму замену, — вырашыў Дудар, — балазе Крывіцкі беспартыйны, а гэта непажадана для чальца кіроўнага органу».

Па дарозе да свайго жытла Дудар разважаў над парадаксальнай акалічнасьцю: чым разумнейшыя і больш адукаваныя людзі, тым больш складана зь імі праводзіць працу. У кожнага

зь іх ёсьць свая думка, і ня так проста давесьці такому разумніку, што ён ня мае рацыі.

* * *

Заставаўся глыток віна. І Кроква падзяліў яго на два паўглыткі.

Днём Васіль наведаў сядзібу Беліковічаў, дакладней тое, што ад яе засталося. Сядзіба месьцілася на левым беразе Дзьвіны, за Экіманьню. Нягледзячы на татальнае занядбаньне і розрух, які тут панаваў, няцяжка было заўважыць прыкметы былой гармоніі і прыгажосьці. Гэты стаў зь невялічкай выспай пасярэдзіне — недагледжаны, зарослы жабурэньнем, закіданы сьмецьцем, — ён яшчэ меў ледзь пазнавальныя арыстакратычныя рысы. Гэтыя грабы і вязы, высаджаныя адмысловым парадкам. Яны штосьці яшчэ памяталі з тых далёкіх часоў, з пазамінулага стагодзьдзя. Прынамсі, калі ня памяталі самі, то ім распавялі бацькі і дзяды — чаму яны тут апынуліся і што тут было раней. Першую сельскагаспадарчую камуну ў Полацку якраз і стварылі на базе сядзібы Беліковічаў. Праўда, на пачатку XX стагодзьдзя ад роду Беліковічаў у Экімані застаўся толькі сямейны пахвальны склеп. Маёнтак некалькі разоў перапрадаваўся. Апошнім яго ўладальнікам быў нейкі дваранін Іваноў. Але менавіта за часамі Беліковічаў, у сярэдзіне XIX стагодзьдзя, гэтая сядзіба ператварылася ў адмысловы культурніцкі цэнтар Полаччыны. Сюды прыяжджалі вядомыя мастакі і пісьменьнікі зь Вільні, Менску і нават з Санкт-Пецярбургу.

Ян Баршчэўскі, выхаванец Полацкага езуіцкага калегіюму, у сваёй славутай кнізе «Шляхціц Завальня» зь цеплынёю згадвае гэты куток Прыдзьвіньня: «Маёнтак паноў Беліковічаў ля самае Дзьвіны на стромкім беразе ў прыгожай мясьціне». Адсюль, з высокага берагу, адкрываўся цудоўны від на Полацак, на ягоныя храмы.

Яшчэ нядаўна тут на адзіноце сярод дрэваў і высознага, у пояс, пустазельля апошні будынак сядзібы пужаў сваімі сьляпымі вокнамі. Некалі камунары зрабілі зь яго клюб. Няма даўно тых камунараў. Наўрад ці нават старажылы Экімані маглі штосьці ўцямнае пра іх распавесьці. Кроква да канца спадзяваўся, што будынак той выжыве, знойдуцца гаспадары, давядуць яго да ладу, прыстасуюць пад нейкія патрэбы сёньняшняга дня. Дзе там! Марныя спадзяваньні! Гэтым разам Васль застаў сярод апанавалага пустазельля толькі падмуркі. Так зраўнялі зь зямлёй, што не засталося ані цэглы, ані бэлькі.

* * *

Дудар ня быў сьмельчаком і рызыкантам. Але тут ён вырашыў дзейнічаць самастойна. Не было ніякага сэнсу камусьці распавядаць пра трызьненьні нейкага дзеда. Ды й калі расказваць, то спачатку варта самому ўсё праверыць. Што там за падземныя хады? Куды яны вядуць? І ці варта ўвогуле на іх зьвяртаць увагу?

У наступную нядзелю Дудар вырашыў наведаць дзеда і пацікавіцца яго адкрыцьцем.

Калюмб знайшоўся! Дудара чамусьці адначасова і раздражняла, і інтрыгавала гэтая гісторыя.

Ён ужо быў начуты мясцовых легендаў пра нейкія таямнічыя лёхі, якія з даўніх часоў існуюць у Полацку. У іх нібыта схаваныя незьлічоныя скарбы. Але пад словам «скарбы» кожны ўяўляў штосьці сваё. Большасьць атаясамляла гэтае слова з золатам і каштоўнымі камянямі. Такі сабе скарб, які малявалі ў дзіцячых кніжках пра піратаў, — гара з залатога посуду, караляў і манэтаў. Дудар калі і дапускаў нейкую думку пра шчасьлівы выпадак, то марыў зусім пра іншы скарб. «Сапраўды каштоўным было б нешта такое, што пралівае сьвятло на тамніцы гісторыі Полацка, а значыць, і ўсёй Беларусі», — разважаў Дудар. А што магло праліць тое сьвятло? Ну ясна, напісаны тэкст, які можна прачытаць. Таму Алесь найбольш узрадаваўся б, напрыклад, нейкім невядомым рукапісам ці кнігам. Увогуле сэнсацыйна было б адшукаць полацкія летапісы. Бо часам веды даражэй за любыя скарбы. Скажам, чалавек захварэў — і ніякія скарбы яму не дапамогуць. Але калі ёсьць веда пра тое, як перамагчы тую хваробу, то й адужаеш немач. У даўнія часы адмысловая каста людзей захоўвала веды як асноўны скарб свайго племені. Пра гэта Дудар чытаў у кніжках па гісторыі. І варта было згубіць веды, як немінуча на племя насоўвалася вялікая бяда. Часта не было ніякага ратунку, акрамя як вярнуць страчанае. Таму, каб неяк застрахавацца, каб ня вельмі моцна рызыкаваць, бо чалавечае жыцьцё — справа непрадказальная, людзі прыдумалі, якім чынам перахоўваць веды больш надзейна.

Дудар быў упэўнены — усе праблемы беларусаў ад таго, што яны згубілі свае асноўныя веды,

у тым ліку сваю праўдзівую гісторыю. У гэтым ён не сумняваўся. Але верыў і ў тое, што недзе продкі тыя веды надзейна схавалі. А дзе яшчэ маглі схаваць, як не ў Полацку. І калі іх адшукаем, то ўсё імкліва зьменіцца да лепшага.

Дзед, які абяцаў паказаць падземны ход, працаваў вартаўніком у Доме культуры імя Леніна, што месьціўся ў адным з карпусоў былога Езуіцкага калегіюма. У суботу позна ўвечары Алесь накіраваўся ва ўстанову культуры, балазе гэта было зусім побач зь ягоным жытлом. Не сказаць, каб ён задужа хваляваўся. Зусім не. Па-шчырасьці, ён ня надта верыў тым казкам. Але штосьці ўнутры, недзе ля сэрца, яму вярэдзіла. Было нейкае прадчуваньне.

Дудар выйшаў на пляц перад саборам Сьвятога Стэфана. Ужо зьмяркалася. Жнівеньскі дзень ня быў такім працяглым. Вулічныя ліхтары, здавалася, асьвятлялі толькі сваё падножжа. На пляцы зусім нікога не было. Гэта нават спадабалася Дудару, бо ён хацеў наведаць дзеда, ціха, не прывяртаючы ўвагі.

Дзьверы былі зачынены. Алесь паторгаў іх мацней. Не, сапраўды замкнёныя знутры. Тады нягучна загрукаў кулаком. Пачуцьцё, што варта ўсё гэта зрабіць таямніча, не пакідала яго. За дзьвярыма пачуліся кволыя гукі. Затым загрукацела засаўка. Дзьверы адчыніліся.

На парозе стаў усё той жа дзед, у той самай дамatканай кашулі.

— Чакаю паночку-таварыша. Шастаюць тут розныя ліхія людзі, таму й зачыніўся. Праходзьце.

Дудар увайшоў у памяшканьне. Ён ужо быў тут некалькі разоў на розных мерапрыемствах — рабіў матэрыялы для газеты. Усё было яму тут знаёма. У фае гарэлі ўсяго дзьве лямпачкі, таму панаваў паўзмрок. Толькі зараз Алесь заўважыў, што дзед трымаў у руцэ вялікі ліхтар-кажан, якімі звычайна карыстаюцца абходчыкі на чыгунцы.

— Добры вечар! — павітаўся Дудар.

— Добры, добры, калі на месцы ўсе рэбры, — ці то пажартаваў, ці то скаламбурыў ахоўнік храму культуры.

— Ну й дзе ваш падземны ход? — запытаўся позьні госьць. Яму ўжо карцела як найхутчэй закончыць гэты свой культпаход. Алесь абсалютна не зьдзівіўся б, калі б гэты дзядзок зараз зарагатаў і сказаў, што ўсё гэта блазенскі жарт: лепш пойдзем кульнем па кілішку хатняй.

— Як абяцаў, то й пакажу, — безь ніякіх жартаў адказаў дзядок. — Пайшлі, калі не баісься.

Дудар заўважыў, што сёньня дзядок ня быў асабліва гаваркім. Ён крутануўся ў паўабароту і паклыпаў у дальні кут фае, асьвятляючы сабе шлях ліхтаром. Пад лесьвіцай, якая вяла на другі паверх будынка, аказаліся невялікія дзьверы. Дзед адамкнуў навясны замок і, з рыпам на ўвесь будынак, адчыніў іх.

— Гэта ўваход у падвал, тут трэба быць асьцярожным. Спачатку лесьвіца, паночку-таварыш, а затым хламудзьдзе match рознае. Так што асьцярожна ідзіце, каб не пакалечыцца.

Ён першым ступіў на сходы і пачаў асьцярожна, намацваючы нагой кожны крок, спускацца

ўніз. Дудар пасьпяшаўся сьледам — папярэджаньне пра тое, што можна ў гэтых сутарэньнях зьвярнуць шыю, падзейнічала на яго станоўча.

Безь якіх-кольвечы прыгодаў яны спусьціліся па сходах у падвал. Тут стаяў затхлы пах цьвілі. Падвал доўжыўся пад усім будынкам, быў досыць вялікім, але моцна захламленым нейкімі транспарантамі, дошкамі, фрагмэнтамі былой мэблі. Уздоўж сьценаў промень ліхтара выхопліваў разьлеглыя аркі і цагляныя слупы. Тут сапраўды можна было скруціць шыю.

— Зараз табе, паночку-таварыш, усё й пакажу. Насіў я сюды дошкі, якімі будуць сцэну перарабляць. Неяк крутануўся і моцна ўдарыў дошкай у сьцяну вунь у тым месцы. — Дзядок паказаў рукою некуды ў цемру. — А адна цагліна так і ўехала ў сярэдзіну. Ну я й уцяміў, што за сьцяной пуста. Праз дзень спусьціўся сюды зноў, павыцягваў некалькі цаглін — а там дзіра, ход ідзе ў бок сабору. Я ўжо стары, каб поўзаць па падзямельлі, таму і прыйшоў да вас...

— Ну і дзе тая дзіра? — перабіў дзедаў расповед Дудар.

Стары пасьвяціў сабе пад ногі, пералез праз невялікую барыкаду і спыніўся каля штабеля дошак. Затым асьвяціў сьцяну, у якую адным канцом тыя дошкі ўпіраліся. Там сапраўды зеўрала чорная дзірка.

— Дык вы, дзеду, у той ход не хадзілі? — спытаў Дудар. У гэты час ён ліхаманкава вырашаў, ці варта туды сёньня выпраўляцца.

— Я і кажу, што стары ўжо, каб лазіць па падзямельлях. Хутка мяне туды й так занясуць. —

Настрой у дзеда палепшыўся, падземны ход аказаўся на месцы, нікуды ня зьнік, і зараз ён мог шчодра штосьці распавесьці са свайго цікавага жыцьця.

Дудар вырашыў усё ж схадзіць на выведку. Адзінае, ён ня ведаў, што рабіць зь дзедам: браць яго з сабой ці пакінуць тут? На дваіх, праўда, быў адзін ліхтар, таму нічога не заставалася, як выпраўляцца ў падзямельле разам.

Алесь першым пралез у дзіру і апынуўся ў досыць прасторным ходзе, выкладзеным цэглаю. Каб рухацца па ім, трэба было крыху нахіляць галаву. Вартаўнік перадаў Алесю ліхтар і пралез сьледам.

У лёху было цяжка дыхаць. Відавочна, паветра тут цыркулявала зусім слаба. Пад нагамі адчувалася сырая зямля, месцамі нават было сьлізка. Як ні дзіўна, але чуліся нейкія шоргаты і прыглушаныя манатонныя гукі. Ці то рэха памнажала іхнія крокі, ці то недзе далей спадалі долу кроплі. Раптам Дудар адчуў, як нешта дакранулася да ягонага твару. Гэта было так нечакана, што ён рэзка ўскінуў руку, каб гэтае нешта прыбраць, пасьлізнуўся і гучна бразнуўся, стукнуўшыся галавой аб цагляную сьцяну.

— Я ж папярэджваў, што трэба быць асьцярожным. Ці жывы там? — пачуў Дудар голас спужанага дзеда.

Дасьледчыкі лёхаў апынуліся ў поўнай цемры. Дудар узьняўся, вохкаючы і праклінаючы ўсё на сьвеце, і пачаў вадзіць рукамі, шукаючы ліхтар. Знайшоў, але наўрад ці ён цяпер мог чым-кольвечы дапамагчы. Экспедыцыю трэба было перапыніць.

Трымаючыся рукамі за сьлізкія сьценкі, Алесь зь дзедам пачалі выбірацца назад. Час ад часу яны спыняліся і з дапамогай запалак праводзілі рэкагнасцыроўку. У падвале знайшлі нейкую паперчыну, скруцілі і падпалілі. Гарэла нядоўга. Тады зноў у ход пайшлі запалкі, якія хутка скончыліся. Неяк выбраліся.

Разьвітваючыся, Дудар паабяцаў прыйсьці заўтра ўвечары, каб паспрабаваць яшчэ раз залезьці ў падземны ход.

— Вы толькі нікому пра гэтае падзямельле не кажыце, а то пачнуць тут лазіць усялякія цікаўныя. Спачатку трэба высьветліць, што ўвогуле гэта такое. А затым далажыць начальству, — сказаў Дудар дзеду на разьвітаньне.

* * *

— Трэба ўвесь час трымаць сувязь зь мінулым, — сказаў Ластоўскі, нібыта чытаў лекцыю ў якой-небудзь Сарбоне. Ввасіль ніяк ня мог даўмецца, адкуль ён узяўся.

Кроква ўзьняўся на паддашак аднаго з карпусоў былога езуіцкага калегіюму. Сюды аднойчы яго завёў дзіўны знаёмы, які называў сябе полацкім краязнаўцам. Нечым ён нагадваў Падземнага чалавека з аповесьці Ластоўскага «Лябірынты». Таго самага, які завёў галоўнага героя ў полацкае паддзямельле. Гэты краязнавец ведаў усё, што рабілася ў Полацку. Дзе раскапалі яму і што там знайшлі, дзе абсунуўся бераг Палаты і якія таямніцы гэта адкрыла, дзе насамрэч у Полацку пахаваны французкі генэрал, забіты ў 1812 годзе… Аднойчы ён нават таемна шапятнуў, што ведае,

дзе схаваны сапраўды Крыж Эўфрасіньні Полацкай: маўляў, гэтая сьвятыня ніколі не пакідала Полацак у XX стагодзьдзі і зараз захоўваецца ў горадзе. Кроква палічыў гэта поўнай лухтой, бо добра вядома, што Крыж знайшоў у Полацку Ластоўскі і забраў яго ў Менск у музэй, урата-ваўшы ад здачы бальшавіцкімі марадзёрамі для справы сусьветнай рэвалюцыі. Кроква распавёў краязнаўцу пра гісторыю зьнікненьня Крыжа. Пачуўшы гэта, краязнавец неяк дзіўна пасьміхнуўся, краёчкамі вуснаў, і сказаў: «Ну, ну, казкі экіманскіх паромшчыкаў». Чаму гэта казкі і, да таго ж, экіманскіх паромшчыкаў, Кроква ня стаў удакладняць. Гісторыя пра зьнікненьне Крыжа Эўфрасіньні была настолькі вядомая і пацьверджаная рознымі крыніцамі, што не хацелася ані спрачацца, ані нешта даводзіць. Кожны беларускі вучань ведаў, што Крыж зьнік з сэйфа магілёўскага банку на пачатку вайны ў 1941 годзе, падчас эвакуацыі каштоўнасьцяў.

Аднойчы Падземны чалавек, назавем яго так, сказаў Крокве, што знайшоў дзіўны надпіс у будынку былога езуіцкага калегіюму і мог бы яго паказаць, маўляў, гэта будзе яму цікава. Заінтрыгаваны, Кроква папрасіў паказаць. Сваімі таемнымі сьцежкамі Падземны чалавек правёў яго на патрэбны паддашак. У скрайнім правым куце гарышча чалавек лёг пад бэльку і заклікаў тое ж самае зрабіць Крокву. Васіль лёг на сьпіну і пабачыў надпіс. На ніжнім баку бэлькі было выразана, відавочна нажом, два словы: ВОЗВРАТИТЬСЯ НЕЛЬЗЯ.

— І што гэта значыць? Куды нельга вярнуцца? — спытаў Кроква. Па-шчырасьці, ён чакаў нейкай сэнсацыі, прынамсі, нечага зразумелага. Пасьля забароны езуітаў у гэтых мурах быў кадэцкі корпус. Таму надпіс выразалі або навучэнцы калегіюму, або кадэты. Хутчэй, нават кадэты, бо навучэнцы калегіюму вучыліся па-польску і пісалі па-польску.

— Загадка, якую трэба разгадаць, — адказаў краязнаўца.

— А можа, няма ніякай таямнічай загадкі, проста нешта асабістае. Можа, зьнікла каханьне і нельга вярнуцца да ранейшых адносін. Ці штосьці падобнае.

— Ня думаю. Тады надпіс быў бы зроблены адкрыта, не схавана. Значыць, гэта таемны надпіс, — зрабіў выснову Падземны чалавек.

Кроква некалькі дзён думаў пра сэнс гэтых двух простых словаў. Ніякай лягічнай разгадкі яму не прыходзіла ў галаву. Быў толькі адзін рэальны шанец разьвязаць гэты вузельчык — знайсьці нейкую падказку, пашукаць побач, можа там былі іншыя надпісы, зьвязаныя з гэтым.

Васіль ня стаў турбаваць краяўнаўца і выправіўся ў езуіцкія муры другі раз сам. Ён аблазіў побач з надпісам усё, што толькі можна. Знаходзіў іншыя, але гэта былі проста імёны і прозьвішчы, відавочна, былых навучэнцаў.

І тут ён пачуў знаёмы голас Ластоўскага:

— Трэба ўвесь час трымаць сувязь зь мінулым.

Крокву нібы працяла электратокам. Ён узьняў галаву і ўбачыў Ластоўскага, што сядзеў на той самай бэльцы, пад якой быў таемны надпіс. Власт быў у тым самым шэрым касьцюме, як і на сваім славутым фотаздымку.

— Дзеля чаго? — пытаньне ў Кроквы атрымалася па-дзіцячы наіўным. Васілю падалося, што гэта ня ён спытаў, бо пытаньне прагучала безь яго волі.

— Інакш губляецца пэрспэктыва руху. А вярнуцца ўжо нельга. — Крокве падалося, што ён пачуў нешта важнае, але ніяк ня мог зразумець, што менавіта.

— А што, існуе нейкі агульны рух? І куды гэты рух? — цяпер Кроква імкнуўся кантраляваць сябе і паспрабаваў сфармуляваць пытаньні больш сэнсоўна.

— У лябірынце немагчыма вярнуцца назад. Шляху назад проста няма. Ёсьць толькі шлях наперад, нават калі ты будзеш вяртацца назад, — Ластоўскі нібыта не пачуў пытаньняў Кроквы і працягваў тлумачыць нешта сваё.

— А як тады трымаць сувязь зь мінулым? — Крокве падалося, што ён знайшоў слабое злучво ў разважаньнях Ластоўскага.

— Мінулае заўсёды з табой. Трэба толькі ўмець трымаць зь ім сувязь, — на гэты раз Власт не праігнараваў пытаньне Кроквы.

— А што азначае гэты надпіс і хто яго зрабіў? — Кроква паказаў рукоў на бэльку, на якой сядзеў Ластоўскі.

— Той, хто хацеў вярнуцца, а ў выніку — не атрымалася. — Власт устаў з бэлькі, падышоў

да невялічкага ваконца, пачаў кудысьці ўзірацца і прамовіў: — Не давай зьнікаць мінуламу.

Ягоны сылюэт захістаўся, як адбітак у рацэ ад хваляў, і распусьціўся ў сьвятле, што лілося праз моцна запыленае шкло ваконца.

# Частка трэцяя

Назаўтра, пасьля няўдалай выправы ў полацкае падзямельле, Алесь Дудар ня здолеў, як абяцаў дзеду, наведаць Дом культуры і паўтарыць спробу трапіць у лёхі. Рэдактар паслаў Алеся ў мястэчка Дрэтунь на камсамольскі сход тамтэйшай моладзі, каб той выступіў на ім і па вяртаньні напісаў рэпартаж пра поступ новага жыцьця ў беларускай глыбінцы. Дудара спачатку гэтая нечаканая камандзіроўка раззлавала. Ён палову ночы разважаў пра ўчорашняе здарэньне. А калі нарэшце заснуў, яму трызьніліся ўсялякія фантастычныя прыгоды — то яго пераймалі ў тых лёхах дзіўныя людзі, якія так прыгожа гаварылі па-беларуску, што Дудар нават у сьне адчуваў, як па сьпіне бегаюць мурашы захапленьня; то сьнілася, што ён адшукаў у падзямельлі таямнічы пакой, падобны да бібліятэчнага. У гэтым пакоі было столькі старажытных кніг у прыгожых скураных вокладках, што, здавалася, яны сабраныя тут з усяго сьвету. Дудар цягнуўся рукой, каб узяць адну з кніг, і трывожна, як падчас хваробы, прачынаўся. Зноў засынаў. І зноў яму сьніўся таямнічы лёх, зноў трызьніліся дзіўныя гукі, якія ён учора чуў там — пад Домам культуры імя Леніна.

Таму з раніцы Алесь толькі і думаў аб адным — як дачакацца вечару і скіравацца праз плошчу да былых езуіцкіх муроў.

А тут ехаць у нейкую глухмень. Ды яшчэ на два дні, бо сход адбудзецца ўвечары, таму прыйдзецца там пераначаваць.

Дудар мусіў падпарадкавацца. Да Дрэтуні ён дабіраўся на акружкамаўскай машыне — аддзел народнай асьветы завозіў у тамтэйшую школку падручнікі, сшыткі і нават тое-сёе з мэблі. Дудара гэта ўзрадавала, бо самастойна шукаць, як трапіць у тую Дрэтунь, не было аніякага жаданьня.

У Алеся была яшчэ адна нагода для наведваньня Дрэтуні. Там у школцы працаваў настаўнік, які час ад часу дасылаў розныя допісы ў газэту. І пісаў досыць прыстойна. Дудар амаль нічога за ім ня правіў. А апошнім часам настаўнік пачаў дасылаць вершы і празаічныя мініятуры, напісаныя па-беларуску. Прозьвішча, праўда, настаўнік меў не зусім мілагучнае, а можна сказаць зусім не мілагучнае — Тупіцын. Відаць, таму ўсе свае допісы ў газэту селькар падпісваў: «Будитель».

У дарозе нэрвовае ўзбуджэньне Дудара адносна ўчорашняй прыгоды пачало зьнікаць. Малады паэт быў у захапленні ад маляўнічых краявідаў Полаччыны. На памяць прыходзілі розныя паэтычныя радкі пра прыгажосьць беларускай прыроды, але ўвесь час кагосьці са старэйшых калегаў — Купалы, Коласа, Багдановіча. Алесь паспрабаваў штосьці згадаць з сучасных камсамольскіх паэтаў. І ня змог. Гэта

крыху зьбянтэжыла яго, але малады паэт хутка пераключыўся ў думках на іншыя тэмы.

Дудар усё часьцей разважаў над сваім лёсам. Заставацца надалей у Полацку ня мела аніякага сэнсу. Полацак быў, канешне, ня Дрэтуньню, але й тут яму нічога абсалютна не сьвяціла. Ані рэдакцыяў літаратурных пэрыёдыкаў, ані выдавецтваў, ані ўнівэрсытэту. Вось, вось. Дудару трэба было далей вучыцца. Ён добра ўсьведамляў гэта. Трэба было вяртацца ў Менск і паступаць ва ўнівэрсытэт. Прычым варта рабіць гэта тэрмінова, бо інакш ён губляў год. Дудар ведаў, што з паступленьнем у яго не будзе праблемаў, бо мае добрых уплывовых сяброў. Напрыклад, таго ж Чарота. Міхась абавязкова закінуў бы за яго слова дзе трэба.

Але тут згадалася ўчорашняя гісторыя з полацкім падзямельлем. І Дудар вырашыў: высьветліць, што там і як, — і пачне зьбірацца ў Менск.

* * *

«Вярнуцца нельга» — гэтыя два словы круціліся ў галаве Кроквы як сапсаваная вінілавая кружэлка. Ніякага патаемнага сэнсу ў тых простых словах ён ня бачыў. Адзіная асацыяцыя паўставала з назвай рамана Васіля Быкава «Пайсьці і не вярнуцца». Але тое ў экстрэмальных умовах, падчас вайны, у сытуацыі маральнага выбару. А ў звычайным будзённым жыцьці колькі разоў ён кудысьці ішоў, а затым вяртаўся назад. Праўда, мо ёсьць такія месцы, адкуль сапраўды не вяртаюцца. Але гэта больш падобна да нейкай містыкі.

А калі гэта сказана алегарычна? Напрыклад, нельга вярнуцца да жыцьця пасьля сьмерці. Або нельга вярнуцца да пражытых дзён, штосьці там выправіць, зьначыць. Вось і Ластоўскі кажа, што да мінулага нельга вярнуцца. Зь ім можна толькі трымаць сувязь.

Ну, не. Нехта жартам штосьці напісаў, а ён тут тлуміць сабе галаву.

Зь мінулым сапраўды трэба трымаць сувязь. Тут няма тэмы для спрэчкі. Дзеля гэтага існуе адмысловая навука — гісторыя, дакумэнтальная літаратура. Дзеля гэтага існуе, у рэшце рэшт, краязнаўства...

Але «вярнуцца нельга»...

Кроква апрануўся і выйшаў на вуліцу. Ён вырашыў крыху пашпацыраваць і разьвеяць галаву. Звыклы яго маршрут — па вуліцы Максіма Багдановіча да новага моста праз Дзьвіну. Вечарэла. Летнае сонца павольна сплывала кудысьці ўсьлед за плыньню ракі. Там ужо яго чакалі новы людзі. Але сонца абавязкова вярталася. Яно не задавала сабе недарэчных пытаньняў.

Пасярод моста Кроква спыніўся і хвілін пятнаццаць цешыўся цудоўным краявідам. Сафійскі сабор, сапраўды як карабель з узьнятымі ветразямі, адбіваўся ў люстэрку Дзьвіны. Некалі з караблём Сафію параўнаў Уладзімер Караткевіч. «Дзе Сафія плыве над Дзвіною, нібы карабель». «Дзе мой край?» — такі рэфрэн у тым вершы. «Вось мой край», — падумаў Кроква. А якімі словамі той верш заканчваецца? І адразу згадалася: «Мы клянёмся табе, што ніколі,

ніколі, ніколі, так, ніколі ня кінем, ня кінем, ня кінем цябе».

Калі Кроква вяртаўся дахаты, у ягонай галаве ўжо круціліся гэтыя апошнія словы зь вядомага верша Караткевіча. Словы так хутка-хутка паўтараліся, што выразна было чуць толькі адно — «ніколі».

* * *

Тупіцын аказаўся выдатным хлопцам. Гады на тры-чатыры старэйшым за Дудара. Ён толькі пазалетась скончыў Полацкі пэдтэхнікум і атрымаў разьмеркаваньне ў Дрэтунь. Не сказаць, каб ён быў вельмі рады гэтаму разьмеркаваньню, але Анатоль — так звалі хлопца — сам паходзіў з падобнага невялічкага мястэчка — з Палаты. Таму мясцовы паўвясковы ўклад жыцьця яго не бянтэжыў. Анатоль жыў у суседняй са школай хаце, гаспадарамі якой была сямейная пара сталага веку, што ўжо вырасьціла сваіх дзяцей і выправіла ў людзі. Хто паехаў у Віцебск, хто ў Полацак, а старэйшы сын увогуле жыў у Менску і працаваў там на бровары, чым вельмі ганарыліся бацькі.

Анатоль адразу прапанаваў Дудару перанавацаць у яго, маўляў, хата вялікая, ёсьць нават яшчэ адзін вольны пакой. Алесь, вядома, пагадзіўся.

Камсамольскі сход адбываўся ў школе, балазе аснову мясцовай камсамольскай ячэйкі складалі два маладыя настаўнікі — акрамя Анатоля, быў яшчэ Пятро, таксама выхаванец Полацкага

пэдтэхнікума. А ўся ячэйка складалася зь пяці чалавек. Былі яшчэ дзьве дзяўчыны і хлопец — усе вучні старэйшых клясаў.

Найперш Дудар распытаў мясцовых камсамольцаў пра жыцьцё ў мястэчку. Яму было цікава ўсё. Колькі вучняў у школе? Ці прыяжджалі да іх у школу калі-небудзь пісьменьнікі? Як у мястэчка трапляюць кнігі? На якой мове размаўляе старшыня райсавету? Ці дапамагае ён камсамольскай ячэйцы? Якія маюць пляны на новы навучальны год?

У прынцыпе, Дудар і чакаў такіх адказаў, якія пачуў. Найбольш яго парадавала, што старшыня райсавету размаўляе па-простаму. Ён мясцовы і ніякіх гарадзкіх навукаў не зазнаў.

Увогуле ў гэтай радасьці былі пэўныя ідэалягічныя супярэчнасьці. Дудар, як прадстаўнік «Маладняка», выступаў за стварэньне новай сацыялістычнай пралетарскай культуры. Вяскоўцаў маладнякоўцы лічылі калі ня шкоднікамі, дык прадстаўнікамі дробнабуржуазнай праслойкі. І вершы маладнякоўцы пісалі пра домны, заводы, фабрыкі і электрастанцыі. Той, хто пісаў пра вёску і нават пра вясковыя гаспадарчыя клопаты, падпадаў пад жорсткую маладнякоўскую крытыку. Але з кожнай такой паездкай у глыбінку Дудар пераконваўся, што менавіта вёска захоўвае беларускую мову, традыцыю і народную культуру. І гэта абсалютна не стыкавалася з маладнякоўскай тэорыяй нацыянальнага культурнага будаўніцтва. Бо «Маладняк» выступаў за пашырэньне нацыянальнай сьвядомасьці сярод жыхароў Беларусі і, самае галоўнае, нацыя-

нальную па форме, але пралетарскую па зьмесьце культуру.

Зразумела, Дудар ня стаў дзяліцца сваімі ўласнымі таемнымі думкамі і крытычнымі развагамі. Яго прамова была традыцыйнай і базавалася на асноўных тэарэтычных артыкулах Адама Бабарэкі і Міхася Чарота. Прыканцы свайго выступу Дудар заклікаў дрэтуньскіх касмамольцаў актыўней уключацца ў будаўніцтва новага жыцьця, а таксама пісаць пра свае справы ў полацкую газэту.

* * *

Нічога так не раздражняла Крокву, як электронныя лісты ад невядомых людзей. Прыходзілі яны, як зазвычай, позна ўвечары, калі Васіль быў увесь, да апошняй клетачкі мозгу, заняты сваім пісаньнем. Мала таго, што яны адрывалі ад працы, дык яшчэ вельмі часта несьлі ў сабе нейкія бязглуздыя просьбы і пытаньні. На палову зь іх можна было знайсьці адказ праз пашуковік у Інтэрнэце. Не, трэба пісаць электронны ліст і пытацца: у якім годзе выйшла ваша такая і такая кніга? Або: ці праўда, што герой вашага апошняга раману абсалютна рэальная асоба і жыве з вамі ў адным горадзе?

Але гэтым разам электронны ліст заінтрыгаваў. Незнаёмец, які падпісаўся *Палачанін*, даслаў наступнае паведамленне:

*Добры дзень! Ведаю, што вас цікавіць гісторыя роднага городу і што вы шукаеце полацкія лёхі. Дык вось, я ведаю, як у іх трапіць.*

*Вяртаньне магчымае!*

*З павагай, Палачанін.*

Спачатку Кроква падумаў, што яго разыгрывае Падземны чалавек. Да гэтай думкі яго схілілі перадапошнія два словы: вяртаньне магчымае! Хто, акрамя Падземнага чалавека, ведае, што ён бачыў той надпіс на паддашку? Хіба што ён камусьці пра гэта расказаў.

Кроква патэлефанаваў краязнаўцу. Той бажыўся і хрысьціўся, што не дасылаў яму ніякіх электронных лістоў і нікому не расказваў пра той дзіўны надпіс.

Ведаючы краязнаўца як сур'ёзнага і сьціплага чалавека, Кроква паверыў яму. Ды й сапраўды — дзеля чаго было яму рабіць такое глупства. Калі б ён нешта ведаў, дык даўно б распавёў. Бо ня раз Кроква распытваў яго пра лёхі. Падземны чалавек казаў, што пад Полацкам у цэнтры сапраўды шмат дрэнажных хадоў, якія пабудавалі езуіты і базыльяне пад сваімі будынкамі для адводу падземных водаў ад падмуркаў і падвалаў. Але нічога там няма, усе яны даўно паўразбураныя, а на пачатку ХХ стагоддзя мясцовая дзятва дзясяткі разоў аблазіла іх і не знайшла нічога цікавага.

Спачатку Кроква хацеў напісаць невядомаму палачаніну абуральны ліст, маўляў, калі няма чаго рабіць, то лепш заняцца нейкай грамадзкакарыснай справай, а не пісаць незнаёмым людзям недарэчныя лісты. Але затым перадумаў і вырашыў, што лепш будзе зусім не рэагаваць на гэтую глупоту.

* * *

Дудар яшчэ раз пераканаўся, што добры, здаровы сон прыходзіць як натхненьне. Мож-

на страшэнна стаміцца, падаць з ног, але сон ня дасьць патрэбнага спачыну: або будзе нейкі абрывісты і трывожны, або глыбокі і пакутлівы, ад якога на раніцу толькі разбаліцца галава і стане млосна. Сон як натхненьне. Дудару нават падалося, што гэты радок мог стаць пачаткам добрага верша. Але згадаўшы, як моцна крытыкавалі маладнякоўскія знаўцы за падобныя ўпадніцкія вершы Язэпа Пушчу і Тодара Кляшторнага, Алесь ад ідэі напісаць верш пра здаровы сон адразу адмовіўся.

Дудару кепска спалося ў Дрэтуні. І гэтаму кепскаму сну не было ніякага тлумачэньня. Увогуле Алесь застаўся задаволены ад паездкі. І тутэйшыя людзі яму падаліся сымпатычнымі. І Анатоль Тупіцын напісаў заяву ў полацкую філію «Маладняка». І мясцовая камсамольская ячэйка яму падалася пэрспэктыўнай і перадусім нацыянальна арыентаванай. Усе чальцы суполкі добра размаўлялі па-беларуску і пагаджаліся з Дударовым тэзісам, што безь беларускай мовы немагчыма збудаваць сапраўдную, народную, сацыялістычную Беларусь.

Усё было добра. Толькі нейкая ўнутраная трывога, якая закралася ў сэрца маладога паэта, трымала яго ў напружаньні, нібыта ў чаканьні нечага непрыемнага.

Сам Дудар патлумачыў сабе гэты стан як разгубленасьць перад будучыняй. Трэба пачынаць новы этап жыцьця. Вяртацца ў Менск. Паступаць ва ўнівэрсытэт. А гэта клопаты, клопаты, клопаты...

Перад сном Дудар і Будзіцель пасядзелі на лавачцы перад хатай, у якой кватараваў Анатоль.

Амаль дзьве гадзіны яны размаўлялі. Дудар апавядаў пра маладнякоўскія падзеі, пра сваіх літаратурных сяброў, пра пляны полацкай філіі «Маладняка». Будзіцель — пра сваю вучобу ў пэдтэхнікуме, пра дрэтуньскія будні.

Дудар намаўляў Будзіцеля таксама падавацца ў Менск ва ўнівэрсытэт па навуку — пакуль малады і ня мае сям'і.

— Усё ў гэтым сьвеце досыць умоўна, і навука таксама, — неяк загадкава адказаў Анатоль на прапанову полацкага госьця.

— Што ты маеш на ўвазе? — Дудар нават разгубіўся, пачуўшы такі адказ.

— Вунь бачыш на небе тую вялікую чырвоную зорку? Гэта Марс. І там таксама можа быць жыцьцё. Але ўся іхняя навука будзе зусім іншая. Уяўляеш?! Я ня маю на ўвазе нейкія гуманірныя навукі. Але і такія, як фізыка або хімія. Іншыя хімічныя элемэнты, іншыя законы прыроды.

Дудар уважліва паглядзеў на новага сябра. Затым пачаў углядацца ў зорку Марс.

— І ты думаеш, што там сапраўды можа быць разумнае жыцьцё? — празь нейкі час прамовіў Алесь.

— Чаму й не. Паглядзі, які вялізны космас. Мільярды плянэтаў. Калі на нашай Зямлі змагло зарадзіцца жыцьцё, то і на нейкай іншай плянэце, дзе ёсьць пэўныя зручнасьці для існаваньня, яно таксама можа зьявіцца. Бо ты ж ня верыш, што ўсё гэта стварыў Бог?

— І якое яно можа быць?

— Баюся, што зусім да нас не падобнае. Чужое. А можа, нават і варожае.

— І ты хочаш сказаць, яно пры сустрэчы можа нас зьнішчыць?

— Усё можа быць. Чужая душа — пацёмкі. А істоты з чужой плянэты — тым больш. Варта з чужым жыць на адлегласьці.

Хлопцы нейкі час маўчалі. Дудар углядаўся ў трывожную чырвоную зорку.

Уночы полацкі госьць кепска спаў. Яму сьніліся чужыя, страшныя істоты з Марсу.

* * *

Нейкі час Кроква забыўся на ўсе свае апошнія прыгоды. Навалілася журналісцкая праца. Затым пачаліся розныя юбілеі і спадарожныя ім мерапрыемствы. Кроква ў адных удзельнічаў, пра іншыя пісаў. Найбольш яго ўсхвалявала сьціплае адзначэньне 190-годзьдзя славутага мастака Івана Хруцкага. У Полацку ўвогуле гэтую дату праігнаравалі. Кроква ня мог на тое не адрэагаваць.

«Сёлета беларускі мастацкі сьвет адзначае 190-годзьдзе мастака Івана Хруцкага. І трэба сказаць, адзначае вельмі сьціпла. Вядома, 190 год не такі ўжо й круглы юбілей, але ўсё адно зручная нагода, каб згадаць добрым словам выбітнага майстра пэндзля. Нарадзіўся мастак у 1810 годзе ў сям'і ўніяцкага сьвятара з мястэчка Ула цяпер Бешанковіцкага раёну. Першапачатковую адукацыю атрымаў у Полацкім піярскім ліцэі, які пераняў навучальную базу езуітаў, калі царскія ўлады зачынілі Полацкую езуіцкую акадэмію. Затым Хруцкі вучыўся ў Пецярбургскай акадэміі мастацтваў. У 1839 годзе мастаку

было нададзена званьне акадэміка жывапісу. Нягледзячы на ўсе пашаноты, значную частку свайго жыцьця Хруцкі пражыў у маёнтку Захарнічы, побач са старажытным Полацкам.

Іван Хруцкі — бадай, адзіны беларускі мастак XIX стагодзьдзя, які, дасягнуўшы посьпеху і вядомасьці, не пакінуў родныя мясьціны. Ён і памёр на роднай зямлі і быў пахаваны на Захарніцкіх могілках. Аднак толькі ў 90-х гадах на Полаччыне пачаліся пошукі сьлядоў вядомага мастака, карціны якога захоўваюцца ў многіх славутых музэях Эўропы. З дапамогай праўнучкі Хруцкага, кіеўскай мастачкі Ядзьвігі Мацієўскай (яе дзяцінства прайшло ў Захарнічах), удалося адшукаць магілу ставутага партрэтыста і майстра нацюрморту. У сярэдзіне 90-х у Захарнічах пачалі ладзіцца пленэры. Праўда, рэй тут павялі віцебскія мастакі, бо грошы на пленэры Хруцкага выдаткоўвалі абласныя ўлады. На жаль, зрабіць пленэр аўтарытэтным і міжнародным віцебчукі ня здолелі, а з часам ён наогул зьнік з усіх мастацкіх календароў. Не пашанцавала й помніку, што быў усталяваны на Захарніцкіх могілках, — летась па-дзікунску магіла была разбурана. Гэтае ж няшчасьце здарылася і з мэмарыяльнай шыльдай, прымацаванай да сьцяны полацкай дзіцячай мастацкай школкі, — два гады таму яна бясьследна зьнікла. Проста нейкая навала злога лёсу.

У сваёй кнізе “Таямніцы полацкай гісторыі” полацкі пісьменьнік Уладзімер Арлоў пісаў: “Некалі з Полацка можна будзе зьезьдзіць у мэмарыяльны музэй-сядзібу водбліз возера, якое

тутэйшыя сяляне, забыўшы яго афіцыйную назву, звычайна называюць Хруцкім". На жаль, зьезьдзіць у музэй-сядзібу Івана Хруцкага можна будзе яшчэ ня хутка. Пакуль ва ўладаў хапае грошай толькі на адбудову сядзібы Ільлі Рэпіна — Здраўнёва ў ваколіцах Віцебску, куды расейскі мастак час ад часу прыяжджаў адпачыць і памаляваць».

* * *

Вяртаўся ў Полацак Дудар цягнікам. «А гэты Тупіцын разумны хлопец, — думаў па дарозе Алесь. — Хаця і не да такога вар'яцтва можна дадумацца, седзячы ў глухой правінцыі».

Але досыць хутка іншыя думкі пачалі апаноўваць галаву Дудара. Падземны ход. О, так! Як ён мог забыцца на яго. Заўтра ўвечары паэт абавязкова зноў наведае Дом культуры імя Леніна. Думкі паплылі ў кірунку заўтрашняй вечаровай выправы.

І тут Дудар згадаў, што Анатоль, праводзячы яго на цягнік, перадаў яму некалькі паперак, пры гэтым сказаў, што гэты твор можа і не падыдзе для газэты, але няхай хоць сам Дудар прачытае. Невялічкае апавяданьне, хутчэй лірычная мініятура, называлася «Вяртаньне».

«Няма нічога больш захапляльнага ў правінцыйным жыцьці, як грыбная пара. Надыходзіць яна ня згодна з календаром, а паводле свайго адмысловага раскладу. Тут ніколі ня можаш быць пэўным. Здаецца, і дажджы прайшлі, і цёпла стала, а грыбоў у лесе няма. А прыходзіць нейкая шэрая пара, здавалася б,

непрыветная і негасьцінная, як грыбы высыпаюцца па ўсім лесе, нібыта іх нейкі шчодры сейбіт высадзіў поўнай жменяю. І тады хутчэй зьбірайся ў лес, не марнуй спрыяльны час.

Наталіўшы свой азарт, назьбіраўшы поўны кош адных белых, пачынаеш аглядацца навокал. І бачыш вершалы дрэваў, вавёрак, якія злучаюць сваімі скокамі тыя вершаліны. І чуеш сьпевы птушак. І адчуваеш, што гэтая прыгажосьць і лагода і ёсьць твая радзіма. Гэтыя вершаліны ў небе і гэтыя сьпевы птушак бачылі і чулі і твае дзяды, і дзяды дзядоў, і далёкія-далёкія твае продкі. У гэтым ёсьць нейкая сапраўднасьць. Нейкі код, запісаны і ў абрысах дрэваў, і ў гуках песень. І ты вяртаесься ва ўсё гэтае спадчыннае і дзедзічнае.

Ды сканчваецца лес, выходзіш на дарогу дадому. І разумееш, што гэта не вяртаньне, а толькі назіраньне ў акенца, у шчылінку.

Вяртаньне немагчымае, думаеш ты, але сувязь з гэтым павінна быць. Нейкім пачуцьцём, нейкім рухам, падобным да пульсу ля скроні.

Вяртаесься дадому. Бярэш томік любімых вершаў і чытаеш. І ўсё разумеш інакш. І гэтая песьня ў душы гучыць надалей, застаецца, то мацнее, то амаль сыходзіць пад лёд тваіх жыцьцёвых клопатаў, але зноў вырываецца вонкі — і гучыць, гучыць.

Вяртаньне немагчымае, але магчыма ўсё гэта захоўваць у сэрцы і мець заўжды з сабой».

Дудар прачыў тры разы запар караценькае апавяданьне Будзіцеля. Спачатку нават і ня ве-

даў, як на гэта адрэагаваць. Нібыта ніякай крамолы ў гэтых лічаных сказах не было. Аўтар напісаў пра тое, як хадзіў у грыбы і як яго натхніла прырода родных мясьцінаў. Але ў ягоных радках было штосьці крамольнае. Прычым Дудар так і ня змог сфармуляваць для сябе — у чым тая крамола палягала. Аднак ён адназначна вырашыў, што гэтае апавяданьне Будзіцеля ён ня тое што ня будзе друкаваць у газэце, але і нікому не пакажа.

* * *

Пасьля ўсіх розных юбілейных мерапрыемстваў пачаліся журботныя дні. Адзін за адным пачалі паміраць полацкія вэтэраны беларускага руху. Пасля пахаваньня Паўла Бурдыкі, аптымістычнага чалавека, які не здаваўся хваробе да канца, Васіль Кроква запісаў у сваім дзёньніку:

«Учора ў Полацку было холадна і журботна. Сонца амаль не выглядала з-за аблокаў, дзьмуў пранізьлівы, сьцюдзёны вецер. У гэты дзень сябры і родныя разьвітваліся зь беларускім патрыётам Паўлам Бурдыкам. Журботная цырымонія адбывалася паводле тастамэнту памерлага — пад музыку палянэзу Агінскага "Разьвітаньне з Радзімай", труну ўкрываў бел-чырвона-белы сьцяг. Месца пахаваньня таксама было абранае загадзя — маленькія могілкі ля вёскі Булаўкі, што ў 15-ці кілямэтрах ад Полацка. Непадалёку ад гэтых вясковых кладоў расьце сад Паўла Бурдыкі. Кожную вясну ён шукаў у навакольным лесе маладыя яблынькі-дзічкі, выкопваў іх, перасаджваў на сваю зямлю і прышчапляў.

Сёлета, зусім хворы, ён разам зь зяцем усё адно выправіўся ў лес на пошукі патрэбнага дрэўца. Знайшоў маладую грушу і зрабіў усё як звычайна. Але ўпершыню прышчэпка не прыжылася. Жыцьцёвых сілаў у чалавека ўжо не ставала.

Павал Бурдыка марыў дажыць да восені. Ён быў упэўнены, што восеньню на Беларусі ўсё павернецца да лепшага. Ён вельмі любіў сваю Беларусь. Да вайны ў Канаду зьехалі тры ягоныя дзядзькі. Ён езьдзіў у тую багатую краіну, але, вярнуўшыся, сказаў, што дома жыць лепш. Там, маўляў, кожны жыве дзеля сябе, а хіба гэта правільна?

Павал Бурдыка любіў паляпшаць жыцьцё сваімі ўласнымі рукамі, а не чакаць нейкага цуду. Каб такім людзям дазволілі ў сваёй краіне гаспадарыць, дык людзі жылі б тут ня горш, чым у Амэрыцы, любіў паўтараць ён.

Павал Бурдыка быў вельмі падобны да герояў Кузьмы Чорнага — Сымона Ракуцькі з раману "Пошукі будучыні", або да Мікалая Сямагі з твору "Млечны шлях". Усе яны шукалі шчасьця на сваёй зямлі, і ня проста шукалі, а будавалі яго. Прычым найперш шчасьця яны дамагаліся перадусім для сваіх блізкіх, крэўных. Але ўвесь час такім людзям заміналі. То белапалякі, то бальшавікі, то гітлераўскія захопнікі, то мясцовыя прыхвасьні — стукачы і халуі. Але зь нейкай сталёвай упартасьцю тыя героі пачыналі сваё будаўніцтва зноў і зноў.

За жалобным сталом усе згадвалі, як любіў Павал Іосіфавіч беларускую мову. Ведаючы ўжо пра хуткую сьмерць, ён набываў кнігі і чытаў,

і чытаў — сьпяшаўся больш даведацца, атрымаць больш асалоды ад роднага мастацкага слова.

А тую грушу, якая не далася Паўлу Бурдыку гэтай вясною, прышчэпіць налета ягоны ўнук — з васьмі гадоў працу ў садзе ён робіць даскапала».

* * *

Гэтая вестка для Дудара мела прыкладна такую ж эмацыйную напружанасьць і нечаканасьць, як, напрыклад, калі б на яго вачах прызямліўся касьмічны карабель і зь яго выйшлі марсіяне.

У сераду на працы Алесь даведаўся, што той дзед, які працаваў вартаўніком у Доме культуры імя Леніна, не жыве. Яго знайшлі ў аўторак раніцай у падвале мёртвым. Нібыта ўпаў і скроньню ўдарыўся аб край дошкі.

Атрымліваецца, што, хутчэй за ўсё, гэтае здарэньне адбылося ў панядзелак. Якраз у той вечар, калі Дудар зьбіраўся яшчэ раз паспрабаваць трапіць у падземны ход. Чаму стары адзін, без Дудара, спусьціўся ў падвал? Што там магло здарыцца? Гэтыя пытаньні адразу завіравалі ў сьвядомасьці паэта. Яго апанаваў жах. Штосьці таямнічае было ў гэтай сьмерці. Ня верылася, што дзед вось так проста паваліўся і стукнуўся скроньню аб дошку. Але калі яго нехта забіў, дык за што? За тое, што знайшоў падземны ход і распавёў пра яго Дудару? Лухта. Гэтыя нехта маглі адразу, як толькі дзед прабіў тую дзірку ў цаглянай кладцы, прыбраць яго. Навошта было ім чакаць, пакуль стары вартаўнік пойдзе некуды дакладаць пра знойдзены падземны ход?

Дудар ня ведаў, што яму цяпер рабіць. З аднаго боку, трэба пайсьці куды трэба і распавесьці пра знойдзеныя лёхі. Бо, магчыма, была нейкая сувязь паміж знаходкай і сьмерцю вартаўніка. Але гэтую ідэю Дудар катэгарычна адкінуў. Рэдактар, відавочна, ужо й забыўся, што да іх прыходзіў нейкі дзед. Такіх дзядоў штодзень прыходзіць па пяць штук. Ніхто таксама ня бачыў, што Дудар хадзіў увечары ў Дом культуры імя Леніна. Да таго ж ён меў жалезнае алібі — у панядзелак знаходзіўся ў камандзіроўцы ў Дрэтуні. Таму хвалявацца не было прычыны.

Але паўставала яшчэ адно істотнае пытаньне: ці варта выправіцца ў падземны ход самастойна пасьля таго, што здарылася? На гэтае пытаньне ня ведаў адказу, напэўна, сам Карл Маркс.

Дудар цэлы дзень разважаў над ім. І ўвечары нарэшце вырашыў, што нельга спыняцца на паўдарозе, бо калі ён спыніцца, то ніколі сабе гэтага не даруе.

Назаўтра, нібыта па рэдакцыйнай патрэбе, удзень ён наведаў Дом культуры імя Леніна. Яго сустрэла цётухна, зь якой ён похапкам пазнаёміўся, калі жыў у інтэрнаце, што месьціцца ў езуіцкіх мурах. Відаць, яна заняла вольную пасаду дзеда або яе проста часова прызначылі пільнаваць культурную гаспадарку.

Паразмаўляўшы зь цётухнай пра ўсё і ні аб чым, Дудар спытаў, ці ня ведае яна, дзе захоўваюцца транспаранты для мітынгаў. Маўляў, яму

трэба паглядзець, што маецца ў наяўнасьці і якія зрабіць новыя. Цётухна паведаміла, што тое даброцьце захоўваецца ў падвале, а ключ ад замка ў яе. Дудар дамовіўся, што прыйдзе заўтра ўвечары ў вольны ад працы час і паспрабуе тыя транспаранты агледзець.

* * *

Палачанін, які даслаў таямнічы электронны ліст Крокве, зноў даў пра сабе знаць праз месяц. Васіль атрымаў ад яго новае паведамленьне.

*Добры дзень!*

*Вы, відаць, успрынялі мой ранейшы ліст за жарт. Але я не жартую. Полацкія лёхі сапраўды існуюць. І я магу вам іх паказаць.*

*Чакаю на ваш адказ.*

*Вяртаньне магчымае!*

*З павагай, Палачанін.*

Гэтым разам Кроква паставіўся да паведамленьня больш сур'ёзна. Прынамсі, ён нічога не губляя, калі адкажа на гэты мэйл. І Васіль адгукнуўся.

*Вітаю, Палачанін!*

*Прызнаюся, што сапраўды ўспрыняў ваш першы ліст за жарт. Але, улічваючы вашу настойлівасьць, вырашыў адказаць. Перадусім мяне цікавіць, чаму вы пішаце, што вяртаньне магчымае? Куды вяртаньне?*

*Васіль Кроква*

Літаральна праз 5 хвілін прыйшоў адказ.

*Вяртаньне не фізычнае, а хутчэй мэтафізычнае. Чытаючы вашыя артыкулы, я адчуў, што вы марыце адшукаць тое скрыжаваньне,*

*дзе быў зроблены няслушны выбар. Дарога павяла ня ў той бок. Вы марыце вярнуцца, каб зрабіць зьмены. Гэта магчыма. Прынамсі, для вас асабіста.*

Кроква нічога не зразумеў з гэтага адказу. Шчыра кажучы, ён не шукаў нейкага асабістага вяртаньня. Нічога для сябе ён не хацеў мяняць. Іншая справа ў лёсе краіны. Тут сапраўды варта было абраць іншую дарогу. Васіль зноў напісаў таямнічаму Палачаніну.

*З чаго вы ўзялі, што я хачу нешта зьмяніць ва ўласным лёсе?*

Адказ не прымусіў доўга чакаць.

*Ваш лёс — толькі маленькая часьцінка нечага больш вялікага, можна сказаць, неабдымнага. Яго немагчыма зьмяніць, не зрабіўшы тысячы, а можа мільёны мільёнаў іншых зьменаў. Гэта вельмі складана, практычна немагчыма. Але магчыма зрабіць зьмены ў вашай сьвядомасьці. Выйсьці на патрэбнае скрыжаваньне і зрабіць слушны выбар.*

Гэты допіс расчараваў Крокву. Было штосьці ў ім ад прымітыўнага шарлатанства і таннага чараўніцтва, пра якое бясконца разважаюць з разумным выглядам у розных забаўляльна-містычных тэлеперадачах. Кроква на сваім журналісцкім вяку ўжо неаднойчы сутыкаўся з магутнымі чараўнікамі, ведунамі і прарокамі. Насамрэч за мудрагелістымі словамі, як правіла, нічога рэальнага не стаяла. Васіль пачаў губляць цікавасьць да таямнічага суразмоўцы. Але карцела задаць яшчэ адно пытаньне.

*А пры чым тут полацкія лёхі? Якая сувязь паміж лёхамі і вяртаньнем?*

Кроква паспрабаваў прадказаць адказ, маўляў, лёхі — гэта лучво зь мінулым, і па іх можна вярнуцца назад у часе. Але адказ быў зусім іншага зьместу.

*Лёхі — гэта толькі шлях. Але лёхі маюць бонусы, якія дазваляюць тым, хто іх знойдзе, зьдзейсьніць маленькія чараўніцтвы. І таму я лічу, што вяртаньне магчымае!*

«Штосьці шмат апошнім часам дыскусіяў пра вяртаньне», — падумаў Кроква і згадаў словы Ластоўскага, пачутыя на гарышчы езуіцкага будынка. І Васіль вырашыў зьдзівіць суразмоўцу.

*А вось Вацлаў Ластоўскі лічыць, што вяртаньне немагчымае, што мінулае заўсёды з табой, трэба толькі ўмець трымаць зь ім сувязь. Пра гэта ён сказаў мне асабіста.*

Адказ крыху затрымаўся.

*Мы гаворым пра розныя вяртаньні. Власт мае на ўвазе, што немагчыма зьмяніць сёньняшняе праз мінулае. А я кажу, што магчыма зазірнуць у мінулае. Вярнуцца ў часе, каб зрабіць для сябе слушны выбар ці слушную выснову.*

Крокву зьдзівіў ня столькі сам сэнс адказу, колькі тое, што суразмоўца ніяк не адрэагаваў, што Ластоўскі асабіста сказаў яму пра немагчымасьць вяртаньня. Бо Ластоўскі быў расстраляны ў 1938 годзе і таму ня мог Крокве нічога асабіста сказаць.

*Але навошта выснова і выбар, якія нічога ня могуць зьмяніць рэальна?*

Крокве падалося, што гэтым пытаньнем ён загнаў свайго разумнага суразмоўцу ў кут.

*Спачатку была думка, затым было слова, потым нарадзілася ўсё астатняе.*

Адказ спадабаўся Крокве, і ён пагадзіўся на вандроўку ў лёхі.

*Я прымаю вашу прапанову. Прызначайце сустрэчу.*

* * *

У чацьвер Дудар з трывогай і хваляваньнем чакаў, калі скончыцца дзень. Усе ягоныя думкі былі пра адно — пра лёхі. У невялікую палатняную сумку ён паклаў некалькі скрынак запалак, нататнік, аловак і некалькі лучын, на выпадак узьнікненьня праблем са сьвятлом. Ліхтар-кажан ён спадзяваўся атрымаць ад цётухны-ахоўніцы.

Калі сонца пачало залаціць званіцы на саборы Сьв. Стэфана, Дудар падумаў, што пара зьбірацца. У гэты час ён ужо прыйшоў з працы на кватэру. Уладзік ляжаў на ложку і чытаў кнігу. Трэба было захаваць візыт у таямніцы і для свайго таварыша па працы і жытле. Дудар вырашыў згатаваць вячэру. Зрабіўшы самае простае на хуткую руку, Алесь запрасіў Уладзіка да супольнага халасьцяцкага стала.

— І што чытаеш? — спытаў Дудар у сябра.

— Сёньня калега з віцебскай газэты перадаў навінку. Кузьма Чорны, «Срэбра жыцьця». Вельмі мне падабаецца.

— Пакажы кнігу, — папрасіў Дудар, узяў яе ў рукі і пачаў гартаць. — Кузьма Чорны — наш

маладняковец. Таленавіты празаік. Я чытаў дзьве яго ранейшыя кнігі «На граніцы» і «Апавяданьні». То пакінь мне і гэтую пачытаць.

— Я ўжо амаль прачытаў. Ты таксама можаш сёньня за вечар асіліць.

— Не, сёньня я заняты. Гулякевіч хоча нешта мне паказаць, напісаў новыя вершы, мае патрэбу параіцца. Дамовіліся сёньня сустрэцца ў камсамольскім клюбе.

— Добра. Я якраз тады не сьпяшаючыся дачытаю. А табе пакіну на заўтра. Бо ўжо абяцаў некалькім хлопцам з пэдвучэльні. Яны пачакаюць.

— Дамовіліся.

Дудар хуценька павячэраў і пачаў апранацца. На вуліцы было амаль бязьлюдна. Вечар паціху заліваў полацкія двары сваёй ліпучай смалой. Мінуўшы пляц, Дудар накіраваўся да Дому культуры імя Леніна. Як і мінулы раз, ён нягучна пагрукаў кулаком у дзьверы. Затым яшчэ і яшчэ. Прайшлі хіба і пяць, і дзесяць хвілінаў, але з адваротнага боку дзьвярэй не было чутно ані гуку. Дудар ужо вырашыў вяртацца, як раптам дзьверы адчыніся і цётухна зь ліхтаром у руцэ нарэшце паўстала перад ім.

— Добры вечар. Мы з вамі ўчора дамаўляліся, што я прыйду паглядзець транспаранты ў падвале. Вось так дапазна працуем, толькі вызваліўся.

Цётухна нетаропка абвяла яго падазроным поглядам, нібыта згадваючы, пра што яна ўчора дамаўлялася. Затым яе вусны кранула ўсьмешка і яна нарэшце прамовіла:

— А, дык вы з газэты... Так, так памятаю, заходзілі ўчора... Прабачце, крыху прыспала, прытамілася сёньня за дзень... Вітаю, таварышу... Ды вы заходзьце...

Цётухна вызваліла праход унутр, і Дудар зайшоў у будынак. З прычынаў кансьпірацы Алесь не пытаўся пра ранейшага вартаўніка. У фае стаяў традыцыйны пах для памяшканьня, у якім бывае шмат людзей. Але ўсе пахі перабіваў тытунёвы затхлы смурод.

— То давайце я ня буду марнаваць свой і ваш час. Адчыніце мне дзьверы ў падвал і папрашу ваш ліхтар. — Дудар імкнуўся суняць хваляваньне, але гэта не зусім у яго атрымлівалася. Таму ня варта было далей працягваць размову з вартаўніцай.

Цётухна паклыпала да дзьвярэй у падвал, адамкнула замок — і дзьверы з рыпам адчыніліся. «Як у апраметную», — падумаў камсамолец Дудар.

Алесь спусьціўся па знаёмых прыступках у падвал. Тут нібыта нічога не зьмянілася. Тыя ж самыя барыкады з дошак, рэштак мэблі і старых транспарантаў. «Недзе тут знайшлі нядаўна мёртвага дзеда», — падумалася Дудару, і ён нэрвова перасмыкнуў плячыма.

Ліхтар не асьвятляў усё падвальнае памяшканьне, але дазваляў больш-менш арыентавацца ў цемры і пасьпяхова адольваць завалы. Нарэшце Дудар дабраўся да патрэбнага кута, дзе пачынаўся падземны ход. Сьцяна была заваленая дошкамі. Дудар паставіў на падлогу ліхтар і пачаў разьбіраць перашкоду.

І якое было яго зьдзіўленьне, калі, разабраўшы завал, ён пабачыў перад сабою роўненькую цагляную сьцяну. Дудар паднёс усутыч да яе ліхтар і пачаў аглядацца. Сьвежай кладкі не было бачна. Кавалак сьцяны выглядаў гэтак сама, як суседнія. Дудар знайшоў на падлозе кавалак цэглы і пачаў прастукваць цагляную кладку. Гукі былі паўсюль аднолькава глухія. Ён паспрабаваў выбіць у сярэдзіне сьцяны цагліну, але гэта ў яго не атрымалася. Малаціць з усяе моцы па кладцы не выпадала. Цётухна-вартаўніца была крыху глухаватая, але не настолькі, каб не пачуць грукат.

«Можа, памыліўся зь месцам, адкуль пачыналіся лёхі», — падумаў Дудар. І пачаў дасьледаваць усе сьцены падвала, але нідзе ніякай прабоіны не знайшоў.

— Што за чартаўшчына! — уголас прамовіў Дудар. І па падзямельлі панеслася рэха — ына... ына... ына.

# Частка чацьвертая

Буксір піхаў перад сабой баржу зь пяском, нібыта запраўскі муляр-будаўнік будаўнічую тачку. Там, за Вострававам, пясок разгрузяць. Праўда, даўно ўжо няма вострава. Той рукаў Дзьвіны, які агінаў Востраў з поўдня, засыпалі зямлёй яшчэ прыканцы XIX стагодзьдзя. Затым пясок разьвязуць самаскідамі па полацкіх будаўнічых пляцоўках. І зь дзвінскага пяску будуць будаваць жылыя дамы і карпусы заводаў, дзіцячыя садкі і школьныя будынкі, новыя крамы і бальнічныя палаты.

Пясок гэты здабывалі ў Дзьвіне, паглыбляючы фарватар ракі. Васілю заўсёды было цікава: няўжо ў тым пяску ніколі нічога не знаходзяць, ніякіх артэфактаў даўніх часоў? Бо колькі за мінулае тысячагодзьдзе па той рацэ праплыло дракараў, лайбаў, баркаў, шугалеяў і вялікіх чаўноў. Здаралася, што некаторыя танулі, часам з усім грузам.

Але ніякіх гісторый пра тое, што намыўшчыкі рачнога пяску знаходзілі нешта падчас сваёй працы, Кроква ніколі ня чуў. Ён не аднойчы парываўся сходзіць на той бераг ракі, дзе разгружаюць пясок, і распытаць тамтэйшых работнікаў. Але наведацца туды так і не атрымалася.

Дзьвіна ўсё менш і менш працавала як транспартная артэрыя. Даўно не хадзіў пасажырскі карабель з Полацка ў Віцебск (ужо, напэўна, сто гадоў ня ходзіць). Бо цягніком або аўтобусам можна дабрацца ў некалькі разоў хутчэй. Ды і паплытчэла Дзьвіна на вачах. І толькі буксіры з баржамі час ад часу наведвалі Полацак, ажыўляючы тутэйшы рачны краявід.

На беразе Дзьвіны Кроква разважаў пра ўчорашняе ліставаньне зь невядомым палачанінам. Ён ня меў ілюзіяў адносна таго, што ў падземным ходзе можна знайсьці нешта каштоўнае, нават не каштоўнае, а хоць нейкія старажытныя артэфакты. Чалавек, які прапаноўвае яму наведаць лёхі, напэўна, даўно ўжо дэталёва іх вывучыў. Інакш які інтарэс яму адшукаць падземны ход і запрасіць яго дасьледаваць незнаёмага чалавека? Штосьці тут ня так. Нейкая таямніца яўна прысутнічала. Але Крокву цікавіла ўжо сама прыгода. І ён быў маральна гатовы да розных паваротаў, працягаў і расчараваньняў.

Невядомы напісаў, што неўзабаве дакладна патлумачыць, як і калі Васіль зможа трапіць у падземны ход. Але калі напіша? Сёньня? Заўтра? Праз тыдзень? Празь месяц? Кроква гэтага ня ведаў.

* * *

«Не сунь нос, куда не надо. Иначе мы яго тебе укоротим». У гэты ж вечар, калі Дудар не знайшоў у падвалах Дома культуры імя Леніна ўваход у лёхі, яго чакаў яшчэ адзін магутны сюрпрыз.

Разьбіраючы ложак перад сном, Алесь знайшоў пад падушкай цыдулку, напісаную на кавалку газэтнай паперы алоўкам. Уладзік ужо спаў, і не было як распытаць пра магчымыя варыянты зьяўлення гэтай эпісталярнай весткі.

Дудар, агаломшаны, сеў на ложак і ня ведаў, зь якога боку пачаць асэнсоўваць чарговую навіну. А яна проста валіла яго з ног. Думку пра тое, што гэта Ўладзік мог так пажартаваць, Алесь адкінуў адразу. Падчас адсутнасьці жыльцоў у іхны пакой у прынцыпе мог зайсьці любы жадаючы, бо ён не замыкаўся на ключ. Дзьверы можна было зачыніць адно пры ўваходзе ў саму чатырохпакаёвую кватэру, у якой Алесь і Ўладзік займалі адзін пакой. Але й тыя дзьверы зачыняліся на ключ рэдка, звычайна толькі на ноч.

Не зразумела было і тое, за што невядомыя зьбіраліся ўкараціць нос Дудару. Варыянтаў намацвалася некалькі. Па-першае, гэта мог быць гнеўны водгук на які-небудзь крытычны артыкул, які Алесь надрукаваў у газэце. Пісаў ён і вельмі суворыя матэрыялы: напрыклад, пра нядбайнасьць у экіманскай сельскагаспадарчай камуне. Дудара непрыемна ўразіла, як камунары зьнішчылі, засьмецілі і занядбалі адзін з самых прыгожых куткоў у ваколіцах Полацка. Так, камунары пасадзілі вялікі сад, але сама ранейшая сядзіба, на базе якой паўстала сельскагаспадарчая камуна, моцна заняпала. Ставок зарос урэчнікам, вада ў ім зацьвіла, у парку павысякалі дрэвы, а сам будынак сядзібы выглядаў хутчэй на жабрака, чым на заможнага гаспадара. Дудар пра ўсё гэ-

та напісаў і ведаў, што артыкул атрымаў вялікі розгалас і шмат каму ён не спадабаўся. І цалкам магчыма, што нехта мог у такі спосаб паспрабаваць прыструніць бязвусага, нахабнага пісаку.

Але, але, але... Было шмат іншых варыянтаў больш балюча ўдарыць па аўтару крытычнага матэрыялу. Напрыклад, напісаць на яго данос. Тым больш у горадзе ведалі, пра што можна сказаць і якія ў гэтага пісакі самыя небясьпечныя і балючыя месцы.

Тут было іншае. Дудар нейкім інстынктыўным пачуцьцём здагадваўся, што ўсё гэта зьвязана з падземных ходам.

Доўгі час ён ня мог заснуць. Вырашыў нічога не казаць Уладзіку пра цыдулку. Інакш трэба было яму тлумачыць усе ранейшыя падзеі. Лепш, каб гэтая гісторыя засталася таямніцай.

* * *

Полацкія падзеі зноў захапілі ў свой вір Крокву. Журналісцкія клопаты часова адлучылі яго ад думак і разваг пра лёхі. Васіль націснуў апошнюю клявішу клявіятуры кампутара і пачаў чытаць тое, што атрымалася.

«Гэтымі днямі Полацкі музэй беларускага кнігадрукаваньня адзначае сваё 10-годзьдзе. Адкрыцьцё музэя было прымеркавана да 500-гадовага юбілею слыннага палачаніна Францыска Скарыны. Напярэдадні Скарынаўскіх урачыстасьцяў, 27 ліпеня, адбылася гістарычная падзея — Вярхоўны Савет Беларусі прыняў "Дэклярацыю аб дзяржаўным сувэрэнітэце Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі", нібыта

робячы шаноўнаму юбіляру адпаведны падарунак. Таму верасьнёўскія Скарынаўскія мерапрыемствы праходзілі з падвойным энтузіязмам і ўрачыстасьцю. Беларусь адзначала вяртаньне да ўласнага шляху. Нават спрадвечны тутэйшы страх як быццам бы раптам выпетрыўся. Полацкія гарадзкія ўлады, упершыню рыхтуючыся да нацыянальнага сьвята, былі вымушаны зьвяртацца па дапамогу да нядаўніх антысаветчыкаў. Напрыклад, надпісы для музэя кнігадрукаваньня перакладалі мясцовыя пісьменьнікі, нядаўнія "кліенты" тутэйшага аддзелу КДБ. Яны ж дапамагалі аддзелу культуры Полацкага гарвыканкаму пісаць сцэнар Скарынаўскіх урачыстасьцяў. Сёньня чыноўнікі з гарвыканкаму абыходзяць тых пісьменьнікаў за тры вярсты. Свой шлях пад нагамі мы зноў згубілі.

510 гадоў Скарыны ў яго родным горадзе адзначаецца сьціпла. Толькі ў некаторых дзіцячых бібліятэках прайшлі мерапрыемствы — як пазначана ў інфармацыйных абвестках — на тэму "Ён — наш славуты зямляк". Меўся на ўвазе, відавочна, Францыск Скарына.

Сьвяткаваньне ж юбілею музэя беларускага кнігадрукаваньня перанесена на канец верасьня. Прычына самая банальная — адсутнасць сродкаў. Сродкаў музэю не хапае на самае неабходнае. А самі музэйшчыкі атрымліваюць не заробкі, а хутчэй дапамогу па беспрацоўі. Нядаўна ў музэй прынесьлі кнігу, што выйшла ў друкарні Полацкай езуіцкай акадэміі ў 1799 годзе, — "Развагі аб хрысьціянскіх абавязках". У беларускіх музэях і бібліятэках такой

кнігі няма. Дырэктар Полацкага музэя-запаведніка ліхаманкава шукае 250 даляраў, каб набыць старадрук. Грошы пакуль так і не знайшліся, а гэта значыць, што і гэтую кнігу вывезуць на продаж за мяжу. Што ўжо казаць пра набыцьцё скарынаўскіх кніг на эўрапейскіх кніжных аўкцыёнах. Кніг, выдадзеных Скарынам, у Полацку няма.

Нібыта прыйшоў час вяртаць расьцярушаныя па ўсім сьвеце айчынныя скарбы на радзіму. Толькі як гэта рабіць?»

* * *

Раніцай Дудар ня стаў распытваць сябра пра цыдулку. Яны традыцыйна сьціпла пасьнедалі. Уладзік перадаў Васілю абяцаную кнігу Кузьмы Чорнага. Разам яны выйшлі з камяніцы і пашыбавалі на працу.

У сваім кабінэце Дудар напісаў ліст Міхасю Чароту, кіраўніку «Маладняка».

*Міхась!*

*Дасылаючы разам з гэтым пісьмом афіцыйную справаздачу, зноў прашу цябе асабіста. Парадзься з нашымі хлопцамі і дайце мне адказ, што рабіць. Я прымаў самыя рашучыя меры для таго, каб падняць працу філіі. Думалася, што ў ранейшым заняпадзе былі вінны школьныя заняткі: і вучні (лестэхнікум), і настаўнікі заняты працай, ня могуць аддавацца маладняцкай працы. Цяпер, здаецца, усе свабодны, але вось табе факты: 6-га чэрвеня мы праводзілі вечар Янкі Купалы, прайшоў*

*вечар слабавата, бо ўжо перад вечарам ніяк ня мог склікаць сходу хаця б удзельнікаў вечару; не рабіў дакладу сам, а даў другім (каб больш уцягваць сяброў у працу); не прышоў ніхто з тых, хто павінен быў чытаць творы Купалы і свае... Пасьля вечару з 6-га чэрвеня (!) мне ўдалося склікаць толькі адзін сход, і ўсе пытаньні, пастаўленыя мною, былі перанесены на чарговы сход. А чарговы я склікаю вось ужо месяц і, нягледзячы на тое, што кожнага бяру ў індывідуальную апрацоўку, цэлы тыдзень перад назначаным днём лаўлю і напамінаю — настане сход — ніводзін не прыходзіць. Лестэхнікумцы — самыя актыўныя (іх пяцёра), як два месяцы жывуць на вёсцы і ніякіх вестак пра сябе не даюць, хаця пры выезьдзе я задаваў ім цэлы шэраг заданьняў. Паміж іншым той адзіны сход, які мне ўдалося правесьці ў чэрвені, сабраўся толькі таму, што я дагаварыўся са старшынёй Галоўрэпэрткама, каб пускалі маладнякоўцаў дармова ў тэатр, дык прыйшлі, каб атрымаць контрамаркі. Зь літаратурай кепска. І мая, і прысланая з Цэнтральнага бюро літаратура расьцягнута, а адзіночкам я нічога ня маю даць. Сувязь з камсамолам слабая. Я як сябра палітасьветкалегіі рабіў там інфармацыю аб працы філіі, атрымаў дырэктывы і вось ужо месяц не магу іх ажыцьцявіць, бо не магу сабраць сходу. З другога боку, у філіі няма камсамольцаў апрача мяне. Крыніцкі заявіў аб выхадзе з філіі, бо ён зусім ня бачыць, каб з філіі што-небудзь выйшла. Папраўдзе кажучы, я зусім зь ім згодзен.*

*Філія фактычна распалася, і ў тым не мая віна, бо зь нічога ня зробіш нічога. Філія ўвесь час пералівала з пустога ў парожняе, на гэта ўказвае хаця бы тое, што мне неяк гвалтам удалося толькі адзін раз паставіць на разгляд літаратурны твор — рэшта пытаньняў была выключна арганізацыйная. Філія паступова памірала і цяпер памерла зусім. Мне шкада толькі двух нашых адзіночак: Тупіцына і Гулякевіча — здольныя хлопцы і прападуць без кіраўніцтва. Я спрабаваў наладзіць тут альманах, магчымасьці знайшліся б, але маёй думкі не падтрымаў акруткам КСМ. Я нічога ня мог зрабіць. Цяпер я рашыў распусьціць стары склад філіі і арганізаваць новы па прынцыпу студыі. Але тут зноў ёсьць сур'ёзная перашкода: праз тыдзень я іду ў водпуск і выяжджаю ў Менск. Адмовіцца ад водпуску не магу, бо гэтыя паўгода, што я пратырчэў тут, у канец расхісталі маё здароўе. Частыя галадоўкі, вечныя лаянкі ў рэдакцыі на грунце беларусізацыі — усё гэта пакінула на мне глыбокі сьлед. А тут яшчэ ўсьведамленьне свайго бясьсільля: я ў рэдакцыі выконваю толькі тэхнічную працу і не магу аказаць аніякага ўплыву на працэс беларусізацыі... Але гэта ўжо справа другая, аб гэтым можна будзе пагаварыць у Менску. Я хацеў бы перабрацца ў Слуцак альбо, у крайнім выпадку, у Воршу ці Віцебск, калі няможна ў Менск. У Віцебску, напрыклад, для працы ёсьць добрая глеба, ёсьць адпаведны склад. Толькі пасьля водпуску я ні за што не вярнуся ў Полацак, хаця б мне прыйшлося*

*кінуць усё. Я магу працаваць, хачу працаваць і буду працаваць. Толькі ня ў Полацку. Полацак мяне згнаіў і фізычна, і можа маральна. Ад вас я атрымаў толькі цыркуляры ды нявыказаныя абяцанкі. Дужа прыкра, што прыходзіцца вам аб гэтым пісаць, але гэта так. Дасягненьні я маю тут вялікія: калі раней я меў хоць кроплю здольнасьці, дык у Полацку я яе страціў. Я хлопец цярплівы і калі некалькі разоў прасіў, каб мяне ўзялі з Полацку, дык значыць на гэта была прычына. У вас, у маладнякоўцаў, не хапіла чуткасьці, каб зразумець, чаму я вырываюся адсюль. Нарэшце, будзе пра гэта. Я перакананы, што альбо не атрымаю ад вас ніякага адказу, альбо атрымаю прыблізна такі: «Нічога ня зробіш, пацярпі, працуй» і г. д.*

*Канкрэтна: праз тыдзень я выяжджаю ў Менск. Пакуль што ў водпуск. Але пасьля водпуску ў Полацак я не вярнуся. Дзеля гэтага падумайце, каго прыслаць на маё месца. Мая парада — прыслаць сюды Язэпа Пушчу — у яго можа што-небудзь і выйдзе: праца тут якраз па ім: стаўка ў рэдакцыі — 75 рублёў, к восені будзе можа ганарар. Жыцьцё дзяшовае і ўсякія там усходнія асалоды таксама недарагія. Пры тым працы ў рэдакцыі мала, а больш яго тут ніхто нагружаць ня будзе. Ён здолее, таксама як я, рабіць выезды і г. д. Гэты ліст дойдзе да 20-га. Я думаю, што вы маглі б прыслаць мне намесьніка к таму часу. Я чакаю прыблізна да 23-га.*

*Вось прыблізна і ўсё. Ага. Паведаміце мяне, ці ня можна куды ўклеіць маю паэму “Сонца*

*ўстане" — аб барацьбе ў Кітаі і наогул на Ўсходзе, аб нацыянальным руху. Радкоў каля 500. Аб гэтым паведамце тэрмінова. Вось пакуль што ўсё. Аб гэтым лісьце папрашу, каб не даводзілася да ведама ўсяго ЦБ — гэты ліст асабіста да цябе. Пасьля прыезду ў Менск зраблю вусную больш падрабязную справаздачу.*

*З камсамольскім прывітаньнем, Ал. Дудар.*

* * *

Марсіяне сыходзілі з трапу касьмічнага карабля як робаты — усе іх рухі былі да драбніцы падобныя, нібыта адну постаць памножылі ў нейкай кампутарнай відэапраграме. Сваю зброю яны трымалі перад сабой. Ростам марсіяне былі крыху вышэйшыя са сярэдні чалавечы. Іх амуніцыя нагадвала дасьпехі рыцараў сярэднявечча. Навошта ім было так «упакоўвацца», цяжка сказаць, бо наўрад ці падобныя бляшанкі, нават з самага трывалага матэрыялу, маглі б уратаваць ад сучаснай зброі.

Іх карабель прызямліўся на беразе Дзьвіны з боку Задзьвіньня, побач з былым бэрнардынскім кляштарам, дзе доўгі час была турма — спачатку энкавэдэшная, затым фашыстоўская, затым звычайная савецкая. Пасьля ліквідацыі ў 1954 годзе Полацкай вобласьці турму закрылі, а ў бэрнардынскіх мурах была створана абласная вар'ятня. Побач з суворым плотам псыхіятрычнай установы, практычна ўсутыч зь ім, дажывалі апошнія свае гады рэшткі касьцёла Сьвятой Ганны.

Марсіяне пачалі фатаграфавацца на тле гэтых вартых жалю руінаў былой сьвятыні. Прычым усё рабілі моўчкі, ніводнага гуку не было чутно.

Затым яны пратаранілі нейкай дзіўнай, падобнай да вялікага прусака, баявой машынай браму вар'ятні, і шыхты марсіянаў пачалі зьнікаць за плотам псыхіятрычнай лякарні.

Адкуль узялася ў руках Кроквы ракетніца, ён ужо ня мог згадаць. Але на раніцу выдатна захаваўся ў памяці, як стрэліў з ракетніцы ў неба. Зыркі камячок сьвятла нейкі час павісеў над Полацкам, адбіваючыся ў сьвінцовай вадзе Дзьвіны, і затым упаў у раку.

* * *

Вярнуўшыся з працы, Дудар цэлы вечар чытаў «Срэбра жыцьця» Кузьмы Чорнага. Гэта дазваляла яму заставацца сам-насам і ня весьці размовы з Уладзікам. Не было ніякага жаданьня з кімсьці размаўляць. Хацелася асэнсаваць, што адбылося.

Ну не звар'яцеў жа ён! Ёсьць у тым падвале ўваход у лёхі. Ён ня толькі яго бачыў, але крыху й прайшоўся па тых сутарэньнях. І сьведка ў яго быў. Толькі ўжо не жыве. І гэтая думка, што сведка ўжо не жыве, яшчэ больш напяла ў сярэдзіне, недзе ў жываце, трывожнае хваляваньне. Калі не жыве таму, што ведаў пра падземны ход, то і ён, Алесь, ходзіць пад тым самым

прысудам. І гэтая цыдулка. Ці не папярэджаньне пра магчымасьць выкананьня прысуду? Калі ён… Што калі ён? Далей будзе шукаць падземны ход? Але як яго далей шукаць? Хіба паведаміць мясцовым уладам і пачаць афіцыйныя росшукі. Але каму тут у Полацку ён можа даверыцца? Ні-ко-му. Дакладна нікому. Таму лепш пакуль маўчаць. У Менску ён раскажа пра лёхі Чароту. Бадай што гэта адзіны чалавек, якому Алесь давяраў цалкам. І калі сытуацыя зьменіцца, калі ў Полацку зьявіцца сапраўды беларуская ўлада, мы той падземны ход знойдзем і ўсё высьветлім. Сёньня лепш не чапаць гэтую справу.

Так для сябе вырашыў Дудар. І яму стала лягчэй. Ён зноў пачаў распазнаваць літары ў кнізе, якую чытаў, і сэнс апавяданьняў Чорнага пачаў складацца ў малюнкі і сюжэты.

«Абшар зямлі — як мора, змрок і сьвятло — як хвалі», — прачытаў Дудар. «Гэты Чорны сапраўдны паэт, — падумаў Алесь. — Трэба будзе яму пры сустрэчы пра гэта сказаць».

«За чорнай хваляй павінна быць сьветлая хваля». І ад гэтай думкі Дудару стала лягчэй. «Павінна быць сьветлая хваля», — паўтарыў пра сябе ён некалькі разоў.

* * *

Кроква ведаў толькі адну асобу, з кім можна было абмеркаваць апошнія падзеі. Гэта быў Падземны чалавек. Насамрэч звалі яго Міхась.

Працаваў ён на мясцовым заводзе нейкім інжынэрам, але ўвесь вольны час праводзіў у сваіх краязнаўчых росшуках і вандроўках па полацкіх ваколіцах. Ведаў ён сапраўды вельмі шмат, аднак ягоныя веды часам падаваліся Васілю нейкімі не сыстэматызаванымі, адчувалася, што Міхась не гуманітарый з адукацыі і ведае тольκі тое, з чым асабіста меў дачыненьне, або тое, што яго непасрэдна цікавіла. Перадусім гэта была гісторыя Полацка. Крок улева, крок управа, і ты мог трапіць на пустку — на поўнае няведаньне нават базысных школьных азоў. Праўда, Кроква не збіраўся абмяркоўваць зь ім гісторыю Мэсапатаміі або Фракіі. Якраз полацкая гісторыя цікавіла таксама й Васіля.

Яны сустрэліся ў кавярні «Рыса», якая месьцілася ў адным будынку з полацкім музэем беларускага кнігадрукаваньня. Патэлефанаваўшы Міхасю і запрасіўшы яго на сустрэчу, Кроква сказаў, што хацеў бы зь ім абмеркаваць той дзіўны надпіс, які Міхась паказаў яму на гарышчы будынка былога езуіцкага калегіюму.

— І якія твае версіі? — Кроква ўвогуле ня ведаў, з чаго пачынаць размову, і таму вырашыў задаць самае простае пытаньне.

— Думаю, наўрад ці мы здолеем разгадаць гэтую загадку, — з сумам прамовіў Міхась.

— Чаму? — Па шчырасьці, для Васіля пытаньне пра той дзіўны надпіс даўно адышло на задні плян. Ён нават крыху й забыўся пра яго. «Чаму нельга вярнуцца і адкуль нельга вярнуцца?» —

прыкладна так ён зноў сабе сфармуляваў тое пытаньне.

— Таму што, па-першае, даўно няма сьведкаў або людзей, якія хоць неяк былі ў курсе гэтага надпісу. А па-другое, істотна зьмяніўся час і, магчыма, тое пытаньне даўно ўжо не актуальнае.

— Ня думаю. Ёсьць пытаньні вечныя. Філязофскія, напрыклад...

— Ага, напрыклад, ці ёсьць жыцьцё на Марсе? — перабіў Крокву Міхась. І яны разам засьмяяліся.

— Хаця ў мяне ёсьць адна вэрсія, — Міхась раптам стаў сур'ёзны і пачаў свой аповед. — Неяк я чытаў успаміны аднаго былога кадэта, які вучыўся ў Полацкім кадэцкім корпусе. Гэта быў рукапіс. Сшытак. Мне яго паказваў адзін мясцовы калекцыянэр старасьветчыны. І там я прачытаў пра дзіўны выпадак. Аўтар запісаў згадаў, што кадэты неаднойчы пранікалі з падвалаў іх навучальнай установы — з былых карпусоў езуіцкага калегіюму — у падземныя хады. Насамрэч полацкія падземныя хады — гэта разгалінаваная дрэнажная сыстэма, якую пабудавалі пад сваімі будынкамі езуіты. Але, ведаючы таямнічасьць езуітаў, можна дапусьціць, што выкарыстоўвалі яны гэтыя лёхі ня толькі для тэхналягічных патрэбаў.

— А як яшчэ? — Крокву такі паварот размовы вельмі ўзрадаваў, бо яна сама выходзіла на тэму лёхаў.

— Ну, напрыклад, як вязьніцу або месца, дзе можна схаваць нешта каштоўнае.

— А што з тымі кадэтамі, якія наведвалі падземныя хады?

— Дык вось. Аўтар напісаў пра адзін дзіўны выпадак. Аднойчы два сябры-кадэты пайшлі ў падзямельле і не вярнуліся. І іх целы не былі знойдзены.

— Іх магло засыпаць зямлёй. Столь падземнага хода магла абрынуцца.

— Правільна. Або яны знайшлі і пабачылі тое, што не павінны былі пабачыць.

Кроква, уражаны ня ведаў, што і сказаць. Ён памаўчаў пару хвілін і скептычна прамовіў:

— Ну гэта зусім фантастыка.

— А любыя вэрсіі павінны быць узятыя на ўлік. Ты думаеш, бацькі гэтых зьніклых кадэтаў не хацелі знайсьці целы сваіх сыноў? Думаю, дрэнажы пасьля гэтага выпадку былі сур'ёзна абшуканыя. І калі б быў знойдзены сьвежы завал, то яго б разабралі. Целаў не знайшлі. І гэта сапраўды загадка. Пасьля таго выпадку кіраўніцтва кадэцкага корпусу загадала замураваць усе вядомыя ўваходы ў дрэнажы. Нейкі час туды было трапіць амаль немагчыма. Пакуль не прыйшлі новыя часы і ня зьнік у невараць той кадэцкі корпус. І таму цалкам магчыма, што нехта зь сяброў тых кадэтаў, якія зьніклі, напісаў гэтыя словы на гарышчы. Магчыма, ён нешта ведаў больш пра той выпадак, і гэтыя веды для яго былі небясьпечныя, нешта таямнічае, таму свой надпіс і зрабіў такім чынам, каб ня быў бачны ўсім наведнікам гарышча. Магчыма, у такі спосаб пакінуў некаму таемную вестачку.

— Гэта сапраўды цікава, — пагадзіўся Кроква. — Толькі што яны маглі там убачыць? Золата, дыяменты? Наўрад ці езуіты іх там пакінулі,

калі зьяжджалі. Карціны, кнігі? Яны там у вільгаці вельмі хутка згнілі б. Не ўяўляю, што гэта магло быць.

— А што самым старанным чынам хаваюць у архіўных спэцсховах? Веды і памяць. — Міхась нахіліўся да філіжанкі і дапіў сваю каву.

* * *

Цяпер Дудар проста прасіўся, каб яго накіроўвалі ў камандзіроўкі ў навакольныя мястэчкі. Ён ужо лічыў дні, калі пойдзе ў адпачынак і зьедзе ў Менск. Зьедзе незваротна. Таму яго ўжо не цікавіла ані праца над мясцовай філіяй «Маладняка», ані нейкія іншыя тутэйшыя праблемы. Усё гэта ўжо ў мінулым. Цяпер трэба думаць, як выдаць новую кнігу, а ў Полацку якраз і напісалася вершаў на цэлы зборнік. А таксама варта падумаць пра паступленьне ва ўнівэрсытэт. Дудар адчуваў, што яму не хапае самых элемэнтарных ведаў.

З усіх знаёмых, якіх ён набыў за гэты непрацяглы полацкі пэрыяд жыцьця, найбольш яму шкада было губляць Гулякевіча і Тупіцына. Калі Ўладзіка ён бачыў штодзень, дык з Будзіцелем яму карцела пабачыцца яшчэ раз і разьвітацца. Ён сам нагадаў рэдактару, што пара зноў напісаць пра камсамольскае жыцьцё ў Дрэтуні. Рэдактар успрыняў прапанову станоўча.

Гэтым разам Дудар дабіраўся да Дрэтуні цягніком. Алесь з насалодаю слухаў гаману вясковых цётак і мужыкоў, якія складалі большасьць пасажыраў цягніка. Іх беларуская мова была амаль літаратурнай. Толькі асобныя словы яны

вымаўлялі неяк па-мясцоваму. Гэта быў як іншы сьвет, зусім адрозны ад гарадзкога. І Дудар зноў і зноў у сваіх думках вяртаўся да разваг пра лёс сваёй роднай Беларусі. «Для каго я пішу тады свае вершы, калі горад не прызнае беларускай мовы? Калі ўсім гэтым начальнічкам, на ўсіх узроўнях, да лямпачкі і мова, і вершы?» — думаў Дудар.

З такімі невясёлымі думкамі ён і прыехаў у Дрэтунь.

Але спатканьне з Анатолем ды іншымі мясцовымі камсамольскімі актывістамі ўзьняла настой. Яму наладзілі сустрэчу з вучнямі тутэйшай школы. Алесь чытаў ім вершы і адчуваў, што дзецям гэта цікава, што ім гэта патрэбна. І даўно занядбаны аптымізм пачаў прабівацца кволым парасткам у засьмяглай душы. Найбольш цёпла дзеці сустрэлі ягоны верш «Беларусь».

Край шумлівых лясоў...
Край дрымотных балот...
Край, адвечнаю крыўдай замучаны...
Дзе над доляй людзкой плакаў сумны чарот
Ды сьлязіліся вербы плакучыя.

Уладаў хто хацеў гэтай сумнай зямлёй.
Ўсе суседзі на ёй гаспадарылі —
То спраўляў зьдзек і гвалт пан варшаўскі над ёй,
То тапталіся боты баярына...

І ляцелі вякі... І гаротны народ
Вечна гнуўся пад цяжкай нядоляю...
І марнеў сумны край — край лясоў і балот...
Люд гібеў у нудзе беспатольнай.

Час вялікі настаў... Загарэўся пажар...
Зазьвінелі палацаў ваконьніцы...
Ўсход агнямі прабіў цяжкі мур чорных хмар,
Заглянула к нам раніцы сонца.

І падняў галаву, разгарнуўся народ,
Разгарнуў сваё цела сталёвае,
І над сумнаю рэчкай шумлівы чарот
Засьпяваў, загудзеў песьню новую.

Над зямлёю паплыў новы, радасны кліч:
«Бедакі ўсяго сьвету, злучайцеся!
Распаляйце ў душы слова вольнага зьніч;
Ад сьмяротнага сну абуджайцеся!»

Новы выгляд прыняў край балот і лясоў,
І здаецца мінуўшчына казкаю...
І ня льецца ўжо больш кроў гаротных сыноў
Беларусі рабоча-сялянскае...

Дзеці проста наладзілі Дудару авацыю, калі ён закончыў чытаць верш.

Увечары на чыгуначным вакзале Дудара праводзіў Тупіцын.

— Добры верш у цябе атрымаўся, — пахваліў паэта Анатоль. — Вось такія вершы й трэба вывучаць у школе.

— Калісьці так і будзе, — адказаў Дудар.

— Магчыма й будзе, але ня хутка. — Будзіцель азірнуўся навокал і ціха прамовіў: — Баюся, што чакаюць Беларусь наперадзе цяжкія выпрабаваньні.

— Чаму ты так лічыш?

— Ну такое прадчуваньне. Вельмі моцны супраціў ідзе беларусізацыі. Улада ня будзе рабіць тое, чаму няма актыўнай падтрымкі. Вось толькі ў простага народа ніхто не спытае. Будуць вырашаць гэтыя начальнічкі, камісары і чыноўнікі. Спадзяюся, ня трэба табе тлумачыць, якія яны ў нас.

Абодва замаўчалі.

— А ты ведаеш, я насамрэч прыехаў з табой разьвітацца. Неўзабаве зьяжджаю з Полацка. Зьбіраюся паступаць ва ўнівэрсытэт, — Дудар перарваў маўчаньне і зьмяніў тэму.

— Думаю, слушна робіш, бо нічога ты тут у Полацку не асягнеш.

— Можа й ты падаўся б у Менск. Мне цябе будзе не хапаць.

— Ды не, я лепш адсяджуся тут, у глушы, — Анатоль яшчэ раз азірнуўся і зусім перайшоў на шэпт: — І табе раю нікуды ня ўлазіць і быць максымальна асьцярожным. Чуе маё сэрца — будзе для нас, беларусаў, цяжкая часіна.

Яны зноў змоўклі.

— Прашу толькі — не парывай з «Маладняком». Неўзабаве зь Менску прышлюць новага кіраўніка полацкай філіі. Дык трымай зь ім сувязь. Пішы. Ты вельмі таленавіты. І ня маеш права змарнаваць свой талент, — сказаў на разьвітаньне Дудар.

Хлопцы абняліся. У абодвух наварочваліся на вочы сьлёзы.

* * *

Расповед Міхася пра кадэтаў, якія бясьследна зьніклі ў полацкіх лёхах, моцна ўразіў Крокву. Сапраўды, куды дзеліся целы хлопцаў? Усялякае магло здарыцца там, у падзямельлі, але целы не маглі проста выпарыцца з дрэнажу. І вадой наўрад ці іх змыла.

Не давала спакою таксама думка: што магло быць схаванае ў тых лёхах? Васіль ніяк ня мог прыдумаць. Словы Міхася, што там могуць быць схаваныя «веды і памяць», падаваліся яму проста мастацкай мэтафарай. Якім чынам можна схаваць памяць? Хіба што запісанай на чымсьці. На паперы наўрад ці што захавалася б. А на чым яшчэ можна запісаць?

Кроква вырашыў яшчэ раз пабачыць той надпіс на бэльцы. Назаўтра знаёмым шляхам ён прабраўся на гарышча былой езуіцкай камяніцы. І... не знайшоў надпісу. Некалькі бэлек будаўнікі, якія займаліся рэстаўрацыяй будынка, замянілі на новыя. Якраз і тую, дзе быў надпіс.

«О, блін, — усклікнуў пра сябе Кроква. — А я нават не сфатаграфаваў яго».

Распытаў будаўнікоў, куды яны дзелі старыя бэлькі. Адказалі, што расьпілавалі на дровы і спалілі ў групцы ў сваёй бытоўцы.

«Трындзец! — думка проста прабіла цела Кроквы электрычным токам. — Гэта ня можа быць проста так. Такіх супадзеньняў не бывае».

* * *

Вяртаючыся з працы, Дудар сустрэў полацкага расейскамоўнага паэта Аляксандра Сімакова. Дакладней, ён быў расейскім паэтам, які воляй лёсу апынуўся ў гэтай беларускай глушы. Сіма, як яго ласкава звалі блізкія сябры, яшчэ ўвесну прыходзіў у рэдакцыю і прыносіў свае вершы, тады яны й пазнаёміліся.

Сімакоў сядзеў на лавачцы ля дамініканскага касьцёла і пустымі вачыма глядзеў на вечаровы рух людзей, калёс і машын на галоўным пляцы горада.

— Приветствую, поэт! Садись рядом. Встретим заход солнца. Что может быть лучшим для поэтов, которым ничего не светит?

Сімакоў быў, бадай, галоўнай скандальнай асобай Полацка. Штотыдзень горад рабіўся сьведкам новай прыгоды гэтага экстравагантнага вершаплёта. Дудар інстынктыўна адчуваў у ім свайго ідэалягічнага можа ня ворага, але суперніка дык дакладна. Алесь быў катэгарычна супраць, каб друкаваць яго вершы ў газэце. Нават калі яны й былі ідэалягічна бездакорнымі, напрыклад пра 1 мая, ці Кастрычніцкую рэвалюцыю, паміж радкамі заўжды выразна адчувалася ёрнічаньне, зьдзек і блазнаваньне.

Дудар, аднак, не баяўся гэтага блазна. Сімакоў па-дзіцячы сьмешна картавіў, і таму пры размове зь ім Алесь хутчэй пасьміхаўся, чым адчуваў да яго варожую нядобразычлівасьць. У полацкую філію «Маладняка» Дудар не прымаў расейскамоўных творцаў, якіх у Полацку

было нямала. Гэта цьвёрдая ўстаноўка ЦК літаратурнай арганізацыі. Усё разам выдаляла Сімакова па-за арбіту зацікаўленьня Алеся.

Дудар сеў побач. Некалькі хвілін яны маўчалі. Затым Сімакоў, які быў крыху нападпітку, папрасіў пачаставаць цыгарэтай. Дудар пачаставаў. Абодва запалілі.

— Гэта праўда, што вы раней былі камісарам? — Дудар пра гэта чуў ад рэдактара газэты, які быў ня супраць друкаваньня вершаў Сімакова.

— Не только комиссаром батальона, но и секретарём политотдела каспийско-кавказского фронта, — Сімакоў прамовіў гэта без асаблівага гонару. Ягонае картавае «р» не падалося гэтым разам Дудару сьмешным. Сімакоў зрабіў глыбокую зацяжку і дадаў: — Можно сказать, кровь проливал, а меня вот сюда на исправление выслали.

— І за што могуць былога камісара выслаць у полацкія чорнарабочыя? — Дудара пачала цікавіць біяграфія суразмоўцы.

— Наверное, стал для них нелояльным, заметили во мне чужого для них человека. Поэтому придумали эту растрату и впаяли срок. Так что я комиссар на чернорабочим отдыхе, — Сімакоў дробненька засьмяяўся, але доўга сьмяяцца не атрымалася — расейскі паэт зайшоўся грудным кашлем.

— Але я так бачу, што вы не асабліва аспрэчваеце, што зьяўляецеся чужым для савецкай улады. — Дудару згадаўся нядаўні скандал, зьвязаны з Сімаковым. Паэт у чырвонаармейскай

сталоўцы пачаў чытаць крамольныя, можна сказаць контррэвалюцыйныя, вершы, усчалася бойка. Чырвонаармейцы ўспрынялі пачутае як абразу і непавагу да савецкай улады. Сімакова павязалі і даставілі да мясцовых чэкістаў. Але ў паэта знайшліся абаронцы і былога камісара вызвалілі.

— Да, я, можно сказать, оппонент теперешней власти. Впрочем, любой поэт должен быть критиком власти. Иначе родится тирания. Ты хоть знаешь, что такое тирания? — Сімакоў павярнуўся тварам да Дудара і павольна задаў яму гэтае нязручнае пытаньне.

Дудар разгубіўся. Дакладна, па-навуковаму, адказаць на яго ён ня мог. Хлопец яшчэ толькі марыў пра навучаньне ва ўнівэрсытэце.

— Я ведаю адно. Калі б не рэвалюцыя, круціў бы хвасты каровам, а сёньня я паэт і працую ў газэце.

Сімакоў павярнуўся да Дудара і пачаў уважліва ўглядацца ў ягоны твар. Затым паўшэптам, але выразна прамовіў:

— Хорошее начало карьеры. Только закончится она таким же образом, как и моя. А вашей Белоруссии нету и никогда не будет, юноша. И встретимся мы на небесах очень скоро. Да, вот еще. Хотел занести вам в редакцию новое стихотворение. Кстати, оно про комсомол.

І Сімакоў дастаў з кішэні пакамечаны аркушык паперы і працягнуў Дудару.

Ужо ў сваім пакоі Дудар разгарнуў тую паперку і прачытаў верш.

## НАСТРОЕНИЕ

Ненавижу я жизнь, эту жизнь монотонную,
Надоели бесцветные, скучные лица.
Ах... Увидеть бы женщину тонную, тонную*,
Поглядеть бы на прежнюю львицу.

Безупречным костюмом, с улыбкой чарующей,
Сколько грёз и стихов породила во мне...
Только нет... Ведь теперь среди нищих ликующих
Не найдется таких в эсэсэрской стране.

Что же делать? Уж видно, судьбою поверено,
Чтоб не стало в России изысканных дам:
Часть бежала, а сколько, а сколько расстреляно
И схоронено в глуби незнаемых ям.

Жизнь накрылась вся ситцевой красной ермолкою
И течет, точно по водосточной трубе,
Моей — семь, а мечтает уж быть комсомолкою
И несвязно твердит о священной борьбе.

И мне жалко. Я знаю, что будет обижена,
Трудно взять эту вечно зовущую цель.
И мне больно, что будет наверно острижена
И любовь захоронит в шевровый портфель...

Ах, как трудно, как трудно дорогой сожженною,
В эти годы, в томительной скуке, брести...
Ведь не вырастишь женщину тонную, тонную.
Плачь, а всё ж комсомолку расти.

---

* Жанчына, якая прытрымліваецца сьвецкага тону, вытанчаных манэраў.

* * *

Увогуле рэдактары не так часта тэлефанавалі Крокве. Часьцей ён сам ім званіў, калі чарговыя матэрыялы завісалі і доўгі час не ішлі ў друк. А тут рэдактар пазваніў і папрасіў напісаць штосьці пра зьмены ў жыцьці сучаснага беларускага пісьменьніка. На наступным тыдні ў Менску павінен адбыцца нейкі літаратурны форум, і таму тэма айчыннай літаратуы раптам стала актуальнай. Рэдактар пры канцы размовы сказаў: «Ну табе ж гэтая тэма блізкая. Так бы мовіць, на сваёй скуры тыя зьмены адчуў».

Рэдактар таксама быў крыху пісьменьнікам, таму й сам мог напісаць, але, напэўна, вырашыў балючай тэмы ўласнаручна не чапаць.

Кроква паабяцаў і ў той жа вечар даслаў невялікую нататачку для сваёй аўтарскай калёнкі.

«Нядаўна да мяне зьвярнуўся адзін маскоўскі паэт с просьбай, каб я пераклаў ягоны верш на беларускую мову. Ён задумаў выдаць кнігу з адным сваім вершам, але ў перакладзе на дзясяткі моваў сьвету. Прыкладна гэтак, як некалі выдалі кнігу Янкі Купалы зь вершам «А хто там ідзе?». Праўда, маскоўскі паэт напісаў верш, так бы мовіць, у найноўшай стылістыцы — постмадэрнісцкай. Таму шматмоўнасць выкарыстоўваецца ім зь іншай мэтай, чым у кнізе "А хто там ідзе?". Але справа ня ў гэтым. Ад маскоўскага знаёмага я ня меў ніякіх вестак амаль чатыры гады. Таму, натуральна, захацеў пачуць — што

і як адбываецца ў ягоным жыцьці. Высьветлілася, што зараз ён працуе ў вядомым маскоўскім выдавецтве ў якасьці капірайтэра, гэта значыць складае рэклямныя тэксты. Прычым складае ў капіталістычным інтэнсіўным рэжыме — зь дзесяці раніцы да сямі вечара. Для творчасьці часу зусім не застаецца. Напэўна, таму й выдае кнігу з адным вершам. У Расеі даўно ўжо няма такой прафэсіі — паэт. Расейскія паэты з гэтым канчаткова зьмірыліся і нават ня згадваюць пра той рай, які, за адданую працу, стварала для іх савецкая ўлада — з прыстойнымі ганарарамі, штогадовымі кнігамі, Кактэбэлямі і творчымі камандзіроўкамі па краіне. Бо як было раней? Задумаў паэт напісаць верш пра Енісей. Бярэ творчую камандзіроўку — і наперад, натхняцца сыбірскімі прасьцягамі. Але ў сваім вершы ён абавязкова павінен згадаць пра гераічных савецкіх першапраходцаў суворай Сыбіры. Адным словам, суцэльная рамантыка і асабістая выгода. Аднак эпоха савецкага рамантызму незваротна мінула. Прыйшлі новыя часы. Лепшыя ці горшыя — гэта іншая справа. Але яны прыйшлі, і жыцьцё трэба ўпарадкаваць адпаведна новым патрабаваньням.

На Беларусі сытуацыя зусім іншая — адно мінула, другое не прыйшло. Таму беларускія паэты ўсё яшчэ ня вераць, што ва ўсім сьвеце няма такой прафэсіі — паэт. Таму так і нудзяцца, пакутуюць, скардзяцца. Прычым у беларускай літаратуры так усё перамяшалася, што і не зразумееш — хто тут клясык, а хто звычайны

графаман. Асабліва цяжка разабрацца правінцыялу. У выніку адбылася страшэнная дэвальвацыя творчай працы. Не ў апошнюю чаргу спрыяла гэтаму бязладзьдзю дзейнасьць самой пісьменьніцкай арганізацыі. Бо хто толькі ня езьдзіў па правінцыі пад эгідай Саюза пісьменнікаў на творчыя сустрэчы. Гэтак, нібыта, пашыралася ў народзе беларускае слова і культура. Але ці чулі яны калі-небудзь, як камэнтуюць простыя людзі іх выгляд, звычкі і публічныя выступы?

Нядаўна мне распавялі адну прыкрую гісторыю, што надарылася ў Докшыцкім раёне. У саміх Докшыцах адбывалася юбілейная сустрэча аднаго пісьменьніка зь Менску, які паходзіў з гэтых мясьцінаў. Настаўніца беларускай мовы зь вясковай школы — вёска гэтая месьціцца непадалёку ад райцэнтру, — папрасіла ў дырэктара школы адпусьціць з заняткаў на сустрэчу некалькі вучняў старэйшых клясаў. І пачула ў адказ наступнае: "Лепш на малпаў глядзець у заапарку, чым на беларускіх пісьменьнікаў". Вядома, разгарэўся скандал. Але падобныя выпадкі не адзінкавыя. Праўда, прычына ня толькі ў саміх пісьменьніках. Сапраўды, надышоў неспрыяльны час для творчых людзей. Вось толькі калі ён быў спрыяльны?»

* * *

Вяртаючыся ў Менск цягніком, Дудар увесь час глядзеў у вакно і разважаў пра Сімакова. «Недабіты белагвардзеец», — пра сябе, з горыччу, прамовіў Алесь. Ён быў злы на расейскага паэта. Ягоны верш Дудар, канешне, спаліў. Толькі за

захаваньне і чытаньне такіх «стихов» ён меў бы сур'ёзныя праблемы з адпаведнымі органамі.

«Нарэшце я пакідаю Полацак, — падумаў Алесь. — Нічога добрага мяне там і не чакала. А яшчэ гэты Сімакоў на маю галаву».

У думках ён увесь час вяртаўся да той размовы. Знаходзіў усё новыя і новыя словы, якія зараз яму хацелася сказаць «недабітаму белагвардзейцу».

«Беларусь была і будзе. І ніхто нам ня здолее перашкодзіць адбудаваць свой край ня горш за Польшчу або нават Францыю. І ніхто ня здолее перашкодзіць узьняць нашую нацыянальную сацыялістычную культуру на недасяжную вышыню».

Прыкладна так разважаў Дудар, калі вяртаўся цягнікам з Полацка ў Менск.

Але штосьці ў бунце Сімакова прываблівала маладога паэта. «Паэт павінен быць крытыкам любой улады», — згадаў ён словы адстаўнога камісара. І гэтая адчайная сьмеласьць. Пісаць крамольна-бунтоўныя вершы, насіць іх у кішэні і нават публічна чытаць чырвонаармейцам... Бесшабашная сьмеласьць.

І штосьці Дудару падказвала, што і ён некалі напіша падобныя вершы. Дзёрзкія, надзвычай дзёрзкія. І іх будуць перапісваць ад рукі і чытаць

самым блізкім сябрам. Толькі будуць гэтыя вершы зусім пра іншае.

Пра падземны ход ён пачаў забываць.

* * *

З трэцяй спробы ім удалося трапіць у Сафійскі сабор. Снарад зьнёс левую вежу храма. Яна, як у замаруджаным фільме, некалькі хвілінаў абрыньвалася долу, уздымаючы клубы пылу.

Стралялі з Задзьвіньня, недзе з раёну вар'ятні. Уся тэрыторыя вакол Сафіі праз дзесяць хвілінаў была ўзараная варонкамі.

Кроква хаваўся за Барысавым каменем, які, як звычайна, ляжаў побач з Сафійкай ля стромкага схілу, што спадаў у Дзьвіну, і зіркам паглядаў у бок Задзьвіньня.

Цяжка было зразумець, адкуль канкрэтна стралялі. Амаль увесь супрацьлеглы бераг Дзьвіны зацягнула дымам. Ці там нешта сур'ёзна гарэла, ці проста вораг выкарыстоўваў дым для маскіроўкі.

З правага берагу ніхто не адказваў на стральбу. Па-першае, было абсалютна не зразумела, куды страляць. Па-другое, можна было трапіць у жылы раён Задзьвіньня.

Кроква чуў, як нехта гістэрычна лямантаваў нашым артылерыстам: «Страляйце па вар'ят-

ні!!! Страляйце, сукіны дзеці!!!» Аднак зусім малодзенькі лейтэнант, які камандаваў артылерыйскім разьлікам, крычаў у адказ: «Але там хворыя! Разумееце, там людзі!»

І тут Крохва адчуў, што нехта раптам зьявіўся за сьпінай. Ён рэзка павярнуў галаву і ўбачыў Ластоўскага. На гэты раз ён быў у вайсковым фрэнчы часоў слуцкага паўстання. Власт таксама схаваўся за Барысаў камень.

— Ну што, горача? — спытаў ён неяк будзённа, нават не павітаўшыся.

— Як бачыце. Вунь ужо ў Сафійку трапілі, — Крохва хітнуў галавой у бок сабору і зноў выглянуў з-за каменя. Дым над Задзьвіньнем не зьбіраўся разыходзіцца.

— Марсіяне, — сказаў упэўнена Ластоўскі.

— І што рабіць? Не страляць жа, сапраўды, па Задзьвіньні. — Крохва быў салідарны з тым лейтэнантам-артылерыстам, які адмовіўся весьці агонь па супрацьлеглым беразе Дзьвіны.

Ластоўскі прыўстаў і таксама выглянуў з-за каменя. У ягоных руках зьявіўся бінокль, і Власт пачаў аглядаць праз яго задзьвінскі бераг. Затым нахіліўся да вуха Крохвы і прамовіў:

— Падземны ход.

— Што... падземны ход? — перапытаў Крохва і падумаў: «Знайшоў час пра падземны ход гутаркі весьці. Тут зараз накрые з галавой, калі не спыніць гэты абстрэл».

— Ад Богаяўленскага сабору празь Дзьвіну да бэрнардынскага кляштару, у якім зараз

вар'ятня, вядзе падземны ход. Трэба выслаць туды хлопцаў.

Ластоўскі зноў прыўзьняўся, заклаў два пальцы ў рот і гучна сьвіснуў. Так гучна, што ў Кроквы заклала вушы. «Во дае», — з палепшаным настроем падумаў пра Ластоўскага Кроква. На сьвіст Власта азірнуўся той самы «бязвусы» лейтэнант, які камандаваў артылерыйскім разьлікам. Ластоўскі махнуў яму рукой, і той пабег да Барысава каменя. І калі лейтэнант амаль дабег, недзе побач засьвісьцеў снарад. Ластоўскі ўпаў на яго і накрыў сабой. Праз колькі хвілінаў пыл разышоўся і яны абодва ўсталі цэлыя.

— Са мной нічога ня будзе, галоўнае, каб з табой было ўсё ў парадку, — сказаў Ластоўскі лейтэнанту. Затым нешта патлумачыў яму, і яны разам, прыгінаючыся, пабеглі ў бок Богаяўленскага сабору.

# Частка пятая

Літаральна праз тыдзень пасьля ад'езду Дудара з Полацка яму прыслалі замену — Валяр'яна Сянкевіча. Да гэтага ён працаваў у Віцебску мэтадыстам-арганізатарам, быў сярод заснавальнікаў Віцебскага краязнаўчага таварыства, а таксама сябрам віцебскай філіі «Маладняка». У Полацку яго чакалі пасады інспэктара сацыяльнага выхаваньня і кіраўніка полацкай філіі «Маладняка».

Сянкевіч вырашыў зьмяніць маладнякоўскую тактыку ў горадзе князя Ўсяслава Чарадзея. Ён ня стаў, як раней Дудар, вызначаць якасьць мясцовых літаратурных кадраў і наракаць на іх апатычнасьць і слабую літаратурную і ідэйную падрыхтаванасьць, а спалучыў працу маладнякоўскай філіі зь дзейнасьцю мясцовага краязнаўчага таварыства. Справа пайшла лепш. Мясцовыя краязнаўцы, а гэта перадусім былі настаўнікі, пачалі ўдзельнічаць у мерапрыемствах «Маладняка», якія сталі больш цікавымі і масавымі. Зь іншага боку, маладнякоўцы пранікаліся гістарычнымі тэмамі і пісалі вершы пра Францыска Скарыну, родны Полацак. Справа зрушылася ў бок уласнага літаратурнага альманаху.

Полацкія маладнякоўцы пачалі больш уважліва прыглядацца да роднага гораду. Найбольш

іх абурала непавага да галоўнага архітэктурнага і гістарычнага помніка Полацка — Сафійскага сабору, які занепадаў з-за недагляду. Мясцовыя краязнаўцы і маладнякоўцы ўздымалі гэтае пытаньне пры любой нагодзе. Сам Сянкевіч напісаў адпаведны артыкул у галоўную рэспубліканскую газэту «Савецкая Беларусь».

Увосень 1925 году полацкія гарадзкія ўлады прынялі рашэньне стварыць у Сафійскім саборы краязнаўчы музэй. Мясцовая інтэлігенцыя ўспрыняла гэта як сваю ўласную перамогу.

На пачатку наступнага году музэй у Сафіі быў адкрыты. З нагоды падзеі ў Полацак прыехаў Алесь Дудар. Маладнякоўцы Полаччыны правялі адмысловае паседжаньне, на якім менскі госьць прадставіў сваю новую кнігу «Сонечнымі сьцежкамі», агучыў гадавую справаздачу «Маладняка», а таксама распавёў пра сталічныя маладнякоўскія справы.

У гэты ж дзень Дудар напісаў санэт.

Ў музэі залатую бранзалетку
я бачыў за празрыстым шклом —
яе пад старажытным курганом,
пазелянеўшую, знайшлі малыя дзеці.

І ў тыя дні раслі на полі кветкі...
І ланцужком, сатканым з васількоў,
стары мастак прывычнаю рукой
аздобіў залатую бранзалетку.

Мастацкі дух ніколі не памрэ.
Не пахаваць яго пад курганамі,
не вычарпаць гадамі і вякамі.

Яму ў агні пякельным не згарэць.
Ён вырвецца з багны разводдзем буйных рэк
і загарыцца зноў бліскучымі агнямі.

* * *

Гэты матэрыял Кроква напісаў без замаўленьня рэдактара. Праўда, у друк ён не пайшоў.

«Галоўныя баромэтры сацыяльнага клімату ў грамадзтве — чыноўнікі. Яны выключна адчуваюць усе перапады ціску ў калідорах улады, набліжэньне перадынфарктных сытуацый у эканоміцы, хваляваньні ў грамадзтве. Але менавіта такія неспакойныя і рэвалюцыйныя пэрыяды ў гісторыі любой краіны зьяўляюцца залатым часам для чыноўнікаў. Трэба толькі ўмець іх выкарыстаць. Апошнім пераломным пэрыядам у Беларусі быў 1994 год. Згадайма галавакружныя кар'еры шэрагу сёньняшніх высокіх асоб. Як кажуць у народзе: з гразі ў князі. Уладу здабылі дробныя чыноўнікі, якія не пабаяліся рызыкаваць у час смуты і неспакою. У 1994 годзе ім не было чаго губляць, акрамя сваіх падзертых нагавіцаў, і яны сталіся рэвалюцыйнай клясай. Праблемы ж пачаліся, калі гэтая кляса дамаглася ўлады. Брак адукацыі, досьведу, урэшце культуры хутка даў аб сабе знаць. Краіна неўзабаве ўвайшла ў паласу раздраю. Вышэйшая чыноўніцкая кляса не магла даравацьгэткага нахабства сваім былым падначаленым. Да таго ж малаадукаваныя пераможцы ўвайшлі ў канфлікт з творчай элітай. Паўсталі праблемы ў эканоміцы, культуры, нацыянальным пытаньні, міжнародных дачыненьнях. Новая

рэвалюцыйная сытуацыя пачала няўхільна набліжацца. Тое, што працэс пайшоў, было заўважна па паводзінах чыноўнікаў. У апошнім нумары незалежнай газэты “Віцебскі кур'ер" зьмешчана інтэрвію з начальнікам упраўлення па ўліку і разьмеркаваньні жыльля Віцебскага гарвыканкаму Віктарам Сазонам. Трэба сказаць, вельмі сьмелая і рызыкоўная гутарка. Вось што Сазон кажа ўвогуле пра беларускіх чыноўнікаў: “Чыноўнік і баязьлівец — гэта сынонімы. Гэта бяда не асобнага чалавека, а ўсёй сыстэмы, якая нараджае палахліўцаў. Паверце, кожны асобна — часам цікавы чалавек, які мысьліць разумна і сьмела. Але як толькі мяняецца яго асяродзьдзе і ён патрапляе на высокае пасяджэньне або ў начальніцкі кабінэт, ён ператвараецца ў шэрую, бясколерную, безгалосую істоту". А вось што гаворыць віцебскі вэртыкальшчык пра нашае сёньняшняе жыцьцё: “Неверагодна, але мы і будаваць ня ўмеем. Паставіць-скалаціць свой дамок ня можам. Нават не спрабавалі. Усё імкнемся пад нечы вялікі-вялікі дах падлезьці і ня бачым, што той дах даўно дзіравы. А іншыя нашыя суседзі — з другога берагу — ужо тое-сёе пабудавалі. І вынікі відавочныя. Добрыя вынікі. Не раўня нашым пражэктам у 100 даляраў".

Такім чынам, можна ўжо канстатаваць, што гэткае жыцьцё дастала і чыноўнікаў. Яны сасьпелі для новых зьменаў. Пытаньне толькі — на чый бок чыноўнікі стануць. Можа так здарыцца, што сёньняшні прэзыдэнт здолее другі раз перацягнуць іх у лягер сваіх прыхільнікаў. Зымітуе зьмену курсу, паабяцае эканамічныя

рэформы, сфармуе новую каманду, дазволіць чыноўнікам беспакарана нажывацца за кошт пасады. Праўда, цяпер гэта будзе зрабіць складаней. Бо, па-першае, чыноўнікі ўсё прыхільней ставяцца да Захаду і цяперашняя антызаходняя гістэрыя ім не падабаецца. Па-другое, прэзыдэнт працягвае сьпісваць усе беды на чыноўнікаў. Пачаліся арышты, канфіскацыі маёмасьці, суды. Чыноўнікі стаміліся існаваць у сытуацыі беззаконьня, калі вінаватым цябе могуць зрабіць у любую хвіліну. Праўда, ня ўсе чыноўнікі гатовыя да змаганьня. Значная частка чакае пераменаў з Усходу: хто спадзяецца на расейскую мілітарысцкую ўладу, хто на расейскі капітал, які прыйдзе ў Беларусь і навядзе свае парадкі. Але сорам прачнуўся ўва многіх. Вось якімі словамі заканчвае сваё інтэрвію Віктар Сазон: "Мне ўвесь час сорамна. Сорамна, калі зрэдку гляджу праграму беларускага або мясцовага тэлебачаньня; сорамна, калі па дыяганалі знаёмлюся зь дзяржаўнай прэсай. Прабачце — дэградацыя. Сорамна за сёньняшняе лісьлівае халуйства. Да таго ж гісторыя вучыць, што заўтра гэтыя ж людзі першымі ўтопчуць у гразь таго, хто сёньня на троне"».

* * *

Пры першай сустрэчы пагаварыць з Чаротам пра полацкія лёхі ў Дудара не атрымалася. Доўгі час не было ні нагоды, ні пэўнага настрою. Чарот усё больш рабіўся чыноўнікам. Падоўгу быў у розных камандзіроўках, пераважна ў Маскве. Шмат сілаў і часу забірала рэдагаваньне

галоўнай дзяржаўнай беларускай газэты «Савецкая Беларусь». Ды і Дудар сам паціху ўлазіў у чыноўніцкі хамут — па вяртаньні ў Менск, яго прызначылі кіраўніком менскай сэкцыі «Маладняка», затым стаў рэдагавацть аднайменны часопіс. Да таго ж Алесь неўзабаве пачаў навучацца ва ўнівэрсытэце.

Час ад часу ён згадваў пра сваё жаданьне пагаварыць з Чаротам на таемную тэму, пачынаў яго шукаць па ўсім Менску, не знаходзіў і зноў забываўся пра гэтае жаданьне на некалькі тыдняў.

Нагода надарылася выпадкова. 7 лістапада на кватэры ў Чарота адзначалі ягоны дзень народзінаў. Было чалавек дзесяць — пісьменьнікі, журналісты, дзяржаўныя дзеячы. Калі ўсе разышліся, Дудар застаўся з Чаротам сам-насам.

— Міхась, даўно табе хацеў расказаць адну дзіўную гісторыю, — пачаў свой аповед Алесь і ўсё падрабязна распавёў.

Чарот, палячы другую запар цыгарэту, уважліва выслухаў сябра.

— Табе нічога не прытрызьнілася? — Чароту захацелася перавесьці пачутае ў жарт.

— Якое прытрызьнілася! У мяне яшчэ шнар на руцэ застаўся, калі я ў тым лёху бразнуўся.

Дудар закасаў рукаво кашулі і паказаў невялікі чырвоны шнар.

— Якое прытрызьнілася! Я быў у тым падзямельлі! І яно нейкім чароўным чынам зьнікла. Дакладней, зьнік уваход у яго.

— І што ты мне прапаноўваеш? Выправіцца з табой шукаць тое падзямельле?

— Ня ведаю. Нічога не прапаноўваю. Хачу пачуць тваю параду.

— Мая парада наступная. Забудзь. Прынамсі на гэты складаны палітычны час. Прыйдзе наш час — і мы ўсё высьветлім, усё там вывучым і абшукаем. Але ня сёньня. А вось полацкіх русацяпаў трэба паставіць на месца. І газэту перавесьці на беларускую мову. Я заўтра ж параю каму трэба, каб накіравалі ў Полацак сакратаром акруговага камітэту КП(б)Б Алеся Адамовіча. На Калініншчыне ён ужо парадак навёў. А мы са свайго боку накіруем туды ўзмоцнены маладняк оўскі дэсант. Як думаеш, каго?

— Было б добра Алеся Звонака. І яшчэ Валерыя Маракова.

— Так і зробім.

* * *

У лютым 1926 году Алеся Адамовіча прызначылі сакратаром Полацкага акруговага камітэту КП(б)Б. Для чыноўнікаў старажытнага гораду надышлі цяжкія часы. Працэс беларусізацыі на берагах Дзьвіны пайшоў больш хуткімі тэмпамі. У гэтым жа годзе газэта «Полоцкий пахарь» перайшла на беларускую мову і зьмяніла назву на «Чырвоная Полаччына». У 26-м полацкая філія «Маладняка» выдала свой першы літаратурны альманах «Надзьвіньне». Адмыслова для альманаху Алесь Дудар напісаў верш «Полацак». Неўзабаве, упершыню ў старажытным горадзе, урачыста адзначаць скарынаўскае сьвята 400-годзьдзя беларускага друку. У Полацку тады працавалі: адна польская, адна расейская,

дзьве габрэйскія і дзесяць (!) беларускіх школаў.

Як і паабяцаў Чарот, у якасьці журналістаў у «Чырвоную Полаччыну» прыбыў адмысловы маладнякоўскі дэсант, які й выканаў асноўную працу па пераводзе газэты на беларускую мову. У 26-м у «Чырвонай Полаччыне» працавалі выключна маладнякоўцы. З 1925 па 1927 гады адказным сакратаром полацкай газэты быў Алесь Звонак. Некаторыя маладнякоўцы працавалі ў «Чырвонай Полаччыне» вахтавым мэтадам, па некалькі месяцаў, і за два наступныя гады на берагах Дзьвіны пабывала каля дзесяці маладых літаратараў з «Маладняка». Прыяжджалі яны сюды да таго часу, пакуль на Полаччыне не падрасьлі свае кадры. Асноўным мясцовым кадрам стаў паэт Пятрусь Броўка, які ў 1927-1928 гадах працаваў адказным сакратаром «Чырвонай Полаччыны», зьмяніўшы на гэтай пасадзе Алеся Звонака.

* * *

Анатоль Тупіцын меў звычку ў пятніцу хадзіць у бібліятэку, якая месьцілася ў раённым Доме культуры, і чытаць сьвежыя газэты. Гэтым разам ён крыху прыпазьніўся і прыйшоў амаль за паўгадзіны да закрыцьця. У бібліятэцы працавала ягоная былая вучаніца, таму ён асабліва не сьпяшаўся. Але яму было няёмка яе затрымліваць, таму Анатоль папрасіў сьвежыя газэты ўзяць на вечар дахаты. Ніякіх пярэчаньняў ён не пачуў, балазе неаднойчы браў дахаты сьвежыя пэрыёдыкі — перадусім часопісы.

Павячэраўшы, Анатоль традыцыйна пачаў знаёміцца з друкам з «Савецкай Беларусі». Гэтая газэта часта зьмяшчала матэрыялы Алеся Дудара, якія ён чытаў у першую чаргу. Вось і гэтым разам Анатоль хутка знайшоў артыкул сябра. Праўда, пад артыкулам было ажно тры подпісы: Андрэй Александровіч, Алесь Дудар і Міхась Зарэцкі. Аўтары ў матэрыяле жорстка крытыкавалі Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт празь непарадкі ў справе беларусізацыі. Прычым ня толькі з-за таго, што многія прадметы не выкладаюцца па-беларуску, але і з-за цкаваньня пісьменьнікаў-студэнтаў, якія вучацца ў БДУ. Аўтары ў артыкуле згадвалі шэраг беспадстаўных крытычных выступаў у насьценгазэце ВНУ. Маўляў, гэтыя маладыя пісьменнікі ганарыстыя, ня ўдзельнічаюць у грамадзкім жыцьці ўнівэрсытэта, фарсіста апранаюцца — носяць капелюшы і гарнітуры. Пратэстуючы супраць такога стаўленьня да іх, трое аўтараў артыкула заявілі, што кідаюць унівэрсытэт і будуць шукаць іншае месца для навучаньня, магчыма, ва Ўкраіне.

«Я ж яго папярэджваў нікуды ня ўлазіць! І гэта ўжо ня першае яго нацыянал-дэмакратычнае выступленьне ў друку», — з горыччу падумаў Анатоль.

У гэты вечар ён спаліў у печы ўсе лісты ад Дудара, а заадно і ўсе свае напісаныя творы.

«Яны яму не даруюць, — сказаў з хваляваньнем сам сабе Анатоль. — Не даруюць... Вось і мне трэба быць далей ад гэтай небяспечнай літаратурнай справы».

* * *

Петруся Броўку Дудар сустрэў у рэдакцыі часопіса «Маладняк». Адказны сакратар «Чырвонай Полаччыны» прывёз новыя творы для друку. Алесь запрасіў госьця ў буфэт Дома пісьменьніка. За сьняданьнем Броўка расказаў апошнія весткі з Полацка. Галоўнай навіной быў арышт Аляксандра Сімакова.

— Гэты пісака ўсіх падвёў пад манастыр, — абураўся Броўка. — Разам зь ім арыштавалі яшчэ некалькі настаўнікаў, ягоных сябрукоў.

— І што ён такога нарабіў? — спытаў Дудар, хаця здагадваўся, што мог нарабіць Сіма.

— Што, што... Паэму контррэвалюцыйную напісаў. «Трэцяя» называецца. Усіх, у каго знайшлі перапісаную копію паэмы, арыштавалі.

— І што за паэма? — Дудар і тут здагадваўся, пра што магла быць тая крамольная паэма, але мусіў неяк падтрымліваць размову.

— Заклікаў да трэцяй рэвалюцыі, якая вярнула б ранейшыя парадкі. Вось пра што! Разумееш, што яму сьвеціць!

— Дзіўна, што яго раней не забралі ў ГПУ. Відаць, легендарнае мінулае ратавала. — Дудар наліў са штофу ў кілішкі сабе і госьцю. — Ну што, вып'ем за Кастрычніцкую рэвалюцыю.

— За Кастрычніцкую, — падтрымаў прапанову Броўка. — Прынамсі ў нас няма прэтэнзій да новых парадкаў. — І ён нэрвова засьмяяўся.

— Спадзяюся, у вас там не было праблем, — сказаў Дудар, кульнуўшы ў рот першы кілішак.

— Як не было! Было! Мы яго ж друкавалі ў нас у газэце, яшчэ ў «пахары». Усіх цягалі на допыты, і рэдактара таксама.

— Трэба табе адтуль зьяжджаць, пакуль цэлы.

— Вось і я пра гэта думаю. Хачу сёлета паступаць ва ўнівэрсытэт. Усё, што мог, я зрабіў. Жадаючых пераняць маё працоўнае месца дастаткова.

Дудар зноў наліў у кілішкі. Гарэлка яго ня брала. Ён згадаў, што недзе месяц таму атрымаў ад Сімакова ліст, які расейскі паэт даслаў у рэдакцыю «Маладняка». На пакаменчаным аркушыку, які ляжаў у капэрце, было ўсяго два словы: «Скоро встретимся». І толькі цяпер да Дудара пачаў даходзіць злавесны сэнс гэтых слоў.

* * *

Гэта ня быў жарт або розыгрыш, як адразу падумаў Кроква, атрымаўшы па электроннай пошце новае паведамленьне ад Палачаніна. Таемны эпісталярны знаёмы нарэшце напісаў, якім чынам Васіль можа трапіць у полацкія лёхі.

Для экспэдыцыі пад зямлю Кроква абраў раніцу бліжэйшай нядзелі. Трэба было наладзіць падарожжа таемна, але ў сьветлы час сутак.

Па словах Палачаніна, уваход у лёхі знаходзіцца на стромкім схіле Верхняга замка, які, да самай рачулкі Палата, быў шчыльна зарослы кустоўем і дрэвамі.

Кроква, пасьля паўгадзіны росшукаў, поўзаючы па схіле, нарэшце знайшоў патрэбны сухі

куст ляшчыны. Гэта быў нават ня куст, а хутчэй корч. Кроква пацягнуў за яго... і дзьверы ў лёхі адчыніліся.

* * *

Дудар ня жыў, а гарэў. Трэба было вучыцца ва ўнівэрсытэце, працаваць у часопісе і пісаць для газэты, а таксама не забываць пра вершы. Вершы ён складаў штодня. Дакладней, для іх заставалася толькі ноч. А яшчэ трэба было мець час для сяброў і калегаў. На розныя афіцыйныя пасяджэньні, а таксама неафіцыйныя сустрэчы — у буфэце Дома пісьменьніка або ў кагосьці на кватэры. А тут яшчэ Дудар закахаўся ў паэтку Натальлю Вішнеўскую, якая неўзабаве стала яго жонкай. І галава зусім пайшла кругам. Часу катастрафічна не хапала. Але Дудару падабалася такое сталічнае жыцьцё. Быць у гушчыні падзеяў. Штодзень сустракацца і размаўляць зь вядомымі людзьмі — пісьменьнікамі, журналістамі, дзяржаўнымі дзеячамі. І яго, можна сказаць, яшчэ жаўтаротага юнца, тут, у сталіцы, усе ўспрымалі сур'ёзна (ня так, як у Полацку), амаль як роўнага. Як чалавека, ад якога штосьці залежыць, які шмат робіць для Беларусі, у рэшце рэшт як дзяржаўнага чалавека. І Дудар сапраўды пачынаў верыць, што ад яго штосьці залежыць у родным краі. Ён пэрыядычна ў друку выступаў з вострымі матэрыяламі на тэму культуры і нацыянальнага будаўніцтва. Па-ранейшаму змагаўся з чыноўнікамі-русацяпамі. Затым уключыўся ў дыскусію пра нацыянальны тэатар. Даводзіў, што беларускі тэатар мусіць быць са-

мабытным, з уласным рэпэртуарам, а ня соўгацца па задох расейскай тэатральнай сцэны. З гэтай нагоды зь сябрамі-маладнякоўцамі напісаў адмысловы артыкул у абарону нацыянальнага тэатру. Разгарэўся чарговы скандал. Падпісантаў ліста пачалі цягаць па высокіх кабінэтах і абвінавачваць у нацыянал-дэмакратызме. У газэтах зьявіліся артыкулы, у якіх заклікалі «даць па руках» тэатральным рэнэгатам і апартуністам.

Дудар успрыняў цкаваньне як унутраную барацьбу, якая тады набірала моцы паміж літаратурнымі і партыйнымі групоўкамі ў Беларусі. Здавацца або проста зацішыцца ён не зьбіраўся.

Наступную балючую праблему ў нацыянальным будаўніцтве Дудар і яго сябры бачылі ў нявырашаных пытаньнях з вышэйшай адукацыяй, якая па-ранейшаму ня мела нацыянальнага зьместу і не імкнулася да навучаньня па-беларуску. Таму губляўся сэнс беларускамоўнай пачатковай адукацыі. Так зьявіўся «ліст трох» з крытыкай Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Скандал разгарэўся яшчэ большы, чым пасьля тэатральнай дыскусіі. Аўтараў у друку закляймілі як контррэвалюцыянэраў.

Над Дударом пачалі зьбірацца хмары. Ён адчуваў гэта. Але спыніцца ўжо ня мог.

* * *

Сьвятло ліхтара ўпала на сьцены сутарэньня. Падземны ход быў выкладзены з цэглы, цяжка ўжо сказаць якога колеру, бо каменныя бакі лёхаў і столь шчодра пакрываў слой зялёнага налёту, нібыта яны мядзяныя і ад вільгаці

пакрыліся пацінай. Але зялёнымі сьцены выглядалі толькі на пачатку шляху: там, куды яшчэ час ад часу трапляла сьвятло. Далей яны былі ўжо чорнымі, як быццам бы ў фоташопе прыбралі колер. Столь упрыгожвалі плямы ад сажы. Відаць, некалі тут хадзілі з паходнямі. У разрэзе падземны ход уяўляў сабой усечанае кола, бо падлога ўсё ж была роўнай, шырыня не сягала за мэтар.

Лёхі вялі ў бок Сафійскага сабору. Але ў падзямельлі цяжка арыентавацца, лёхі маглі кудысьці адхінуцца, а заўважыць гэта было амаль немагчыма.

* * *

— Ты хочаш нас усіх падвесьці пад манастыр! — Міхась Чарот пачырванеў як рак. Дудар сядзеў у фатэлі ў рэдакцыйным кабінеце, глядзеў у падлогу і нібыта сам сабе разважаў, ня слухаючы рэдактара. У кабінэце больш нікога не было.

— Ты бачыў, які прынесьлі артыкул з АПА? — Чарот патрос над галавой некалькімі аркушамі паперы. — Ты чытаў, як цябе тут называюць? — Чарот ад хваляваньня папярхнуўся, таму ў слове «называюць» гук «з» аказаўся памножаным. — І я не магу гэта не надрукаваць. — Чарот пляснуў па стале паперамі. — Чаго маўчыш?

— Ці ўпершыню такое? Чаго так разышоўся? — нарэшце азваўся Дудар.

— Таму, што не хачу губляць сябра і калегу, — тым жа нэрвовым голасам адказаў Ча-

рот. — Ты не разумееш, які можа быць іхны, — ён кінуў кудысьці ў левы бок, — наступны крок.

— Я разумею толькі адно. Абяцанай Беларусі мы так не дачакаемся, пакуль ня будзем за яе змагацца. Ніхто не аспрэчвае перавагі Кастрычніцкай рэвалюцыі, але тут наш дом і мы мусім у гэтым доме гаспадарыць. Інакш ніякай пэрспэктывы ў нас ня будзе. Ты гэта разумееш? — тут ужо Дудар перайшоў на высокі, нэрвовы тон размовы.

— Усё я разумею. Але пакуль мы тут ёсьць — існуюць нейкія надзеі й пэрспэктывы. Калі нас тут ня будзе — вось тады й зьнікне ўсё чыста. Ты гэта разумееш? — Чарот паспрабаваў надаць свайму голасу спакой і разважлівасьць, але гэта ў яго ня вельмі атрымалася.

— Але тады ўжо будзе позна. Разумееш? Калі яны ўсё тут абсталююць і возьмуць лейцы ў свае рукі. Тады ўжо нічога ня зробіш, — Дудар таксама прыцішыў свой голас. І ўжо зусім ціха сказаў: — Яны гандлююць беларускай зямлёй, як сваім уласным надзелам. Захацелі — аддалі Польшчы ўсю Заходнюю Беларусь. І што, мне пагаджацца, што гэта мудрае дзяржаўнае рашэньне? І я мушу маўчаць і ня маю права выказаць нават падтрымкі братам у Заходняй Беларусі? Не-е-е... Маўчаць я ня буду, — апошнія словы Дудар зноў вымавіў гучна і нэрвова. Устаў з фатэля і, не разьвітаўшыся, выйшаў з рэдакцыйнага пакоя.

Увечары ён напісаў свой самы крамольны верш.

Пасеклі наш край папалам,
Каб панскай вытаргаваць ласкі.
Вось гэта — вам, а гэта — нам,
Няма сумленьня ў душах рабскіх.

І цягнем мы на новы строй
Старую песьню і чужую:
Цыгане шумнаю талпой
Па Бесарабіі качуюць...

За ўсходнім дэспатам-царком
Мы бегаем на задніх лапах,
Нью-Ёрку грозім кулаком
І Чэмберлена лаем трапна.

Засыплем шапкамі яго,
Ура, ура — патопім ў соплях.
А нас тым часам з году ў год
Тут прадаюць ўраздроб і оптам.

Мы не шкадуем мазалёў.
Мы за чужых праклёны роім,
Але бяз торгу і бяз слоў
Мы аддаем сваіх герояў.

Ня сьмеем нават гаварыць
І думаць без крамлёўскай візы,
Бяз нас ўсё робяць махляры
Ды міжнародныя падлізы.

Распаўся б камень ад жальбы,
Калі б ён знаў, як торг над намі
Вядуць маскоўскія рабы
Зь вялікапольскімі панамі.

О, ганьба, ганьба! Ў нашы дні
Такі разлом, туга такая!
І баюць байкі баюны
Северо-Западного края...

Плююць на сонца і на дзень.
О, дух наш вольны, дзе ты, дзе ты?
Ім мураўёўскі б гальштук ўзьдзець,
Нашчадкам мураўёўскім гэтым...

Але яшчэ глушыце кроў.
Гарыць душа і час настане,
Калі з-за поля, з-за бароў
Па-беларуску сонца гляне.

Тады мы ў шэрагах сваіх,
Быць можа, шмат каго ня ўбачым.
З тугою ў сэрцы ўспомнім іх,
Але ніколі не заплачам.

А дзень чырвоны зацьвіце,
І мы гукнем яму: «Дабрыдзень».
І са шчытом ці на шчыце
Ў краіну нашу зноў мы прыйдзем.

* * *

Пасьля 40-50 мэтраў стала цяжка дыхаць. Кроква не зьвярнуў на гэта ўвагу і рушыў далей. Праўда, асьцярожны рух наўрад ці можна было б назваць шпацырам. Васіль сунуўся хутчэй як мінэр па замінаваным полі. Спачатку яму здавалася, што можа абрынуцца столь і яго засыпле. Ці яго самога, ці выхад з падзямельля. Затым яму пачало мроіцца, што нехта ў гэтых лёхах ужо

ёсьць і сочыць за ім. Ён нібыта чуў гукі таропкіх крокаў, нейкія ўсхліпы і шоргаты. Спыняўся, прыслухоўваўся, і дзіўныя гукі адразу зьнікалі. Нібыта той ці тыя, хто былі ў лёхах, умэнт заціхалі.

Ён ужо пачаў шкадаваць, што пацёгся ў гэтае падзямельле адзін. Навошта было так рызыкаваць? Але не хацелася ні з кім дзяліцца адкрыцьцём. Апошнім часам Кроква нікому не давяраў. Нехта зусім падсеў на грошы. Нехта проста стаў падазроным. Нехта сьпіўся і дэградаваў. Не, давяраць не было каму. Ён ня мог так рызыкаваць: усё трэба рабіць самастойна. І не таму, каб сабраць усе ляўры. Не было ўпэўненасьці, што хтосьці не захоча пагрэць рукі на тым, што схаванае тут ад хцівых позіркаў.

Дыхаць стала зусім цяжка. Васіль спыніўся і адчуў, як гулка тахкае сэрца ў грудзёх. Здаецца, яго стук разьлятаўся па ўсім падзямельлі. Затым мужчыну хіснула і падалося, што сэрца спынілася. Як быццам бы ў тэлевізары раптам на экране зьявіліся перашкоды ў суправаджэньні гучнага сьвісту. Гэты сьвіст імкліва нарастаў, і Кроква адчуў, што траціць прытомнасьць.

* * *

Дудар трызьніў. У турэмнай камэры было халодна, вільготна і смуродна. Паэт старанна захутваўся ў свой нядошлы палітончык. Але ад холаду ён амаль не ратаваў. Варта было Алесю толькі заплюшчыць вочы, як пачыналіся трызьненьні. Спачатку яму прымроіўся Сімакоў. Ён сядзеў на лавачцы ля дамініканскага кась-

цёлу. Пасьміхаўся і паліў самакрутку з газэты. Прычым былі выразна бачныя надрукаваныя тры словы на самаробнай цыгарцы: «Александр Симаков. Стихи».

«Я же тебе говорил, что мы вскоре встретимся, — картава прамовіў Сімакоў і зайшоўся кашлем. — Я тебя предупреждал. А ты мне не верил. Вот мы и встретились, поэт». Сімакоў выцягнуў левую руку на захад і, зьвяртаючыся хутчэй да сонца, сказаў: «Только солнце им не под силу поработить. И скоро мы станем детьми солнца. — Сімакоў засмяяўся: відаць, яму спадабалася гэтае параўнаньне, і ён яшчэ раз паўтарыў: — Да, конечно, мы будем детьми солнца». Устаў з лаўкі і, як самнамбул, пайшоў на захад, у бок сонца.

Затым Дудару прытрызьніўся Чарот. Ён сядзеў у той самай вязьніцы, што і Алесь, яны нават аднойчы па недаглядзе сустрэліся ў турэмным калідоры. Чарота было цяжка пазнаць. Ягоны твар заплыў ад пабояў і недасыпаньня. «Відаць, я выглядаю ня лепш», — падумаў тады Дудар. З турэмнай пагалоскі ён ведаў, што ў той самай вязьніцы знаходзілася каля сотні беларускіх пісьменьнікаў. Практычна ўсё сярэдняе і маладзейшае пакаленьні беларускай літаратуры.

Дудар заплюшчыў вочы, зноў занурыўся ў трызьненьне і пабачыў Чарота. Ён сядзеў у сваім кабінэце. Не за рэдактарскім сталом, а пасярод пакоя, у венскім крэсьле.

— Ты ведаеш, мне спадабаўся твой верш, — зь непаўторнай чаротаўскай усьмешкай на вуснах сказаў ён Дудару.

— Які верш? — Алесю, у прынцыпе, было ўсё роўна, які верш, і ён спытаў хутчэй па інэрцыі, на аўтамаце.

— Ну як які... Той самы... «Пасеклі наш край папалам...».

— А ты ня думаеш, што за гэты верш у турму трапіла ўся нашая літаратура? — з сумам спытаў Дудар.

— Ну, прынамсі, у яе цяпер ёсьць апраўданьне, за што пакутуе, — і Чарот засьмяяўся.

Некалькі хвілін яны маўчалі. Чарот устаў, прайшоўся па пакоі ўзад-уперад, зноў сеў у крэсла. Тады нахіліўся ў бок Дудара і сказаў:

— Няўжо ты думаеш, што за адзін верш могуць пасадзіць у турму ўсю нашую літаратуру?

І гучна засьмяяўся чаротаўскім аглушальным сьмехам. Заціх, зноў нахіліўся да Алеся, прамовіў:

— А ведаеш, ты меў рацыю. Мы згубілі пэрспэктыву, бо не вялі змаганьня.

Зноў устаў з крэсла, падышоў да стала, узяў у рукі пачак цыгарэт, дастаў зь яго цыгарэту, прыпаліў ад запалкі, сеў на ранейшае месца.

Дым ад цыгарэты пачаў актыўна запаўняць пакой, і хутка абрысы Чарота сталі ледзь бачнымі, а неўзабаве й зусім зьніклі.

Калі дым расьсеяўся, Дудар зразумеў, што ён у лесе. Восеньскае сонца яшчэ грэла, і ягонае цяпло нібыта разьлівалася па ўсім целе.

Дудар выйшаў зь верасовага сасновага бору на лясную дарогу. У які бок яму трэба ісьці, ён ня ведаў, таму павярнуўся тварам да сонца і пай-

шоў на захад. Вельмі хутка ён заўважыў наперадзе постаць, якую даганяў. Калі іх разлучала ўжо мэтраў пяць-шэсьць, Дудар пазнаў яго — гэта быў Анатоль Тупіцын. Ён ішоў з поўным кошыкам белых.

— Здароў, Будзіцель! — з радасьцю ў голасе павітаўся Дудар.

Тупіцын рэзка павернуўся, ён ніяк не чакаў, што нехта ідзе ўсьлед за ім. На ягоным твары чытаўся спалох.

— А, гэта ты, Алесь, — Анатоль, пабачыўшы сябра, адразу палагаднеў і ўжо роўным, прыязным голасам сказаў: — А я нядаўна пра цябе згадваў.

— І што згадваў?

— Што ты мяне запрашаў паступаць ва ўнівэрсытэт, а я адмовіўся.

— І што, шкадуеш?

— Не, не шкадую, — упэўнена адказаў Анатоль. — У мяне тут лес, грыбы. А ў цябе ў сталіцы толькі звады і даносы. — Будзіцель узьняў кошык і паказаў Дудару, колькі ён сёньня назьбіраў баравікоў.

— Ты ведаеш, я не пасьпеў табе расказаць адну дзіўную гісторыю.

— І пра што яна?

— Пра падземны ход у Полацку. Я давяраў табе і павінен быў расказаць.

— Дык раскажы зараз.

Сябры сышлі з дарогі і селі на цёплы, мяккі мох. І Дудар пачаў распавядаць усё ад самага пачатку: ад сустрэчы зь дзедам у кабінэце рэдактара полацкай газэты.

— А ты ведаеш, у мяне нарадзіўся сын, — выслухаўшы сябра, сказаў Анатоль.

— Віншую! А хто твая абраньніца?

— А ты яе павінен памятаць, гэта Валя, камсамолка, мая былая вучаніца, якая затым працавала бібліятэкаркай у нашым Доме культуры.

— Добрая дзяўчына, віншую! — Дудар задумаўся і дадаў: — Вось і я ўзяў шлюб. Толькі штосьці мяне непакоіць. Ці будзе ў нас шчасьце?

— І яшчэ адна навіна. Па восені мяне пераводзяць выкладаць у Полацкі пэдтэхнікум. Хачу і бацькоў забраць з сабой у Полацак. Абяцаюць кватэру.

— Ня ведаю, ці мушу з гэтай нагоды цябе віншаваць. Але добра, што ты пачуў гісторыю пра падземны ход.

Сябры ўсталі і абняліся.

— Бывай, Анатоль!

— Бывай, Алесь!

* * *

Кроква адчуў дотык чыёйсьці далоні на сваім ілбе. Гэта яго абудзіла. Ён ляжаў на сырым пяску ў полацкіх лёхах. Ліхтар адкаціўся мэтры на тры, але па-ранейшаму сьвяціўся, дасылаючы прамень у адзін з бакоў падземнага ходу. У вушах гудзела, як пры пасадцы ў самалёце. Ён пазнаў яго адразу, хоць твар чалавека, які паклаў сваю далонь на яго лоб, амаль нельга было добра разгледзець. Гэта быў Власт.

— Ну што, ачуняў? — такім знаёмым голасам спытаў Ластоўскі.

— Нібыта, — адказаў Кроква, спрабуючы зрабіць нейкія рухі рукамі, але ў яго не атрымалася.

Задаваць пытаньне — адкуль узяўся Власт у падземных ходзе — было недарэчы. Таму Васіль спытаў зусім пра іншае:

— Дык сапраўды нельга вярнуцца?

— А ў які бок ты зараз пайшоў бы, каб вярнуцца? — пытаньнем на пытаньне адказаў Власт.

— Ня ведаю, так адразу і не адкажу, — шчыра прызнаўся Кроква.

Яму было цяжка дыхаць, і ён гаварыў зусім слабым голасам.

— А куды дзеліся тыя кадэты, якія пайшлі ў падземны ход і не вярнуліся? — Кроква раптам згадаў дзіўную гісторыю, якую яму распавёў краязнаўца Міхась. Ці ён сам захваляваўся, што можа не вярнуцца з гэтага падарожжа, ці проста тая гісторыя не давала яму спакою.

— Нікуды яны ня зьніклі. Вырашылі зьехаць у Амэрыку. Прыдумалі такую гісторыю, што пойдуць у падземны ход і нібыта ня вернуцца. А самі скіраваліся ў Пецярбург, наняліся на карабель матросамі, даплылі да Амэрыкі і засталіся там жыць.

— Вось як... — Кроква памаўчаў некалькі сэкундаў і расчаравана дадаў: — Усе тамніцы аказваюцца банальным ашуканствам.

Власт прыняў сваю далонь, якую трымаў увесь гэты час на лбе Кроквы, раздумліва хмыкнуў і сказаў:

— Ну чаму ўсе. Вось ты ляжыць у падземных лёхах — і ніякае гэта не ашуканства.

— Але ў чым тут таямніца? — Васіль пачаў думаць, што пара ўжо неяк выбірацца з гэтай падземнай касткі.

— Таямніцы яшчэ наперадзе, — неяк загадкава адказаў Власт.

Кроква раптам згадаў, што адно істотнае пытаньне па-ранейшаму засталося без адказу.

— А хто напісаў на гарышчы езуіцкіх муроў, што «нельзя вернуться»? Адкуль нельга вярнуцца?

— Гэтую загадку табе трэба будзе разгадаць самому, — Власт сказаў гэта так, нібыта настаўнік задаў свайму вучню хатняе заданьне.

Кроква адчуў, што можа варушыцца. Ён перавярнуўся, устаў вокрач і папоўз у бок ліхтарыка. Узяў яго ў рукі і пасвяціў назад, дзе застаўся Ластоўскі. Ліхтарык сьвяціў досыць цьмяна. І ўсё ж можна было разгледзець, што Власта на ранейшым месцы ўжо не было.

Васіль пачаў разважаць, у які ж бок сапраўды яму трэба вяртацца. Ён пачаў дасьледаваць пясок пад нагамі і заўважыў сьляды, што ішлі якраз з таго боку, дзе ляжаў ліхтарык. Кроква выпрастаўся і рушыў у пошуках выйсьця.

Ён спрабаваў глыбока ўдыхаць, і падалося, што яму гэта дапамагло ачомацца. Кожны крок даваўся з цяжкасьцю. Мэтраў праз трыццаць Васіль адчуў, што ў лёхах пасьвяжэла паветра, а затым у падзямельлі пасьвятлела. Да выхаду, напэўна, было ўжо недалёка. Мужчына прысьпешыў крок і зрабіў памылку. Ня варта было губляць асьцярожнасьць. Правая нага падвярнулася, і Кроква зноў бразнуўся долу на сыры

пясок. На гэты раз ён не страціў прытомнасьці. Ён паспрабаваў устаць, але зь першай спробы не атрымалася. Васіль стаў апірацца на мокрую, сьлізкую цагляную сьцяну. Калі ён амаль падняўся, правая рука адчула невялікую нішу — у кладцы не хапала цэглы. Далонь намацала нейкі мэталічны прадмет. Ён дастаў яго зь нішы і пасьвяціў ліхтарыкам. Гэта была вялікая латунная гільза, відаць ад буйнакалібэрнага кулямёта. Прычым гільза ня мела кулі, а была заткнутая кавалкам тканіны. Кроква паклаў гільзу ў кішэнь камізэлькі і асьцярожна рушыў далей.

Сьвятло наперадзе асьляпіла яго. Васіль заплюшчыў вочы. Адчуў, як па шчацэ пацякла сьляза. Узрушаны, ён стаў некалькі хвілінаў, нібыта зьбіраючы ўсе свае сілы, каб нарэшце выбрацца з падзямельля. Вылезьці аказалася ня так проста, бо ўваход у лёхі быў зьверху. Скочыць у тунэль было лёгка. Складаней вярнуцца на паверхню. Кроква пачаў шукаць на доле — на што можна было б стаць. Знайшоў кавалак дошкі, паставіў яе бокам і неяк ускараскаўся. Затым узяў той корч, якім зачыняўся ўваход, уставіў яго ў дзіру, што вяла ў дрэнаж, прысыпаў зямлёй.

Вырашыў спусьціцца па схіле на бераг Палаты і там адпачыць. Сеў на адшліфаванае вадой бервяно і безуважна глядзеў хвілінаў дзесяць на плынь ракі. Затым згадаў пра знаходку. Дастаў з кішэні. Гэта была сапраўды гільза ад буйнакалібэрнага кулямёта савецкай вытворчасьці. Кроква выцягнуў з гільзы затычку і пачаў вытрасаць зьмесьціва. З гільзы выпаў кавалак паперы. Ён быў скручаны ў трубачку. Васіль

пачаў разгортваць паперу. Як ён і чакаў, у гільзе знаходзіўся ліст-пасланьне. Хімічным алоўкам было напісана ўсяго некалькі словаў: «Забойца Леанід Васілевіч Дабраседаў. Гэта ён галоўны полацкі кат. Ён расстраляў усю маю сям'ю. Адпомсьці за мяне. Анатоль Тупіцын». Надпіс ад вільгаці месцамі расплыўся, але прачытаць яго можна было без складанасьцяў.

Імя, пазначанае ў цыдулцы, падалося Васілю знаёмым. «Леанід Васілевіч Дабраседаў», — паўтарыў ён для сябе ў голас. Ну як жа, ён ведаў яго. Гэта быў той самы легендарны камандзір партызанскага атраду «За Сталіна», у якога Кроква двойчы браў інтэрвію.

Па сьпіне ў Васіля пабеглі мурашы, і ён абхапіў рукамі галаву. Васіль Кроква вяртаўся ў памяці да той першай сустрэчы. З камандзірам-героем. З катам.

*2015*

# Зьмест

